


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

19 КАСТРЫЧНІКА 2001г. № 42/4124 КОШТ 134 РУБ.


## НЕПАРЫЎНАЯ ЛУЧНАСЦЬ ДУХОЎНАСЦІ І ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

***Уладзімір АЛЕСІН: "У Алматы з 1992 года дзейнічае культурны цэнтр "Беларусь", асноўным накірункам і задачай якога з'яўляецца адраджэнне беларускіх традыцый, звычаяў, захаванне і развіццё роднай мовы..."***

**5**

## СПАСЦІГНУЦЬ ІСЦІНУ

***Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ прапануе штрыхі да творчага партрэта Ганада Чарказяна***

**6—7**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

***Пятра ПРЫХОДЗЬКІ***

**8**

## ТРЫ АПАВЯДАННІ

***Івана НАВУМЕНКІ***

**9**

## ЗЯМЛЯ І НЕБА ФЕРДЫНАНДА...

***Наталля ШАРАНГОВІЧ: "Сваю мастакоўскую прыхільнасць да Беларусі Рушчыц вызначыў сам, дастаткова толькі пачытаць яго дзённік. Як, дарэчы, і другі выдатны мастак—Вітольд Бялыніцкі-Біруля, які таксама з гонарам пісаў: "я—беларус", хаця большую частку жыцця пражыў у Расіі."***

**10—11**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 750 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2000 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

***Няміга. Гісторыя і сучаснасць...***

*Фота А. КАЛЯДЫ*



# КОЛА ДЗЁН

***Не заўважым, як і кастрычнік праляціць праз наша жыццё, як тонкая павуцінка бабінага лета праз апусцелыя беларускія палеткі. Не за гарамі маразы. Пра гэта ўжо неаднаразова казалі сіноптыкі. Але і без сіноптыкаў бачна, што нас чакае наперадзе. Тым больш, што мы жывём на свеце не першы год...***

***А ў свеце трывожна. Амерыка і яе саюзнікі скідаюць бомбы ды ракеты на Афганістан. У сваю чаргу міжнародныя тэрарыстычныя арганізацыі рассылаюць па свеце пісьмы з белым парашком, якія заражаны сібірскаю язваю. У ЗША ад сібірскай язвы памерла ўжо некалькі чалавек. Тэрарысты пагражаюць і нашай суседцы Расіі...***

***Наперадзе зіма...***

### СВЯТЫ ТЫДНЯ

У мінулую нядзелю ў нашай краіне было свята — Дзень работнікаў культуры. Яно адзначалася трэці раз. Напярэдадні адбылася прэс-канферэнцыя, у якой удзельнічалі супрацоўнікі Міністэрства культуры, кіраўнікі вядучых калектываў Беларусі. У сваім выступленні намеснік міністра культуры Беларусі Валерый Гедройц закрануў актуальнае для работнікаў культуры пытанне аб паэтапным павеліччэнні зарплаты: "Да ўзроўню зарплаты, эквівалентнай 100 доларам, мы яшчэ не дайшлі, але да канца года дойдзем..." Карэспандэнтам "Звязды" было зададзена пытанне пра помнік Францыску Скарыну ў Мінску. Яно выклікала палеміку, але ўсе пагадзіліся, што помнік беларускаму першадрукару павінен з'явіцца... у гэтым стагоддзі... А наогул, Дзень работнікаў культуры прайшоў для многіх жыхароў нашай краіны амаль незаўважаны, бо якраз у гэты дзень было яшчэ тры святы — Пакровы, Дзень маці і Дзень стандартызацыі.

### НАМЕР ТЫДНЯ

Ужо не адзін год, як паміж нашай краінай і яе суседзямі існуе дзяржаўная мяжа з усімі адпаведнымі атрыбутамі. Нядаўна стала вядома, што Літва збіраецца зачыніць 23 памежныя пункты на мяжы з Беларуссю і пакінуць толькі некалькі мадэрнізаваных і добра забяспечаных міжнародных памежных пераходаў. Гэта выклікана тым, што сістэма памежнай аховы Літвы імкнецца да стандартаў Еўрапейскага Саюза. Дзякуючы гэтаму плануецца ўмацаваць міжнародныя пункты памежнага кантролю ў Лаварышках, Медніках, Райгардзе і Салечніках, а таксама чыгуначныя памежныя пункты ў Гадуцішках і Кяне.

### ПРЫСУДЖЭННЕ ТЫДНЯ

11 верасня Шведская акадэмія прысудзіла Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Яе атрымаў англійскі пісьменнік індзійскага паходжання Від'ядхара Сурайпрасад Найпол. Ён нарадзіўся ў 1932 годзе на Трынідадзе, вучыўся ў Оксфардзе і працаваў вольным журналістам на Бі-бі-сі. Новага нобелеўскага лаўрэата па літаратуры ў нашай краіне, відаць, ведаюць лічаныя спецыялісты-літаратуразнаўцы. Нашага Васіля Быкава ізноў абмінулі...

### СПЫНЕННЕ ТЫДНЯ

З 15 кастрычніка 2001 года на Беларускай валютна-фондавай біржы спынена каціроўка валют, якія ўваходзяць у зону еўра. Па словах спецыялістаў біржы, дадзеная мера прынята ў сувязі з пераходам разлікаў з валют краін-удзельніц Еўрапейскага валютнага саюза на еўра. Словам, у каго ёсць нямецкія маркі і іншая еўрапейская валюта, тым варта яе пазбавіцца, бо такое багацце хутка ператворыцца ў прыгожыя паперкі і не больш...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Ва ўсе часы людзі імкнуліся і цяпер імкнуцца паглядзець на свет і сябе паказаць. Праўда, імкненне імкненнем, але калі ў цябе няма грошай, то сядзі сабе, браце, дома і нікуды не рыпайся. І ўсё ж за мінулае паўгоддзе з турыстычнымі мэтамі ў іншыя краіны з'ездзіла 641 394 беларусы. Найбольш прыцягальная — Польшча, якую наведала 544 128 чалавек. З вялікім адрывам, хоць і на другім месцы, стаіць Расія — яе наведалі 44 688 грамадзян Беларусі. Далей ідуць Украіна (9916), Літва (8307), Чэшская Рэспубліка (7273), Германія (6878), Турцыя (3270), Балгарыя (2960), Францыя (2632), Іспанія (1914), Венгрыя (1787), Італія (1185), Егіпет (1082), Славакія (988), Кіпр (866). У працэнтных адносінах колькасць грамадзян Беларусі, што выязджалі на арганізаваны адпачынак у замежжа, у параўнанні з мінулым годам узрасла на 11,9 працэнта. У той жа час на 14,8 працэнта стала менш замежных грамадзян, што прыязджалі да нас, — 25 323 чалавекі. Найбольшая колькасць замежных турыстаў была з Расіі (5198), а найменшая — з Аўстрыі (307). Лічбы гавораць самі за сябе...

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

У сувязі з тэрарыстычнымі актамі, якія адбыліся ў ЗША 11 верасня, і супрацьтэрарыстычнай акцыяй ЗША і яе саюзнікаў у Афганістане, Літва будзе прасіць Беларусь канкрэтна вызначыць межы нялётнай зоны над тэрыторыяй, якая непасрэдна прылягае да Ігналінскай АЭС. Пра гэта заявіў міністр аховы краю Літвы Лінас Лінкявічус. Над Ігналінскай АЭС ужо існуе нялётная зона: любым самалётам забаронена пралятаць бліжэй чым 5 кіламетраў да станцыі і ніжэй чым 6 кіламетраў над ёю. Цяпер нялётную зону мяркуецца павялічыць да 30 кіламетраў. У гэтым выпадку, як гаворыцца, беражонага Бог беражэ...

### ГРОШЫ ТЫДНЯ

Не здзіўляйцеся, калі на беларускіх рублях, якія вы атрымаеце ў час зарплаты, убачыце англійскі надпіс "MILLENNIUM". З 1 кастрычніка Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у зварот купюры вартасцю 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1000, 5000, 10 000 рублёў са спецыяльным штампам-надпісам, размешчаным на белым полі адваротнага боку банкноты. Такія грошы з надпісам "MILLENNIUM" прысвечаны новаму тысячагоддзю.

### СПАДЗЯВАННЕ ТЫДНЯ

Настаўнік нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе Эдуард Малафееў правёў прэс-канферэнцыю, на якой падвёў вынікі выступлення нашых футбалістаў у адборачным цыкле да ЧС-2002. Ацаніўшы выступленне каманды як нездавальняючае, Эдуард Малафееў заявіў аб сваім намеры пакінуць пасаду галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай. Аднак Э. Малафееў мае гадавы кантракт з ФК "Дынама-Мінск" аб прызначэнні яго на пасаду галоўнага трэнера каманды, таму варта спадзявацца, што ён і далей будзе трэніраваць і нацыянальную зборную. Ва ўсякім разе на гэта спадзяюцца многія заўзятары, якія бачылі не толькі паражэнні нашай зборнай, але і яе цудоўныя перамогі...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На пасяджэнні сакратарыята Саюза беларускіх пісьменнікаў з дакладам аб перспектывах і задачах выступіла старшыня СБП В. Іпатава. Сёння перад Саюзам пісьменнікаў паўсталі сур'ёзныя задачы па больш актыўным удзеле ў кнігавыдавецкай дзейнасці, прапагандзе беларускай літаратуры праз сродкі масавай інфармацыі, арганізацыйнай рабоце, пашыраюцца міжнародныя сувязі СБП: рыхтуецца да выпуску ў свет зборнік апавяданняў беларускіх аўтараў на іспанскай мове, а таксама кніга беларускай паэзіі ў перакладзе на літоўскую і рускую мовы, развіваюцца сербскі, румынскі, расійскі, славацкі, літоўскі накірункі. М. Мятліцкі, У. Ліпскі, А. Камароўскі, якія прынялі ўдзел у абмеркаванні, гаварылі аб праблемах, якія паўсталі сёння перад выдавецтвамі, пра пільную патрэбу выдання арыгінальнай літаратуры пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі, Міністэрства адукацыі, кнігагандлюючых арганізацый. Намеснік старшыні СБП В. Праўдзін, які выступіў па другім пытанні, расказаў пра распачатую работу па стварэнні Бюро прапаганды. Сакратарыят выслухаў паведамленне намесніка старшыні СБП Н. Гальпяровіча і зацвердзіў старшынёй прыёмнай камісіі Г. Далідовіча, старшынёй секцыі прозы — Б. Пятровіча, старшынёй секцыі дзіцячай літаратуры — А. Вольскага, старшынёй секцыі перакладу — І. Чароту, старшынёй секцыі крытыкі і літаратуразнаўства — А. Карлюкевіча. Была заслухана таксама справаздача У. Мачульскага аб фінансавым становішчы Белліtфонду.

У абмеркаванні пытанняў прынялі ўдзел Г. Далідовіч, С. Законнікаў, У. Саламаха, А. Пісьмянкоў, У. Навумовіч.

**М. Р.**

•

Завяршаюцца справаздачна-выбарчыя сходы ў абласных пісьменніцкіх арганізацыях. На іх большасцю галасоў сакратаром Брэсцкага абласнога аддзялення выбраны Алесь Каско, Гомельскага аддзялення — Васіль Ткачоў, Гродзенскага — Данута Бічэль, Магілёўскага — Уладзімір Дуктаў. Сакратаром Віцебскага абласнога аддзялення застаўся Франц Сіўко.

•

З поспехам прайшлі творчыя сустрэчы на Гродзеншчыне старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольгі Іпатавай. Чытачы, сярод якіх былі студэнты, бібліятэкары, работнікі культуры, цікавіліся не толькі работай пісьменніцкай арганізацыі, а і творчасцю сваёй зямлячкі, яркай і самабытнай пісьменніцы — аўтара папулярных кніг прозы і паэзіі.

**Н. К.**

# Адраджэнне — праз музыку

## ЧАРГОВЫМ ФЕСТЫВАЛЕМ АДЗНАЧАЕ СВАЁ 10-ГОДДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ТЭАТРАЛЬНА-КАНЦЭРТНАЕ АБ'ЯДНАННЕ "БЕЛАРУСКАЯ КАПЭЛА"

Фестывальныя канцэрты (а першы з іх адбудзецца 23 кастрычніка) пройдуць у Зале камернай музыкі на Залатой Горцы і, апроч прэм'ер, прадставяць тыя творы і тых творцаў, што ў свой час адкрылі, адрадзілі энтузіясты "Беларускай Капэлы" ды іх сябры.

Мастацкі кіраўнік "БК", знаны спявак, артыст, асветнік Віктар Скорабагатаў падкрэслівае, што ў праграмах XI фестывалю — нямала ўжо добра знаёмай музыкі, якая зрабілася неад'емнай часткай сучаснай беларускай культуры, нашага канцэртнага жыцця, увайшла ў рэпертуарны актыў выканаўцаў, гучыць у эфіры.

Але ж вядомасць, якую апошнім часам набылі забытыя старонкі музычнай спадчыны, — вынік грунтоўнай комплекснай працы: пошукавай, даследчыцкай, рэдактарскай, асветніцкай, арганізатарскай, выканальніцкай! Пра гэта міжволі згадваеш ля сёлетняй фестывальнай афішы. І разумееш, наколькі прынцыповым было для В. Скорабагатава рашэнне спалучыць у ёй прэзентацыю новых творчых работ са своеасаблівай рэтраспектывай дзейнасці "БК". Увага і пашана скіроўваюцца пераважна на музыкантаў — выканаўцаў і рэдактараў нотных тэкстаў, — на тых, чый энтузіязм вось ужо 10 з лішнім гадоў сілкуе няпросты рух нацыянальна-культурнага адраджэння ў мастацкім жыцці.

Адкрые фестываль аднагодак і аддаены твоpы спадарожнік "БК" — Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава. "Віленскі сшытак" і "Планкты", Я. Голанд і С. Манюшка... І прэм'ера "Кіч-музыкі" В. Кузняцова, аднаго з нашых вядучых кампазітараў-суайчыннікаў. 26-га грае таленавіты чыннік беларускага музычнага адраджэння — прафесар Ігар Алоўнікаў. Паланезы М. Кл. Агінскага, п'есы братоў Ельскіх, Н. Орда, Я. Тарасевіч... І цэлае канцэртнае аддзяленне фартэпіянных транскрыпцый, якімі славіцца І. Алоўнікаў!

Вялікую праграму пад назвай "Музыка Літвы і Кароны" рыхтуюць камерны мужчынскі хор "Унія" і Камерны хор Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева. Маэстра ўспамінае, здаецца, усё лепшае, набытае за гісторыю айчыннай музычнай культуры ад 14-га стагоддзя да нашых дзён. Ад анапімнага грыгарыянскага напеву — да аўтарскіх твораў А. Літвіноўскага, І. Мацiеўскага, А. Хадоскі. Гэты харавы вечар пяяднае песняспевы з Супрасльскага ірмалагіёна, фрагменты з "Полацкага сшытка", творы С. Манюшкі, А. Туранкова, В. Селяха-Качанскага, М. Равенскага, М. Бутомы, М. К. Чурлёніса, П. Лукашэўскага...

А канцэрт вакальнай музыкі "званы старое казкі..." станецца адкрыццём выбраных твораў В. Шумана, Ф. Шуберта ды Я. Брамса з тэкстамі, перакладзенымі на беларускую Васілём Сёмухам. Выканаўцы — Віктар Скорабагатаў, Алена Бундзелева, Леся Лют, Рыгор Палішчук і незаменны "чалавек-аркестр", канцэртмайстар Ганна Каржанеўская.

Адзін з пачынальнікаў адраджэння беларускай музычнай спадчыны, першаадкрывальнік "Полацкага сшытка" — ансамбль старадаўняй музыкі "Кантабіле" таксама бярэ ўдзел у фестывалі. Меркавалася, што менавіта гэты калектыў пад кіраўніцтвам выдатнага флейтыста і аранжыроўшчыка Генадзя Гедыльтара распачне сёлетняе свята "Беларускай Капэлы". Але — да канца месяца ён у гастрольнай вандроўцы. Так што дата фестывальнага канцэрта пакуль не вызначана. Затое праграма ўжо на афішах: уверцюра да оперы Я. Голанда "Агатка, або Прыезд пана", творы М. Радзівіла, В. Казлоўскага, М. Каз. Агінскага (з удзелам В. Скорабагатава). І, вядома, — "Полацкі сшытак".

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: мастацкі кіраўнік "Беларускай Капэлы" заслужаны артыст Віктар СКОРАБАГАТАЎ. Фота М. ПРУПАСА*

ВЫСТАВЫ

# З фондаў Нацыянальнага Кіева-Пячорскага запаведніка

Упершыню за ўсю гісторыю адносін паміж Беларуссю і нашай суседкай Украінай 5 кастрычніка адбылася унікальная культурная і гістарычная з'ява — у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка ікон XV—XVIII стст. з фондаў Нацыянальнага Кіева-Пячорскага гісторыка-культурнага запаведніка і Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Украіны. 50 унікальных экспанатаў рэпрэзентуюць разнастайнасць стыляў украінскай іконы трох стагоддзяў. Яны выбіраны мастакамі розных рэгіёнаў — Галічыны, Валыні, Кіеўшчыны, Чарнігаўшчыны.

Перад адкрыццём выстаўкі ў музеі, сярод украінскіх экспанатаў адбылася прэс-канферэнцыя для журналісцкага корпуса рэспублікі, у якой прынялі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны на Беларусі Анатоль Дронь, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Валерый Гедройц, прафесар Акадэміі навук Украіны, доктар філасофіі і мастацтвазнаўства Дзмітрый Сцепавік, дырэктар Цэнтра рэстаўрацыі і экспертызы Нацыянальнага Кіева-Пячорскага гісторыка-культурнага запаведніка Юрый Вакуленка.

Як адзначалася выступоўцамі, гэтая выстаўка стала магчымай дзякуючы падтрымцы Пасольства Украіны на Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Асабістыя намаганні прыклалі, каб гэты праект адбыўся, дырэктары двух музеяў — генеральны дырэктар Нацыянальнага Кіева-Пячорскага гісторыка-культурнага запаведніка Сяргей Кралявец і дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў. Тут жа, у прысутнасці журналістаў, перад адкрыццём выстаўкі, дырэктары двух музеяў Сяргей Кралявец і Уладзімір Пракапцоў падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве паміж музеямі, якое прадугледжвае самы шырокі і рознабаковы спектр сумеснай музейнай дзейнасці.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Спадкаемца Жыновіча

## ЯЎГЕНУ ГЛАДКОВУ — 60

Артыст і Педагог. У гэтым ён падобны да свайго настаўніка — Іосіфа Жыновіча, па класе якога скончыў Беларускую акадэмію музыкі (на той час — кансерваторыю). Тут ужо 35 гадоў выкладае, выхаваў не адно пакаленне цымбалістаў, сярод якіх таксама ёсць і педагогі, і артысты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў.

Прафесар Яўген Гладкоў рэдагаваў 2-е выданне "Школы ігры на цымбалах" І. Жыновіча, арганізоўваў навуковую канферэнцыю да 90-годдзя з дня яго нараджэння. Ды можна лічыць, што стварыў і сваю школу, заснаваную на прынятай у спадчыну методыцы настаўніка-першапраходца, пачынальніка прафесійнай адукацыі беларускіх цымбалістаў. Так, Я. Гладкоў — аўтар сучасных метадычных дапаможнікаў, складальнік рэпертуарных зборнікаў, іх рэдактар. Строгі экзаменатар будучых калег, удзельнік многіх конкурсных журы, стваральнік студэнцкіх выканаўчых калектываў. Адзін з ініцыятараў правядзення фестывалю цымбалаў у Маладзечне...

Заўважана: таленавіты вучань ідзе не след у след за настаўнікам, а пракладвае свой шлях — далей, па цаліку. Іосіф Жыновіч выканаў сапраўды гістарычную місію перад многімі пакаленнямі таленавітых народных музыкаў, узняўшы "вясковы" інструмент на ўзровень прафесійнага акадэмічнага мастацтва. Яўген Гладкоў выканаў гістарычную місію перад нацыянальнай беларускай школай ігры на цымбалах, заснаванай І. Жыновічам, перад нашым народна-інструментальным выканальніцтвам, стварыўшы Беларускую асацыяцыю цымбалістаў — як раўнапраўную ўдзельніцу Сусветнай цымбальнай асацыяцыі. Абодва паклапаціліся пра міжнародны прэстыж "музычнай візітоўкі" нашай краіны...



Вядома, што Я. Гладкоў як саліст-віртуоз аб'ехаў з гастролямі многія краіны. Мы распавядалі і пра міжнародны поспех Беларускай асацыяцыі цымбалістаў на чале з Гладковым, пра яго творчыя кантакты з іншаземнымі калегамі, пра добрыя стасункі з прэзідэнтам Сусветнай цымбальнай асацыяцыі — венгерскай артысткай Вікторыяй Херэнчар, якая неаднойчы прыязджала на Беларусь, паспрыяла правядзенню Міжнароднага кангрэса цымбалістаў у Магілёве...

Між тым, прафесар любіць іграць у ансамблі са сваімі вучнямі. Яго выступленні ў кампаніі маладых цымбалістаў зрабіліся добрай традыцыяй сталічнага канцэртнага жыцця. І што вельмі кранальна — Яўген Пятровіч перад выхадам на сцэну хвалюецца амаль як дэбютант, аднačасова пераžываючы за тых, хто поруч.

Таварыскі з калегамі, малады сярод моладзі. З журналістамі — грунтоўны і лёгкі на слова суразмоўца... Што прываблівае ў ім? Тонкае пачуццё эстэтычнага, аналітычны розум, самакрытычнасць, арганізатарскія здольнасці, адкрытасць да новага і павага да традыцый, тэмперамент і далікатнасць, сціпласць і дасціпнасць...

Дарэчы, вы чулі, што сціпласць — самы кароткі шлях у невядомасць? Аказваецца, гэта зусім не аксіёма. Мне даводзілася часам заўважаць, як Яўгена Пятровіча "павышалі ў званні", называючы, прадстаўляючы народным артыстам Беларусі, хаця ён доўгі-доўгі час прабыў у чыне заслужанага. Людзі нават спрачаліся: маўляў, не можа быць, прафесар Гладкоў — дайно ўжо народны!

Дапускаю, што, даведаўшыся пра юбілей Артыста і Педагога, хтосьці таксама здзівіцца: не можа быць, ужо — шэсцьдзесят? Малады, а юбіляр...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. МАЦЮША*

# Ад падкамітэта па дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры

## ПАДКАМІТЭТ ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ ПРЫМАЕ РАБОТЫ НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 2002 ГОДА

*Згодна з Палажэннем аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прэміі прысуджаюцца:*

— за таленавітыя, глыбокія па змесце і адметныя па форме творы літаратуры, выяўленчага мастацтва, дызайну, архітэктуры, тэатральныя пастаноўкі, кінафільмы, музычныя творы;

— выдатныя дасягненні выканальніцкага майстэрства, якія маюць эстэтычную каштоўнасць і ўносяць значны ўклад у беларускую нацыянальную культуру;

— маштабныя публікацыі ў галіне журналістыкі, выдатныя даследчыя работы ў галіне літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства, тэорыі і гісторыі мастацтва.

Творы літаратуры і мастацтва, дызайну, навуковыя работы і архітэктурныя збудаванні прымаюцца да разгляду не раней, чым праз год пасля іх апублікавання ў друку, публічнага выканання, пабудовы.

Творы літаратуры, журналістыкі, публіцыстыкі, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, дызайну, навуковыя работы павінны быць апублікаваны, выстаўлены для публічнага прагляду, пабудаваны не болей чым за пяць год, а кіна- і тэлефільмы, тэатральныя, радыё- і тэлеспектаклі, канцэртныя праграмы публічна выкананы, паступілі ў пракат не больш чым за тры гады да даты прысуджэння прэмій.

Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прысуджаюцца адзін раз у два гады (кожны цотны год).

*Памер прэміі ўстанаўліваецца пры зацвярджэнні рашэння аб яе прысуджэнні Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.*

Вылучэнне работ на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ажыццяўляецца міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, арганізацыямі, творчымі, грамадскімі аб'яднаннямі, установамі культуры, навуковымі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, працоўнымі калектывамі, рэдакцыямі газет і часопісаў, выдавецтвамі.

Рашэнне аб вылучэнні работы прымаецца адкрытым галасаваннем, а аб вылучэнні кандыдатаў у *калектыў саіскальнікаў - тайным* галасаваннем з удзелам усіх аўтараў работы (пры наяўнасці кворуму, прынятага ў арганізацыі, дзе праводзіцца галасаванне). У склад калектыву, які вылучаецца, могуць уваходзіць толькі асобы, якія з'яўляюцца аўтарамі дадзеных твораў. Тайнае галасаванне кандыдатур саіскальнікаў праводзіцца па месцы іх працы або ў арганізацыі, якая іх вылучае.

Не допускаецца вылучэнне на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры работ, аўтары якіх раней адзначаны за іх дзяржаўнымі ўзнагародамі. Не допускаецца і аднačасовае прадстаўленне адной і той жа работы (або кандыдатуры) на атрыманне Дзяржаўнай прэміі і іншай дзяржаўнай.

Не допускаецца ўключэнне ў калектыў саіскальнікаў асоб:

— *толькі па прыкметах адміністрацыйнага, кансультатыўнага і арганізацыйнага дачынення да работы;*

— раней удастоеных за гэту работу дзяржаўнай узнагароды;

— уключаных у калектыў аўтараў работы, вылучанай на атрыманне міжнароднай прэміі або прэміі іншай дзяржавы.

Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь паўторна не прысуджаецца.

У састаў калектыву саіскальнікаў могуць быць уключаны асобы, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, але выконвалі работу па сумесных з арганізацыямі рэспублікі планах і праграмах і вылучаны гэтымі арганізацыямі.

Работы, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, прымаюцца да разгляду Падкамітэтам па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры да 1 лютага 2002 года і разглядаюцца ў два этапы. На першым этапе адбіраюцца работы для ўдзелу ў конкурсе на атрыманне прэміі, на другім - прымаецца рашэнне аб прысуджэнні прэміі.

*Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем і афармленнем работ, звяртацца ў Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры па адрасе: 220072, г.Мінск, вул.Сурганава, 1/2, пакой 412. Тэл. /факс: 284-23-81.*

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## "Дзед і жораў" — падарожнік

Падчас міжнароднага тэатральнага свята, прысвечанага стагоддзю з дня нараджэння С. Абразцова, якое нядаўна завяршылася ў Маскве, брэсцкія лялечнікі з вялікім поспехам паказалі спектакль паводле п'есы В. Вольскага "Дзед і жораў" (рэжысёр Зм. Нуянзін, мастак М. Данько). Болей за паўсотні тэатраў з 15 краін з'ехаліся на гэты прадстаўнічы культурніцкі форум. Тым больш прыемна зазначыць, што работа брэсцкага калектыву была ацэнена як адна з найцікавейшых і высокапрафесійных у агульнай праграме тэатральнага свята. Адразу пасля абразцоўскага фестывалю нашы лялечнікі з тым жа "Дзедам і жоравам" накіраваліся ў Івана-Франкоўск (Украіна), дзе праходзіць яшчэ адна міжнародная імпрэза — "Нацыянальная класіка на сцэне тэатра лялек". Можна не сумнявацца, што і там брэсцкія артысты выступяць на самым высокім узроўні, а гледачы атрымаюць сапраўдную асалоду ад выдатнай беларускай казкі, так удала ўвасобленай на сцэне.

**І. Х.**

## Аўтарскія песні — у Баранавічах

Яўген Савельеў — бард. Нарадзіўся ў Лукомлі, жыве ў Віцебску. А нядаўна выступіў на вечары песні ў Баранавічах. Спяваў па-беларуску, выконваў уласныя песні на польскай, чэшскай, украінскай і рускай мовах. Слухачоў — зачараваў.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Юбілей цэнтра

Гомельскаму Цэнтру культуры, вядомаму сваёй актыўнай творчай дзейнасцю, споўнілася 25 гадоў. Днямі тут адбыўся юбілейны канцэрт. У ім прынялі ўдзел ансамбль "Гомій", мадэрн-балет "Квадра", клуб аўтарскай песні, іншыя творчыя калектывы, а таксама вядомыя эстрадныя салісты Беларусі і Расіі.

## Вернісаж Шчаснай

З творчасцю мінскай мастачкі Нэлі Шчаснай добра знаёмыя і гамяльчане. Зараз у карцінннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў выстаўлена 70 работ Шчаснай, большасць з якіх створана ў апошні час. Гэта ўжо другая выстава Нэлі Іванаўны ў Гомелі.

## Музыка глыбінкі

Значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры ўносіць Лельчыцкая дзіцячая школа мастацтваў — вядомая на Палессі культурніцкая ўстанова. У свой час яна адкрыла філіі ў вёсках Тонеж і Глушкавічы, а цяпер — і ў Сіманічах. Юнакі і дзяўчаты займаюцца тут музыкай у класах фартэпіяна і баяна.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Дыпломы — навучэнцам

У Магілёве адбыўся абласны тур чацвёртага рэспубліканскага конкурсу навучэнцаў мастацкіх і агульнаадукацыйных школ з мастацкім ухілам. Актыўны ўдзел у конкурсе прынялі выхаванцы мастацкай школы, сярэдняй школы № 19 і мастацкага каледжа з Бабруйска. Навучэнцы Тацьяны Арасланавай — вядучага бабруйскага майстра батыка і габелена — нават сталі дыпламантамі. Сярод іх — Алеся Сенчына, Надзя Селіверстава і Вольга Рудэнка. А дыпломы першай ступені ў розных намінацыях атрымалі Жэня Дзема і Таццяна Паўлючэнка.

## Дэбют маладых

На свяце горада Крычава, які адзначыў 865-годдзе, адбылася прэзентацыя зборніка маладых паэтаў "Дэбют". Пад такой назвай у Крычаве штогод праходзіць конкурс юных літаратурных талентаў. Але зборнік выйшаў упершыню. У яго ўвайшлі творы дваццаці юных паэтаў з Крычава. Кніжка накладам у тысячу асобнікаў выдадзена за кошт раённых бюджэтных сродкаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## У мастакоў — новы старшыня

Вынікі працы за апошнія тры гады падвялі мастакі Віцебска. Дарэчы, абласное аддзяленне Саюза мастакоў аб'ядноўвае 108 творцаў. На справаздачна-выбарным сходзе абраны новы старшыня аддзялення — Віктар Шылко.

## Барды збіраюцца на "Лістапад"

Свята аўтарскай песні "Віцебскі лістапад" праходзіць у гэтыя дні ў горадзе на Дзвіне ў 15-ы раз. Фестываль традыцыйна не ставіць сваёй мэтай выяўляць лепшых аўтараў і выканаўцаў. Галоўнае — удзел у канцэртных праграмах як вядомых, так і пачынаючых аўтараў з розных куткоў Беларусі, а таксама з Санкт-Пецярбурга, Масквы і Кіева.

## Багатыроў — ганаровы грамадзянін

Віцебскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб прысваенні звання "Ганаровы грамадзянін горада Віцебска" народнаму артысту Беларусі, лаўрэату Дзяржаўных прэмій СССР і БССР прафесару Анатолю Багатырову, які нарадзіўся тут у 1913 годзе, а ў 1930-ым скончыў Віцебскі музычны тэхнікум. Заснавальнік беларускай нацыянальнай оперы стаў 47-ым ганаровым грамадзянінам абласнога цэнтра.

**Святлана ГУК**

*МІНШЧЫНА...*

## Тыдзень маці

У мінулую нядзелю ў Клецку, у раённым Доме культуры, быў распачаты Тыдзень маці. Абласное свята, якое ладзіцца пяты год запар (летась праводзілася ў Бярэзінскім раёне), на гэты раз называлася "Мір і шчасце твайму дому, жанчына-маці!" З'ехаліся на яго прадстаўніцы ўсіх раёнаў Міншчыны: шматдзетныя кабеты, салдацкія маці, жанчыны, адзначаныя дзяржаўнымі ўзнагародамі. Адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці. Удзельнікі святочных мерапрыемстваў пасадзілі рабінавую алею мацярынскай славы.

Учора, 18 кастрычніка, тыдзень маці, арганізаваны абласным саветам жанчын, упраўленнем сацзабеспячэння і ўпраўленнем культуры, быў урачыста завершаны ў Чэрвені.

**НАШ КАР.**





## *"Сіняя птушка" — шчаслівы пачатак*

**Пасля паспяховага вяртання з Міжнароднага тэатральнага фестывалю "Абярэгі-1", які праходзіў у Івана-Франкоўску, брэсцкія лялечнікі пачынаюць актыўна рыхтавацца да адкрыцця чарговага тэатральнага сезона. Звычайна да гэтага ўрачыстага дня яны рыхтуюць прэм'еру. Аднак сёлета такая традыцыя парушана, і публіку чакае ўжо вядомы па рэпертуарнай афішы спектакль "Сіняя птушка" паводле М. Метэрлінка. Звязана гэта ў першую чаргу з тым, што нарэшце знойдзена замена выдатнаму акцёру тэатра Анатолю Мацвееву, які так заўчасна пайшоў з жыцця... Зараз яго ролі ў спектаклі паспяхова "прымервае" на сябе Міхась Перапечка, які нядаўна ўліўся ў трупу тэатра.**

**Таму 20 кастрычніка адна з самых лепшых, арыгінальных і цікавых пастановак берасцейскіх лялечнікаў будзе прапанавана гледачам самых розных узростаў. Застаецца нагадаць, што яшчэ над адной версіяй бессмяротнай "Сіняй птушкі" руплiва працавалі рэжысёр Зміцер Нуянзін, мастак Мікола Данько, кампазітар Анатоль Мядзведзеў. У спектаклі заняты ўвесь акцёрскі калектыў тэатра, прычым кожны артыст спраўляецца са сваімі ролямі проста выдатна.**

**Спектакль у свой час быў пастаўлены ў гонар 30-годдзя тэатра. Ён працягвае добрыя традыцыі першых стваральнікаў "Сіняй птушкі": ягоная складаная і празрыста-сімвалічная прастора і сённяшняя валодае магчымасцю бясконца і безупынна ўдасканальвацца, прычым на розных узроўнях: мастацкім, тэхнічным, акцёрскім...**

**І.Х.**

## *Кахаць, спадзявацца, чакаць...*

**3 кастрычніка Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа запрасіў гледача на вечар памяці рэжысёра і драматурга Валерыя Маслюка. Ігралі апошнюю пастаноўку творцы, якая мае сімвалічную назву "Кахаю, спадзяюся, чакаю..." Спектакль пастаўлены паводле твора Э. Сверлінга "Шлюха з Гарлема". Але рэжысёр не спыніўся толькі на прапанаваным матэрыяле, які прадугледжваў пастаноўку монаспектакля. Маслюк увёў у свой спектакль новых гераінь, новыя лёсы, новыя перажыванні. У спектаклі занятыя як сталыя актрысы — Т. Шашкіна, З. Гурбо, Л. Заграбельная, Л. Пісарава, так і зусім маладыя — Н. Саламаха, У. Ацясава, Н. Обухава. А галоўную ролю выконвае Ларыса Антосева. Менавіта яна прапанавала рэжысёру папрацаваць разам над гэтай п'есай. Жанр спектакля пазначаны як "маналогі пра тэатр". Сапраўды, гэта спектакль пра тое, як пераплятаецца наша жыццё і тэатр. Вось і ў гэтым творы мы сустракаем шмат розных лёсаў: прастытутка (А. Баркоўская), актрыса, у якой не склаўся творчы лёс (Л. Заграбельная), і проста жанчына, якая любіць тэатр усёй душою (З. Гурбо). Спектакль пра жыццё, тэатр, пра нас з вамі сённяшніх, нашы душы і маральныя каштоўнасці...**

**Пасля гэтага спектакля не было авацый. Гледачы памянулі Валерыя Маслюка, таленавітага чалавека, якога, на жаль, вельмі рана не стала. Колькі б ён яшчэ змог напісаць, зрабіць для тэатра, цяпер ужо не ведае ніхто. Але ўсе тыя, хто 3 кастрычніка прыйшоў на спектакль Валерыя Маслюка, яшчэ раз сталі сведкамі, што гэта быў сапраўды майстра сцэны.**

**Ганна ДАШКЕВІЧ, студэнтка ВДУ імя Машэрава**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Вежа, якая ўсё падае...

Пізанская вежа на Кастрычніцкай плошчы. Менавіта так выглядае раскошная каляровая праграмка да новага спектакля Мікалая Пінігіна. Асеннія прэм'еры "Нікола-театра" за тры гады паспелі стаць традыцыяй і чакаюцца з нецярпеннем: што ж на гэты раз скажа пра сваю любімую тэму — каханне — вядомы рэжысёр, чым здзівіць і парадуе? Пасля Мрожэка і Марбера ён зноў вярнуўся да новай расійскай драматургіі, а дакладней, да фарса Надзеі Птушкінай "Пізанская вежа".

Імя нашай сучасніцы Надзеі Птушкінай добра вядома ў тэатры і асабліва ў тэатры антрэпрызным. Скончыўшы рэжысёрскі факультэт Школы-студыі МХАТ, Птушкіна знайшла сябе ў драматургіі. Яна аўтар шасці дзесяткаў п'ес, многія з якіх ідуць на расійскай і замежнай сцэнах, пачынаючы з 1982 года. Ёсць у яе творчасці і свае крытыкі, і свае прыхільнікі. Для адных п'есы Птушкінай — "жаночае рукадзелле" ды "бульварны тэатр", для другіх — лірычнае, дакладна і тонка перададзенае адлюстраванне сучаснага жыцця. Што ж тычыцца "Пізанскай вежы", дык яна ўпершыню была пастаўлена ў Маскоўскім тэатры драмы імя Станіслаўскага чатыры гады таму. Нязменным глядацкім поспехам карыстаецца "Вежа..." у маскоўскай антрэпрызе Леаніда Трушкіна. Там герояў іграюць сапраўдныя Муж і жонка — Уладзімір Мяньшоў і Вера Алентава.



Сюжэт п'есы дастаткова просты. Жылі-былі двое, Муж і Жонка. Ён — прараб, яна — былы бібліятэкар, зараз — супрацоўніца камерцыйнай фірмы. Сярэднестатыстычныя, стомленыя праблемамі людзі. Дваццаць год разам — дастатковы тэрмін, каб згубіць нават самае лепшае і высокае ў адносінах, калі яно, вядома, было. Дваццаць год бесперапыннага летаргічнага сну... І раптам Жонка вырашае, што з яе хопіць. Яна пакуе чамадан і заяўляе Мужу, што едзе да свайго новага жаніха-італьянца ў далёкую Пізу. Увесь астатні час героі высвятляюць адносіны, прычым кожны даведваецца шмат чаго новага пра чалавека, побач з якім пражыў палову жыцця.

Эпіграф да п'есы быў выбраны — дакладней няма куды. Памятаеце вядомую думку Льва Мікалаевіча? "Кожная шчаслівая сям'я шчаслівая на свой лад. Усе няшчасныя сем'і падобныя адна на адну". Шмат што ў п'есе тыповае, амаль да штампаў. Якія асацыяцыі са звычайным Мужам? Тэлевізар, рыбалка, праца, папойкі. Жонка — сын, кухня, зноў праца. Усё гэта на фоне ўзаемнай душэўнай глухаты і слепаты. Асноўны "сляпы" і "глухі" ў п'есе драматурга-жанчыны, вядома ж, Муж: выпіваў, у п'яным угары нават немаўлятку-сына ўдарыў, кветак не дарыў, з цешчай не сябраваў, жонку ад любімай працы адцягнуў ды, як высветлілася, яшчэ і здраджваў пацішку. Жонка ж клапатліва калекцыяніравала "злачынствы" свайго Мужа, каб на развітанне вываліць усё гэта на яго бедную галаву. Незразумела толькі, чаго ж яна раней пра ўсё гэта маўчала? Ды і сама яна за "вялікім і чыстым каханнем" так і не знайшла часу, каб стаць для свайго любага прывабнай ці хаця б яму ўсміхнуцца. Не дзіўна, што Муж яе ўспрымае як старыя тапачкі, якія на людзі не адзенеш, а выкінуць шкада. Павагі да іншага ў абодвух — нуль. І тым не менш, яны цягнуць і цягнуць з разрывам. Надзея Птушкіна сваіх герояў пашкадавала, а таму фінал — не дапісала. Яе Жонка спазняецца на самалёт, а Муж у пастаноўцы Пінігіна ладзіць ёй замежны рэстаранчык на даму з вялізнай вежай-тортам. Па законах жанру хэпі-энд абавязковы, але праўдападобна "выруліць" на яго не атрымалася.

Дарэчы, пры чым жа тут Пізанская вежа? Яна ў Птушкінай сімвалізуе сям'ю. Дакладна гэтую думку фармулюе Жонка: "Сямейнае жыццё — як Пізанская вежа, усё падае, падае, ды ніяк не рухне". Параўнанне цікавае, але ці адкрывае тут драматург Амерыку? Што нельга прымусіць чалавека кахаць, што сямейнае жыццё часта рухаецца па інерцыі, ведаюць усе больш-менш сталыя людзі. Але п'еса і не разлічана на навізну. Яна разлічана на пазнаванне і суперажыванне, як любая сямейная меладрама. А як фарс — і на прыязнае стаўленне гледача да грубаватага камізму і крыху навязлівых музычных рэпрыз.

"Пізанская вежа" — з той драматургіі, што не патрабуе адкрытай рэжысёрскай прысутнасці на сцэне. У п'есе, дзе ўсё будуецца на размове-дуэлі двух герояў, галоўныя — акцёры. З іх выбарам рэжысёру прамахнуцца нельга. І Пінігін не прамахнуўся. І Алена Сідарава (Жонка), і нязменны тэатральны партнёр Пінігіна Сяргей Журавель (Муж) робяць усё магчымае, каб выклікаць суперажыванне да сваіх герояў. Але прэм'ера ёсць прэм'ера - месцамі дзеянні акцёраў былі залішне тэатральнымі. Вядома, спектакль павінен хоць крыху "абкатацца". Тады і зварот Алены Сідаравай да залы не будзе так рэзаць слых. Увогуле, гэтае патрабаванне кахання - самае слабае месца і ў п'есе, і ў спектаклі. Яго недарэчнасць не выратоўвае нават цёмная сцэна і жалобная музыка леанкавалаўскіх "Паяцаў".

Роля Мужа — сапраўды знаходка для лірыка-камічнага таленту Сяргея Жураўля. Спачатку акцёр старанна робіць са свайго героя смешную, сімпатычную свінку, якая задаволена рохкае над вячэрай і тэлевізарам. Але ў канцы спектакля аказваецца, што "і прарабы любіць умеюць" — Муж ператвараецца ў чалавека, які адмовіўся ад уласнага кахання, каб не траўміраваць жонку з сынам. Тут комік Сяргей Журавель ператвараецца амаль у трагіка. Яго герой можа дазволіць сабе любую паўзу — зала ў напружанай цішыні будзе чакаць працягу ягонай споведзі.

П'еса пра незаможны быт вымагала і адпаведнага афармлення сцэны. Перад гледачом — звычайны кватэрны інтэр'ер: пара табурэтак, стол, бялізна на вяроўках, пустыя трохлітровыя слоікі ўздоўж рампы, старэнькі тэлевізар, дачныя "дары прыроды", што сушацца на падлозе... Словам, усюды нейкая асаблівая айчынная пацёртасць і абыякавасць да таго, што навокал. На такім фоне добра марыцца пра далёкую Пізу і раскошны замак. Вядомы сваёй арыгінальнай сцэнаграфіяй мастак Зіновій Марголін напамінае пра сябе толькі ў канцы спектакля. Пара дэталяў — і звычайная кватэра ператвараецца ў італьянскі бар. Тут, у фінале, і з'яўляецца тая самая вежа ў выглядзе вялікага торта, якім частуе гераіню галантны гаспадар бара — Сяргей Журавель. Агні ззяюць, усе задаволена ўсміхаюцца - ну чым не карцінка з рэкламнага праспекта? Вось-вось, здаецца, прагучыць спакуслівая прапанова якога-небудзь турагенцтва. І яно... сапраўды гучыць. Рэклама на сцэне — развітальнае свавольства рэжысёра.

Што ж такое "Пізанская вежа"? Добры дыягнастычны даведнік па сямейных праблемах, выдатная нагода папераджываць свае, а заадно і чужыя беды. Але бытавізм п'есы надта ўжо не стыкуецца з элітарным іміджам рэжысёра — пастаноўшчыка "Арта", "Дотыка" і "Стрыптыза". П'еса пераадолела рэжысёра. Атрымаўся дабротны, таленавіты, цікавы, але — шырспажыў.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

РЭПЛІКА

# Наступны прыпынак "Щэрбіны"

Па гэтай трасе мы ездзім вельмі часта. Амаль кожны тыдзень на дачу. Гэтая дарога, паміж Заслаўем і Радашковічамі, вядомая да драбніц. Здаецца, ну, што дзіўнага можна ўбачыць у даўно знаёмай прыдарожнай вёсцы, праз якую праязджаў ужо, можа, сотню разоў. Але... Машынальна чытаю назву вёскі, вялікімі літарамі выведзеную на шыльдачцы аўтобуснага прыпынку, і... унутры нешта абрываецца.

Калі б мне нехта пра гэтае расказаў, я б не паверыў. А тут на ўласныя вочы — абуральная непісьменнасць... Надпіс прамільгнуў, застаўся ззаду. "А можа, не дагледзеў, можа, падалося", — думаецца мне. Але на зваротным шляху ўпэўніваюся, што не падмануўся, чорнымі літарамі на жоўтым полі вышэйпамянёнай шыльдачкі значыцца: ЩЭРБІНЫ.

Сапраўды "шэдэўр", ці не праўда? Так і хочацца спытацца ў яго аўтараў: шаноўныя, а на якой такой мове гэта напісана? Мо наша ўсюдыісная "трасянка" перайшла з вуснай формы ў пісьмовую і стала трэцяй дзяржаўнай мовай? Ці гэта такое звышарыгінальнае выкананне нейкай новай устаноўкі на двухмоўе: першую частку слова паспрабавалі напісаць па-руску, а другую — па-беларуску?

Сорамна. Нават вучань пачатковых класаў добра ведае, што ў беларускім алфавіце няма літары "щ", а літара "э" ў ненаціскным складзе пераходзіць у "а" — Шчарбіны. Але тое, што ведаюць малыя дзеці, відаць, не заўсёды вядома дарослым...

Мы хочам, каб нас паважалі заходнія краіны, Расія, усе дзяржавы свету, каб з намі лічыліся, і гэта натуральна. Але спярша нам трэба навучыцца паважаць самім сябе. Любіць і цаніць сваю гісторыю, культуру, мову, спыніць здзек над імі. Трэба ўсведамляць сябе нацыяй. А пра якую будучыню нашай краіны можна казаць, калі зусім нядаўна цягнікі прыбывалі ў Мінск на ЧУГ. ВАКЗАЛ (чугунны вакзал?!), калі трэба ЧЫГУНАЧНЫ. А ў мінскім метро і па сённяшні дзень ходзяць ПАЯЗДЫ.

**Зміцер КУЗМЕНКА**

# Непарыўная лучнасць духоўнасці і дзяржаўнасці



***25 кастрычніка Рэспубліка Казахстан святкуе 10-годдзе сваёй незалежнасці. З гэтай нагоды карэспандэнт штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" Марыя Рудовіч звярнулася да Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Уладзіміра Алесіна з шэрагам пытанняў.***

**— Уладзімір Іванавіч, які, на ваш погляд, стан культурнага казахстанска-беларускага ўзаемадзеяння?**

— У параўнанні з ранейшымі стасункамі ў рамках былога Саюза ССР нашы сённяшнія кантакты ў галіне культуры відавочна аслаблі. Гэта тычыцца не толькі казахстанска-беларускіх дачыненняў. Гэта агульная праблема фарміравання супольнай культурнай прасторы на абшарах СНД. Калі ўзгадаць, дык за савецкім часам адзіныя інфармацыйныя каналы так ці інакш дазвалялі багата ведаць пра жыццё ў іншых рэспубліках. Дзякуючы бібкалектару, вялікім кніжным тыражам, адзінаму кіраўніцтву культурай з цэнтра кніжныя навінкі, новыя п'есы і фільмы знаходзілі свайго чытача і гледача за тысячы кіламетраў ад "першакрыніцы". Магу сказаць, што ў Казахстане добра знаёмы з творчасцю такіх майстроў беларускай літаратуры, як Дудараў, Макаёнак, п'есы якіх ішлі і ідуць у тэатрах нашай краіны. Мы ведаем творы Быкава, Алексіевіч. Мы памятаем вашы фільмы мінулых гадоў. Горш з маладымі імёнамі. Але, думаю, што і нашы беларускія сябры не заўсёды могуць назваць прозвішчы казахстанскіх літаратараў, дзеячаў культуры.

**— З гэтай нагоды, калі ласка, больш падрабязней пра культуру Казахстана...**

— Як і раней сістэма культуры ў нас складаецца з сеткі арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў, а таксама дзяржаўных і грамадскіх органаў, 11 творчых саюзаў, што ажыццяўляюць і рэгулююць вытворчасць, размеркаванне і абмен набыткамі і паслугамі культуры. Першапачатковыя звенні ўключаюць культурна-асветніцкія ўстановы, тэатральна-відовішчныя прадпрыемствы, самастойныя творчыя і грамадскія арганізацыі, якія займаюцца культурнай дзейнасцю. Сёння ў Казахстане працуюць 90 музеяў, 46 тэатраў, 24 канцэртныя арганізацыі, 3138 бібліятэк, 1565 культурна-забаўляльных устаноў, каля 200 кінатэатраў. 2000 год быў у нас годам падтрымкі культуры. Летась адкрыліся ці аднавілі работу 727 аб'ектаў культуры, у тым ліку 468 бібліятэк, 238 клубаў, 5 новых тэатраў і 5 музеяў. Адрамантавана 1449 бібліятэк, 681 клуб, 49 музеяў, 11 тэатраў, 6 кінатэатраў, 2 філармоніі і г. д. Здаецца, гэтыя лічбы ўражваюць. За апошнія гады ў Астане, Петрапаўлаўску, Уральску, Усць-Каменагорску і Туркестане адкрыта пяць новых тэатраў. Летась у нашай маладой сталіцы, Астане, адбылося адкрыццё Прэзідэнцкага культурнага цэнтра з Дзяржаўным музеем, бібліятэкай, канцэртнай залай. Адкрылі Нацыянальны тэатр оперы і балета імя К. Байсеітавай. Народ Казахстана — шматнацыянальны і шматканфесіянальны, у краіне мірна жывуць прадстаўнікі 130 нацыянальнасцей, 40 канфесій і кангрэгацый. Апроч казахскіх і рускіх драматычных тэатраў — яны дзейнічаюць у кожнай вобласці, — ёсць Карэйскі і Уйгурскі тэатры музычнай камедыі і Нямецкі драматычны тэатр.

Неабходную падтрымку і адпаведнае развіццё мае народная творчасць. Шмат якія калектывы і фальклорныя ансамблі адраджаюць народныя вытокі культуры. У рэспубліцы дзейнічаюць 6143 самадзейныя калектывы, дзе бяруць удзел звыш 76 тысяч чалавек. 371 калектыў мае ганаровае званне народнага. Харэаграфічныя, драматычныя, харавыя і вакальныя калектывы, вакальна-інструментальныя, фальклорныя і сямейныя ансамблі з'яўляюцца асновай развіцця этнічных культур народаў, што насяляюць Казахстан, робяць неацэнны ўнёсак у адраджэнне і развіццё шматнацыянальнай культуры Казахстана.

У нас існуе такая структура, як Асамблея народаў Казахстана, што створана з нацыянальна-культурных цэнтраў. Апроч задач палітычнага кірунку, Асамблея займаецца культурна-асветніцкай працай. У дамах дружбы Асамблеі дзейнічаюць 35 нядзельных школ па вывучэнні розных моў — нямецкай, татарскай, іўрыту, арабскай, карэйскай, украінскай... Традыцыйным зрабілася правядзенне дзён, тыдняў нацыянальных моў, святаў "Наўрыз", "Масленіца", дзе вучні нядзельных школ і нацыянальных класаў знаёмяцца з побытам і традыцыямі народаў, што жывуць у Казахстане. Літаральна на гэтых днях у сталіцы пры актыўным удзеле Асамблеі прайшоў Фестываль моў народаў Казахстана.

Важнае месца ў культуры кожнага народа займаюць кнігі — неацэнны набытак цывілізацыі і невычэрпная крыніца культуры. Актыўна працягваецца выданне культурнай спадчыны. Распачалі выданне 100-томнага збору нацыянальнага фальклору, 10-томнага Зводу помнікаў гісторыі і культуры, 14-томнага збору твораў Алькея Маргулана. За апошні год бібліятэчныя фонды краіны папоўніліся больш чым на 318 тысяч новых кніг. Працягваецца камп'ютэрызацыя і інфармацыйнае забеспячэнне дзяржаўных музеяў і бібліятэк. Шэраг буйных бібліятэк мае электронныя каталогі і найноўшае абсталяванне. На жаль, не магу назваць дакладныя лічбы па кнігавыданні. Адзначу толькі, што дзяржава ў гэтай галіне аддае прыярытэт выданням, што маюць грамадскае значэнне, напрыклад, слоўнікам, і падручнікам.

Культура Казахстана мае старажытныя вытокі. У сувязі з гэтым вялікая ўвага надаецца ашчаднаму стаўленню да мінулага, да гістарычных помнікаў. У адпаведнасці з дзяржаўнай праграмай адраджэння гістарычных цэнтраў Шаўковага шляху, захавання і паслядоўнага развіцця культурнай спадчыны цюркамоўных дзяржаў праводзяцца маштабныя рэстаўрацыйныя работы.

Напярэдадні святкавання 1500-годдзя старажытнага горада Туркестана, што адзначалася летась пад эгідай ЮНЕСКА, адноўлены гарадзішчы Культабэ і Атырар, маўзалей Хаджы Ахмеда Ясаві і аб'екты дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка-музея Азрэт-Султана. Працягваюцца археалагічныя раскопкі унікальнага "Бярэльскага кургана". Сапраўдным святам духоўнага вызвалення, якога дасягнулі за гады незалежнага развіцця, стала агульнанароднае пакланенне святой памяці Ыскак бап на старажытнай Сазакскай зямлі і жраца Бекет Ата ў Мангыстау. Падзеяй, што заглыбляюць нашу гістарычную свядомасць, зрабілася пабудова мемарыялаў у Каратау Сангыл бію — паплечніку знакамітага Майкы бі, адной з найвялікшых постацей перыяду станаўлення казахскай нацыі, і ў Сары-Арке славутаму воіну Кабанбай батыру — аднаму з кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчай барацьбы XVIII стагоддзя. Перазахаванне парэштак віртуознага кюйшы Даўлеткерэя, што знайшлі спачын у закінутым грудку Сынакскай плошы ў гістарычнай Ардзе, будаўніцтва мемарыяла, вартага ягонага славутага імя, і рэканструкцыя мемарыяльнага комплексу светланоснага акына Суюмбая зрабілася святым абавязкам нашых сучаснікаў па захаванні памяці продкаў. Робіцца захады па стварэнні гісторыка-культурнага комплексу "Сакскае паселішча" ў горадзе Іссыке Алмацінскай вобласці. Завяршаецца апрацоўка матэрыялаў агульнага этнакультурнага даследавання рэспублікі, што праводзілася ўлетку 1998 года.

Што тычыцца выяўленчага мастацтва, у 2000 годзе пастаўлены помнікі Карасай і Агынтай батырам у Паўночным Казахстане, султану Бэйбарсу, Курмангазы і Дзіне Нурпеісавай у Атырау, Абаю ў Астане і Тарасу Шаўчэнку ў Алматы. У Кастанаі адкрыты помнік Ахмету Байтурсынаву, у Паўладары — Султанмахмуту Тарайгыраву.

**— Вы гаварылі пра нацыянальна-культурныя цэнтры. Ці можна больш падрабязна пра беларускі цэнтр?**

— У Алматы з 1992 года дзейнічае культурны цэнтр "Беларусь", асноўным накірункам і задачай якога з'яўляецца адраджэнне беларускіх традыцый, звычаяў, захаванне і развіццё роднай мовы. У 1997 годзе цэнтр пры ўдзеле грамадскасці горада, прадстаўнікоў іншых нацыянальна-культурных таварыстваў шырока адсвяткаваў 115-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Такія цэнтры былі заснаваны ў 1999 годзе ў Какшэтау, а ў 2000 годзе — у Паўладары. Задачы яны маюць амаль аднолькавыя — прапаганда культуры і мовы беларускага народа. Наколькі я ведаю, какшэтаўскі цэнтр актыўна дапамагае жыхарам вобласці, што бралі ўдзел у ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

У Заходне-Казахстанскай вобласці дзейнічае клас з вывучэннем беларускай мовы ў якасці роднай, працуе таксама беларуская нядзельная школа. На какшэтаўскім абласным радыё вывучэнню беларускай мовы адведзены некалькі гадзін.

**— Воляй лёсу калісьці ў Казахстане апынуўся беларускі пісьменнік Змітрок Бядуля...**

— Увесну гэтага года ў горадзе Уральску ў сувязі са стагоддзем беларускага класіка адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная З. Бядулю. У музеі гісторыі Заходне-Казахстанскай вобласці абсталяваны куток пісьменніка, куды пры садзейнічанні нашага пасольства Саюз беларускіх пісьменнікаў перадаў пяцітомны збор твораў на беларускай мове. Ёсць і некаторыя іншыя задумкі, пра якія пакуль гаварыць зарана.

**— Ці існуе ў Казахстане сістэма падтрымкі маладых талентаў?**

— Канешне. Найбольш здольныя пераможцы маладзёжнага конкурсу "Дарын" атрымліваюць значную прэмію, а тыя, каго "прыкмеціў" кіраўнік дзяржавы Нурсултан Назарбаеў, — прэзідэнцкія гранты, якія даюць магчымасць два-тры гады не думаць пра пошук заказаў. У нас праводзіцца міжнародны фестываль творчай моладзі "Шабыт", фестываль опернага мастацтва традыцыйнай музыкі, выяўленчага мастацтва моладзі "Жыгер". Творчая моладзь мае магчымасць атрымаць гранты і ад міжнародных арганізацый, што працуюць у Казахстане. Іх даволі шмат і, звычайна, яны аддаюць перавагу невядомым імёнам, фундуюць паездкі ў сусветныя культурныя цэнтры мастакоў і музыкантаў, дапамагаюць друкавацца літаратарам, арганізуюць творчыя семінары для сцэнарыстаў, падтрымліваюць праекты маладых артыстаў і рэжысёраў.

Акрамя таго, шырокавядомы міжнародны музычны фестываль "Азія Дауысы" ("Голас Азіі"), заснаваны прыватнай арганізацыяй. Задачай гэтага фестывалю, які больш за дзесяць гадоў праводзіцца ў адной з найпрыгажэйшых мясцін — урочышчы Медэа, з'яўляецца пошук новых імёнаў эстрадных выканаўцаў. А бяруць удзел у фестывалі і казахстанцы, і нашы бліжэйшыя суседзі па рэгіёне, і далёкія суседзі — еўрапейцы і нават афрыканцы.

**— Нашым чытачам цікава было б ведаць пра міжнародныя акцыі ў галіне культуры, якія праводзіць Казахстан.**

— Я ўжо называў міжнародныя фестывалі "Азія Дауысы" і "Шабыт". Два гады таму ў Алматы адбыўся першы міжнародны кінафестываль "Еўразія". Літаральна днямі ў Алматы стартаваў семінар-майстар-клас "Глядзі па-новаму" рэжысёраў-кінематаграфістаў Сярэдняй Азіі. Кіруе ім вядомы ўзбекскі кінарэжысёр Шухрат Абасаў. Восенню гэтага года прыватная галерэя "Тэнгры Умай" рыхтуецца наладзіць міжнародны фестываль-майстар-клас з удзелам маладых і сталых мастакоў. Увесну ў паўднёвай сталіцы адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Старажытнацюркская цывілізацыя: помнікі пісьменства".

Шмат гадоў мы прымаем у нашай краіне такія папулярныя міжнародныя фестывалі, як "Прыз традыцый" для артыстаў балета, што праводзіцца па ініцыятыве прыватных спонсараў, а таксама конкурс скрыпачоў і вакалістаў М. Стрыхарджа і Б. Вайкля.

Узмацняюцца і развіваюцца нашы міжнародныя культурныя сувязі. Мастацтва Казахстана годна прадстаўлена за мяжой. Па леташніх выніках магу сказаць, што Карагандзінскі абласны драматычны тэатр імя С. Сейфуліна ўдзельнічаў у міжнародным фестывалі эксперыментальных тэатраў у Каіры, куды раней выязджалі і іншыя тэатры, напрыклад, Уйгурскі тэатр музычнай камедыі. У 2000 годзе Казахскі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя М. Ауэзава браў удзел у III Міжнародным тэатральным фестывалі цюркамоўных краін у Уфе. Ансамбль "Нава" Уйгурскага тэатра музкамедыі ўдзельнічаў у праграме "Нацыянальныя аркестр музычных інструментаў цюркскага свету" і ў міжнародным фестывалі візуальных мастацтваў. Рэспубліканскі акадэмічны фальклорна-этнаграфічны аркестр "Атыр сазы" імя Н. Гляндзіева і фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Сазген" Алмацінскай абласной філармоніі імя Суюнбая сталі лаўрэатамі міжнароднага фестывалю творчасці цюркамоўных краін у Стамбуле. У міжнародным фестывалі "Ісык-Куль-2000" і конкурсе эстраднай песні на Украіне ўзяла ўдзел група артыстаў дзяржаўнага ансамбля "Гульдэр". У міжнародным фестывалі "Дні оперы ЦЮРКСОЙ", культурнай праграме цюркамоўных дзяржаў, удзельнічалі салісты Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета імя Абая. У маскоўскай Канцэртнай зале імя Чайкоўскага выступіў Алібэк Днішаў. У міжнародным фестывалі "Бургас-2000", які праходзіў у Балгарыі, выступаў карагандзінскі фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Салтанат". Ансамбль "Акку" быў удзельнікам міжнароднага фестывалю фальклорных груп у швейцарскім горадзе Фрыбургу. Бекбалат Тлеухан і Галым Ахмед'яраў пасяхова выступілі на II фестывалі народнай, што ў верасні прайшоў у правінцыі Лечэ ў Італіі. У італьянскім горадзе Чэчына адбылася выстава маладых казахскіх мастакоў. Тэатр оперы і балета імя Абая гастраляваў у залах, Казахскага музычна-драматычнага тэатра імя К. Куанашбаева і Нямецкага драматычнага тэатра ў Германіі. Костанайскі тэатр драмы і лялек прымаў удзел у фестывалі "Сцэна-2000" у Чэлябінску, што сведчыць пра плённасць міжнародных кантактаў казахскай культуры. Сёлета прайшлі Дні культуры Казахстана ў Кітаі.

Годна прадстаўлена на міжнародным узроўні і казахстанскае кіно. Значнай з'явай стала з'яўленне айчынных кінафільмаў, што заваявалі шматлікія прызы на міжнародных конкурсах і фестывалях. Летась у Францыі адбылася прэм'ера фільма рэжысёра Серыка Апрымава "Аксуат", ягонага ж карціна "Тры браты" дэманстравалася на Маскоўскім міжнародным фестывалі і на міжнародным кінафестывалі "Кінашок-2000", дзе атрымала спецыяльны прыз. У Будапешце з поспехам прайшлі Дні казахскага кіно.

У Італіі на выставе унікальных помнікаў рэлігійнай пісьмовай культуры "Рэлігіі казахскіх стэпаў вачыма святога айца Жана" былі паказаны экспанаты са збору рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі.

Я расказаў пра акцыі мінулага года — Года падтрымкі культуры. Аднак хачу дадаць, што з таго моманту, як Казахстан набыў незалежнасць, праводзіцца актыўная палітыка ў галіне прэзентацыі найперш казахскага мастацтва і культуры. Гэта тычыцца і выдання кніг грамадска-палітычнай і гістарычнай тэматыкі, а таксама спецыялізаваных кніг, якія прысвечаны мастацтву. Гэта ж тычылася арганізацыі гастроляў этнаграфічных калектываў і салістаў-вакалістаў. Свет дазнаўся пра самабытную і цудоўную культуру казахаў. Я лічу гэта справядлівым. Бо доўгія гады казахскае мастацтва ў шматколерным арнаменце савецкай культуры было адной з адмысловых завітушак.

**— Якія, на вашу думку, перспектывы далейшага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі?**

— Перспектывы, досыць шырокія — ад правядзення аднаразовых акцый да Дзён культуры, ад удзелу выканаўцаў у розных конкурсах да абмену гастролямі тэатраў і калектываў, ад камерных выстаў да дэманстрацыі галерэйных збораў. Вядома, на гэтым шляху нас чакаюць шматлікія цяжкасці, найперш фінансавыя, але, мне здаецца, крок за крокам мы адолеем гэты шлях.

## “Дар князёўны”



**Працягваючы добрую традыцыю выпуску кніг пісьменнікаў, якія нарадзіліся на Магілёўшчыне, аддзел культуры Горацкага райвыканкама нядаўна выдаў паэму Пятра Прыходзькі “Дар князёўны”. Прытым немалым накладам — адна тысяча асобнікаў. Аб тым, як з’явілася задума гэтага твора, як ажыццяўлялася яна, у прадмове “Ля вытокаў Радзімы” расказвае сам аўтар. Пятро Фёдаравіч прамаўляе таксама слова — прызнанне ў любові да мясцін, дзе нарадзіўся і памяць аб якіх пранёс праз усё сваё жыццё: “На карце Беларусі ў вярхоўі ракі Бесядзь, што бярэ пачатак у нетрах Смаленшчыны, абапал яе раскінуўся гарадскі пасёлак Хоцімск — былое правінцыйнае мястэчка. Тут, у ціхім кутку беларускай зямлі, далёка ад чыгунак, паміж глухіх балот і лясоў, амаль упрытык да гарадскога пасёлка, прытулілася мая родная вёска Альшоў. У ёй я нарадзіўся, выхоўваўся ў дзеда і бабулі Пруднікавых, вучыўся ў пачатковай школе. Першай настаўніцай маёй была родная маці Аркадзя Аляксандравіча Куляшова Кацярына Фамінічна Ратабыльская”. Гэтая любоў да Хоцімшчыны і выклікала ў П. Прыходзькі жаданне пабольш даведацца пра гісторыю Хоцімска: “Адкуль у мястэчка... з’явілася такая назва? Калі яна ўпершыню пачала ўпамінацца ў летапісе?” Тады, у гады маладосці, ніхто дакладна не мог адказаць на гэта. І толькі пазней даведаўся нямала цікавага. Як і тое, што А. Куляшоў хацеў напісаць паэму пра гісторыю ўзнікнення назвы Хоцімск, але не паспеў ажыццявіць сваю задуму. Сказала пра гэта П. Прыходзьку Валянціна Куляшова, дачка народнага паэта, калі пра ўсё даведалася, разбіраючы рукапісы Аркадзя Аляксандравіча. Так П. Прыходзька выйшаў на “Віленскі каляндар” за 1910 год, адзін экземпляр якога захоўваецца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. З ім у свой час знаёміўся і А. Куляшоў. У згаданым выпуску календара ёсць навела “Божая кара”. Паводле гэтай легенды, у гомельскага князя Радзькі была дачка-прыгажуня Хоця, Хацім’я. Калі яна падрасла, у дзяўчыну закахаўся княжыч Лада. Ажаніўся і пабудаваў на беразе ракі маёнтак. А пасля з’явілася паселішча, якое Лада ў гонар жонкі назваў Хоцімскам.**

**Выкарыстоўваючы гэты сюжэт, П. Прыходзька і напісаў паэму “Дар князёўны”, над якой па яго прызнанні, “працаваў... амаль поўных дзесяць гадоў”, перапісваючы па некалькі разоў першапачатковыя варыянты. Цяпер з гэтай паэмай і могуць пазнаёміцца чытачы, сягнуўшы ўглыбіню вякоў. А пачынае П. Прыходзька сваю гаворку як бы з уступу, хоць у паэме ён і не пазначаны:**

*Не можа быць*
*мясцовасць безназоўнай,*
*Як і жыхар яе жыць без імя.*
*Была даўно калісьці ў нас князёўна*
*З прыгожым, дзіўным імем Хацім’я.*

*Засведчылі быліны і паданні,*
*Што ад сваёй зямлі яна ўзяла*
*І дабрыню, і ласку, а ў каханні*
*Сапраўднай чараўніцаю была.*

**Хораша расказваецца аб тым, як княжыч Лада, убачыўшы Хацім’ю і захацеўшы ўзяць у жонкі, зусім не пра багацце бацькі яе думаў: “А Лада сёння не пра гэта дбае, — // Багаты той, хто ўмее лепш кахаць”. І гэтая любоў здатна напоўніць сэрца чалавека пяшчотнай:**

*Яму не трэба Радзькіна княства,*
*Ў ягоным сэрцы — Хацім’я адна.*
*Вось і пярсцёнак ёй:*
*Хай знаець нас там, —*
*Не лыкам шыты. Але яна —*

*Якой усмешкай зноў яго спаткае?*
*Гавораць, стала гордаю такой*

**А пасля гэтая любоў і падказала Ладу: паселішча павінна насіць імя жонкі, якую ён так любіць. І з’явіўся Хоцімск. Канечне, легенда ўсё, але легенда прыгожая, таму ёю нельга не захапляцца. Тым больш, калі ёсць цікава ўвасоблены П. Прыходзькам паэтычны варыянт.**

**Міхась ГЕНЬКА**

# Спасцігнуць ісціну

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА ГАНАДА ЧАРКАЗЯНА

Пра кнігі Г. Чарказяна, яго паэзію і прозу сёння пішуць шмат. Нягледзячы на тое, што мовы курдскай ніхто з нас, крытыкаў і журналістаў, не ведае, як не ведаюць яе, дарэчы, і перакладчыкі. Перакладаюць з падрадкоўніка. Гэта — вядомыя, вопытныя майстры: В. Ліпневіч, Р. Барадулін, В. Тарас, А. Канапелька, А. Вольскі, К. Жук і інш. Часам чуеш, што “перакладны” паэт — гэта пакутнік, бо адэкватна перакласці паэтычны радок немагчыма. У дадзеным выпадку гэтае выслоўе не прыдатнае. Г. Чарказян выглядае ў розных перакладчыкаў па-рознаму, але толькі не пакутнікам.

Першы яго зборнік выйшаў (з прадмовай П. Броўкі) у 1980 годзе ў Мінску па-руску, у перакладах В. Ліпневіча. Г. Чарказян — будаўнік па спецыяльнасці — даў кнізе назву “Прочность”. Трываласць у будаўніцтве, як вядома, першая рэч, але ў вершах маладога паэта гэта была ўжо катэгорыя не вытворчая, а эстэтычная і маральная: аўтар хацеў сцвердзіць сябе менавіта як “специалист по прочности бытия”. Не ведаю, хто прыдумаў гэты даволі груба́сты і каструбаваты вобраз — перакладчык ці сам паэт. Усходняя мудрасць сцвярджае, што праўдзівыя словы бываюць (і нават павінны быць) нязграбныя і каструбаватыя. У гэтым хай сабе і недасканалым вобразе, думаецца мне, паэт выявіў сваю натуру. Тагачаснае быццё, зрэшты, як і цяперашняе, і сапраўды мела пільную патрэбу ва ўмацаванні і абладжванні. Паэт імкнуўся ў духу ўсходняга іншасказання, “дапамагаць вясне”: “изо всех сил и всем вместе помогать весне. Всегда помогать весне!” У гэтым і заключалася крыніца натхнення паэта, які прыйшоў у свет, як кажуць курды, “з дабром”.

Манерай, асацыятыўнасцю мыслення ён, на мой погляд, быў блізка да такіх паэтаў, як Паруйр Севак і Назым Хікмет з уласцівай для іх смеласцю і маштабнасцю светаўспрымання, арыгінальнасцю паэтычных вобразаў і метафар, арганічнай сувяззю з усходнімі традыцыямі. Г. Чарказян (чый першы верш быў апублікаваны яшчэ ў 1963 годзе ў армянскім часопісе “Пионер”) ішоў за імі, актыўна абжываючы навакольны свет і настойваючы на неутылітарным характары свайго занятку. Паэта ён уяўляе так:

*Как врач,*
*он к вечности приник.*
*Над ним —*
*галактик звон.*
*Поэт он —*
*только лишь связник*
*народов,*
*звезд,*
*времен.*

**(пераклаў В. Ліпневіч)**

Урач, што прыхінуўся да вечнасці, — вобраз, даволі спрэчны, аднак тое, што добрая паэзія валодае не абы-якімі тэрапеўтычнымі ўласцівасцямі, — рэч бясспрэчная.

Гаворачы пра першую кніжку Г. Чарказяна, крытык Ю. Канэ заўважыла, што гэтага паэта вылучаюць “інтэнсіўнасць аўтарскага пачуцця, выразнасць і пэўнасць думкі”, а таксама “культура думкі, своеасаблівасць паэтычных вобразаў і асацыяцый”. Крытык выдала аванс, але, на шчасце, не памылілася. Творчыя здабыткі паэта 80—90-х гадоў значныя, яны змешчаны ў зборніках “Цвет доброты” (1986), “Обожженные жаворонки” (1992), “Плач” (1994), “Караваны гор” (1996), “Шамдзін” (1998), “Чаргаві” (2001), а таксама ў шматлікіх газетна-часопісных публікацыях. Цяпер ён піша і прозу. У анатацыі на кнігу “Шамдзін” сказана (адчуваецца барадулінская дакладнасць): “Проза Ганада Чарказяна прытчавая, разумная, акрыленая. Паэзія Ганада Чарказяна афарыстычная, палкая, узнёслая”. Гэта гучыць як верш, але па сутнасці правільна. Вядома, новыя кнігі адрозніваюцца ад “Прочности”. Змяніўся сам лірычны герой, які стаміўся “дапамагаць вясне”, жыць ва ўмовах бясконцых сацыялістычных кампаній.

Цяпер вершы гучалі інакш, у іншым рэгістры ў параўнанні з папярэднімі. У новай яго лірыцы бачым, як сацыяльнасць спалучаецца з адчуваннем усеагульнага быцця. Так павялічваецца ўжо не знешні, а ўнутраны маштаб паэзіі, у якой шмат драматызму, духоўнага абнаўлення і сапраўднага пачуцця. Паэт раптам успомніў сваё паходжанне, гісторыю свайго народа, родны край, пейзаж, пра што сведчаць нават назвы кніг: “Плач”, “Караваны гор”, “Шамдзін”... Тут шмат адгалоскаў мінулага: дзяцінства, родная вёска Ерасхаўцы на поўдні Арменіі, парог бацькоўскай хаты, постаці сваякоў, бацькоў і продкаў.

Пра паэта кажуць, што гэта чалавек, які здолеў напісаць пра сябе. Вершаў пра сябе ў Чарказяна шмат. Воляю лёсу ў 70-я гады ён апынуўся ў Беларусі, якая дала яму прытулак і сямейнае шчасце, і гэта, вядома, добра, але поўнасцю замяніць радзіму, відаць, немагчыма.

*Далёка занёс*
*Мяне зваблівы лёс.*
*І восень не тая.*
*Не тая лістота.*
*Я плачу нябачна.*
*Я плачу без слёз.*
*Сябе толькі слухаць*
*Умее самота.*

**(пераклаў Р. Барадулін)**

Паэзія Чарказяна — разнастайная: тут сустрэнеш вершы шырокага грамадскага гучання і інтымную лірыку, філасофскія матывы і палеміку, ландшафтныя замалёўкі, пейзаж, у тым ліку і элементы беларускіх краявідаў, якія адцяняюць настрой паэта. У творах 80-х гадоў ён парывае з дробнай, у духу сацрэалізму, ідэйнасцю, танным аптымізмам, павярхоўнасцю і наівам, уводзіць у паэзію сучасныя праблемы асобы і грамадства, адкрывае для сябе сувязь чалавека з гісторыяй, прыродай, але прадметы, рэчы, чалавечы побыт не выступаюць самі па сабе, а суадносены з думкай аб жыцці, з духоўнай інтэнсіўнасцю быцця. Жаданне спасцігнуць гэтую “інтэнцыю” вымагае ад паэта актыўнага пошуку новых слоў, новых вобразаў, таго, што ўспомнены П. Севак назваў “паэтычнай непаэтычнасцю”. П. Севак абараняў “паэтычную непаэтычнасць” ад траскучанапышлівага, але пустога пляцення славес. Актыўны мастацкі, духоўны пошук уласцівы і Г. Чарказяну, які ў многім ідзе ў рэчышчы папярэднікаў, у рэчышчы традыцый. Усходняя паэзія (а з ёю ў Г. Чарказяна, як ужо было сказана, родпасная повязь) заўсёды змяшчала ў сабе элементы філасофіі, этыкі, не стамлялася ўслаўляць чалавечыя якасці: каханне і дружбу, удзячнасць, вернасць, праўдзівасць, гасціннасць. Усё гэта ёсць у яго паэзіі, але ёсць там і іншае: усё часцей жыццё прадстае перад паэтам у сваёй агаленай анталагічнай сутнасці, і ён пачынае глыбей разумець тую ісціну, што ўсё адбываецца заўсёды, што цяжка, як нехта сказаў, адначасова любіць праўду і наш свет. Адсюль — павевы скепсісу:

*Потихонечку время бежит*
*не ко мне уже, от меня.*
*Эта лодка дырявая — жизнь*
*протекала з первого дня.*

**(пераклаў В. Ліпневіч)**

Лірычнае перажыванне свету ў паэзіі Чарказяна ўскладнілася. Аўтар “Плачу” са здзіўленнем пераконваецца, што людзі, нават цэлыя нацыі перыядычна чамусьці губляюць чалавечае аблічча: войны, паўстанні, пагромы, разня, калектыўныя злачынствы, дыктатуры, рэпрэсіі, — усё гэта паўтараецца і паўтараецца. Паэт задае пытанні, але не чуе адказу, многія старонкі яго кніг адзначаны адчаем і разгубленасцю перад грознымі знакамі і праявамі часу. Магчыма, таму ў пошуках сваіх тэм ён больш звяртаецца не да індывідуальнай сітуацыі, а да традыцыйных агульных месцаў, агульных разваг. Гэта было ўласціва паэзіі заўсёды — як самай старажытнай (напрыклад, антычнай), так і новай.

Асэнсоўваючы агульную, у тым ліку сацыяльна-палітычную, маральную, этылагічную праблематыку, паэт абапіраецца на свой індывідуальны вопыт. Асабліва ўзмацняецца цікавасць да маральнай, патрыятычнай тэматыкі ў кнігах “Плач” і “Караваны гор”, якія змяшчаюць не мала моцных вершаў.

*Плач гэты чую,*
*Калі*
*Вочы расплюшчвае раніца,*
*Цёпла ўзляцеўшы з раллі,*
*Жаўранак з сонейкам раіцца.*

*Чую ў паўдзён,*
*Як у цень*
*Туліцца гоман за лядамі.*
*Чую,*
*Як згорблены дзень*
*Месца начлегу выглядвае*

**(пераклаў Р. Барадулін)**

Плач выступае, як нейкая універсальная, усеахопная катэгорыя чалавечага існавання. Правільна піша А. Лойка ў прадмове да Чарказянавай кнігі: “Чалавек, прыходзячы на свет, пра сябе адразу заяўляе плачам. Пад плач, пад галашэнне пакідае гэты свет чалавек. Па традыцыі плачам адганялі злых духаў, плачам папярэджвалі бяду, апярэджвалі гора. Плач, так бы мовіць, жанр народнае творчасці і аўтарскае літаратуры”. Сапраўды, беларускай літаратуры гэта добра вядома: “Чаму плача песня наша?” — такое пытанне зададзена ў ёй даўно.

У паэзіі Чарказяна назіраем заглыбленне ў чалавечую псіхалогію, у самыя патаемныя яе пласты. Ён умее перадаць сілу страсці. Але страсць ніколі не выходзіць у яго на паверхню, пачуццё, тэмперамент заўжды прыхаваныя — недзе ў глыбіні радка. За цягам часу страсць усё болей саступае месца мудрасці, пра што сведчыць нядаўняя кніжка-малютка “Чаргаві”, у якую аўтар сабраў чатырохрадкоўі.

“Ганад Чарказян, — тлумачыць Р. Барадулін, — яе перакладчык, — свае чатырохрадкоўі назваў “Чаргаві”. Гэта значыць — чатыры крокі. Курды, вогнепаклоннікі й небалюбы, — ступіўшы чатыры крокі ў гарах, паспявалі ў думках ажывіць і ўзважыць як не ўсё сваё зямное бытаванне”.

*Пра што грымяць грамы?*
*Што шэпча лівень лету?*
*Няўцям, што значым мы*
*На ўзбочынах Сусвету.*

“Чаргаві” вытрыманы ў традыцыях усходняй паэтыкі. Гэта — як маленькія трактаты на філасофска-эстэтычныя тэмы, у іх гаворыцца пра паводзіны чалавека ў свеце, пра ўзаемасувязь паміж людзьмі, пра багацце і галечу, пра тое, як чалавек аддае, але не бяднее і нават становіцца багацейшым. У “Чаргаві” Чарказян застаецца паэтам маштабнага, абагульненага мыслення, які не любіць капацца ў нязначных перажываннях і дробязях.

Нягледзячы на абагульненасць і некаторую адцягненасць паэтычнага мыслення, “Чатыры крокі” — не бессуб’ектная паэзія, тут ёсць, вядома, аўтагерой — філасаф, этолаг, але яго “я” знаходзіцца пераважна ўнутры самой мовы, паэтыкі, збудаванага творцам мастацкага свету, дзе з’яднаныя лірыка і эпіка.

Дарэчы, эпічны пачатак заўсёды прысутнічаў у лірыцы Г. Чарказяна, нездарма з цягам часу ён уключыў у свой творчы рэпертуар апавяданні. У прачулым вершы “Тоска по Родине” ён пісаў:

*Не знаю когда,*
*Но знаю —*
*приду*
*поклониться твоей могиле...*

**(пераклаў В. Ліпневіч)**

Гэта паэт зрабіў у прозе — у апавяданнях, якія жанравымі сваімі пазнакамі нагадваюць сямейныя ўспаміны, паданні, здарэнні, гісторыі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, жывуць дзякуючы чалавечай памяці і пачуццю роду. У гэтых апавяданнях, найперш у асаблівасцях паэтыкі, ёсць нешта, на маю думку, ад старажытнага эпасу — вядомага зводу казак “Тысяча і адна ноч”. “Карані дрэва” (так аўтар назваў адну з публікацый) — таксама звод, аб’яднаны агульным апавядальнікам, толькі замест казак яго складаюць кароткія і сціслыя навелы-апавяданні, пазначаныя без сумнення індывідуальным аўтарствам, якое імкнецца пераадолець фальклорна-міфалагічную аснову матэрыялу. Тут шмат гістарычных звестак, этнаграфіі — гаворка ідзе пра ўсходні народ, пра жыццё і побыт курдаў, пра іх норавы і звычаі, супольныя інтарэсы і міжплямённыя нелады.

Вось першае, каларытнае апавяданне “Дзед”, герой якога — сапраўдны прадстаўнік народа, моцна знітаваны з жыццём, з трагічным часам і абставінамі, сярод якіх яму давялося жыць. Мы не ведаем нават яго імені, але безыменнасць персанажа ў дадзеным выпадку як бы павялічвае маштабы абагульнення і маральную ёмістасць гэтага вобраза, у якім рэальнае пераплялося з казачным. Нялёгкім аказалася дзедава падарожжа за мяшком пшаніцы для неадкладных сямейных патрэб. Кроў, страх, гора спыняюць яго на шляху, але нідзе не губляе ён годнасці і не адмаўляецца ад сваіх чалавечых абавязкаў, учэпіста трымаецца за жыццё, бо ад гэтага залежыць жыццё іншых. Дзедава самавітая постаць выглядае вельмі рэальна на фоне вядомых падзей 1915 года ў Арменіі. Казачнай загадкай застаецца хіба што тое, як удалося дзеду,

зусім не асілку, затарабаніць цяжкі пяціпудовы мех з пшаніцай на тапалю і схаваць яго там у буслянцы. Назад, на зямлю, хурджын не маглі сцягнуць і ўчатырох. Апавяданне "Дзед" — гэта, безумоўна, аўтарская літаратура, проза, а не казка.

Чарказяна-празаіка цікавіць чалавек і свет, у якім ён жыве. Яго персанажы, мужчыны і жанчыны, паводзяць сябе і дзейнічаюць у адпаведнасці з суровымі законамі гор.

*Горы*
*Маюць свае законы*
*Вечныя,*
*Як скалы цвярдыя.*
*Горы*
*Не йдуць на паклоны.*
*Не прызнаюць*
*Павадырскага кія.*

**(пераклаў Р. Барадулін)**

Чарказянавы героі — рэальныя людзі, але адначасова яны носьбіты старажытнай родавай свядомасці, наследванне якой, на думку аўтара, не заўсёды дае добры вынік. Звычайна пісьменнік бярэ пагранічную сітуацыю, у якую трапляюць яго героі. Такая, па сутнасці, сітуацыя нечакана склалася паміж вясельнымі братамі Агітам Колса і Ахмедам Тль. Жаніліся яны амаль адначасова, але з дзецьмі пашанцавала толькі Ахмеду, у сям'і якога неўзабаве нарадзілася, адзін за другім, трое сыноў. У Агіта дзяцей не было — для курда гэта "тое самае, — кажа аўтар, — што памерці". Лекары ўстанавілі, што гэта па віне Агіта, і ён просіць Ахмеда дапамагчы ў гэтай сітуацыі. Той доўга не згаджаецца, як бы прадчуваючы, чым гэта можа скончыцца, але ўрэшце паддаецца слёзнай просьбе вясельнага брата, які ствараў Ахмеду ўсе ўмовы дзеля выканання сваёй просьбы. Часова нават развёўся з жонкай. І вось тая зацяжарыла, але далейшыя падзеі развіваюцца трагічна для ўсіх герояў гэтага апавядання, у якім раскрываецца асаблівасці нацыянальнага менталітэту. Пісьменнік паказвае, што нацыянальны менталітэт, родавы пачатак у многім і да нашага часу вызначаюць характар курдскага чалавека і часта кіруюць яго ўчынкамі нават насуперак яго ўласнай волі. Жывучы, чалавек, на жаль, творыць не толькі дабро. У паэзіі і ў прозе Г. Чарказян праводзіць тую думку, што трэба шкадаваць чалавека, але і трэба паказваць яму, наштo ён часам здольны, — хай жахнецца ад таго, што ён натварыў дрэннага.

У некаторых выпадках пісьменнік спыняецца на тых сітуацыях, калі яго герой не можа задаволіцца старымі канонамі, пачынае жыць паводле сучасных агульначалавечых нормаў і правілаў. Менавіта па такой дарозе ідзе герой апавядання "Помста" Карам, які ўрэшце пачынае разумець, што "любая помста вяртаецца да помсніка. Лепей не будзіць яе..."

Чарказян-апавядальнік, звычайна стрыманы ў эмоцыях, з болем піша пра свой народ, што так упарта адстойвае сваю самабытнасць і змагаецца за волю і лепшую долю. Ён імкнецца да індывідуалізацыі сваіх герояў, да пераадолення сумарнасці ў іх паказе, узнаўлення непаўторнага ў іх характарах, і хочацца пажадаць яму поспехаў на гэтым шляху. Жадаю яму таксама большай смеласці ўяўлення, дынамічнасці пошуку, большай раскаванасці творчага мыслення.

І яшчэ: трэба сказаць дзякуй перакладчыкам, асабліва Р. Барадуліну, які хоць і не валодае мовай арыгінала, але глыбока спасцігнуў свет думак і перажыванняў паэта, асаблівасці светаўспрымання, умее насыціць іх сакавітасцю беларускага слова, прымераць чужы тэкст да сябе і апрануць у "свой кажух". Не ўтойм, часам ён, на мой погляд, магчыма, і залішне "збарадульвае" чарказянаўскія тэксты, але ў цэлым я схільны даць яго перакладам адназначна самую высокую ацэнку. Праца Барадуліна-перакладчыка служыць узбагачэнню нашай літаратуры. і не толькі літаратуры — самой мовы. У яго перакладах шмат майстэрства, шмат рэдкіх слоў і наватвораў. Гэта ж можна сказаць і пра яго пераклады Чарказянавых апавяданняў. Там рэдкаўжываемых слоў і наватвораў яшчэ больш. Прызнаюся нават, што ў мяне склаўся, і не такі ўжо і малы, слоўнік спецыфічна барадулінскай лексікі, якою ён карыстаўся пры перакладзе, ашчадна ставячыся і да мовы арыгінала.

Удала перакладае таксама А. Канапелька, якая даўно вырасла ў цікавую паэтэсу, але разам з тым яна і выдатная перакладчыца. Яна, як мне здаецца, здольная захаваць і нават, магчыма, павысіць меру пачуццёвага асваення свету ў паэзіі стрыманага на эмоцыі Чарказяна.

Добрага, удзячнага слова заслугоўваюць і іншыя перакладчыкі. Агульнымі намаганнямі кнігі Г. Чарказяна сталі з'явай сучаснага літаратурнага працэсу на Беларусі. Усходняя паэтыка даволі гарманічна ўвайшла ў творчы кантакт з заходняй, славянскай, і сінтэз атрымаўся досыць плённы.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

ЧАСОПІСЫ

# Боль слуцкіх падзей

Апошнім часам усё больш павялічваецца цікавасць да Слуцкага збройнага чыну 1920 года. Праўда, тут адразу неабходна зрабіць маленькае, але істотнае ўдакладненне: цікавасць гэтая павялічваецца ў самой Беларусі. Што да беларускай эміграцыі, дык да гэтага выступлення супраць бальшавікоў даўно звярталіся многія пісьменнікі, якія разам з адступаючымі гітлераўцамі пакінулі Радзіму. Але і на Беларусі, як і ў самой эміграцыі, доўгі час не было твораў шырокага гучання. Звычайна ўсё абмяжоўвалася публіцыстычнымі выступленнямі, асобнымі вершамі. Не кажучы, зразумела, аб масавых акцыях па ўшанаванні тых, хто загінуў за Бацькаўшчыну.

Першым, хто паспрабаваў глыбей спасцігнуць сэнс таго, што адбывалася некалькі дзесяткаў гадоў назад, як вядома, стаў Васіль Быкаў, затым з раманам выступіў Алесь Пашкевіч.

І вось з'явіўся чарговы твор — аповесць Андрэя Федарэнкі "Нічые", апублікаваная ў трэцім нумары часопіса "Полымя" за сёлетні год, пра якую і хочацца паразважаць.

Нават не толькі таму, што кожны твор на гэтую тэму выклікае заканамерны інтарэс. Само імя аўтара шмат значыць. А. Федарэнка — не з тых, хто піша абы пісаць. Калі ён бярэцца за нейкую мастацкую рэч, не застаецца сумнявацца, што гэта ўсё робіцца ўсвядомлена, з глыбокім асэнсаваннем фактычнага матэрыялу, а ў дачыненні да "Нічыіх" і пошуку яго, бо тыя звесткі, што тычацца Слуцкага збройнага чыну, па-ранейшаму ў многім схаваны ў архівах, а матэрыялы, якія былі апублікаваны, не заўсёды даносяць належную і поўную праўду, бо з'явіліся яны ў друку яшчэ ў савецкія часы, а таму праўда гэтая ў публікацыях прэпараваная. На чытацкі суд выносілася толькі тое, што афіцыйная ідэалогія лічыла вартым абнародавання. Пры гэтым замоўчвалася вельмі істотнае, а звязана яно было з тым, што за зброю ўзяліся людзі, якія шмат у чым нацярпеліся ад бальшавікоў, ад іх жорсткасці.

Андрэй Федарэнка, працуючы над аповесцю (здаецца, спачатку ім задумваўся раман), ахвотна дзяліўся сваімі планамі з сябрамі, шчыра прызнаваўся, што і колькі паспеў напісаць. Не саромеючыся пытаўся ў таго ці іншага субяседніка, ці не мог бы ён сказаць пра Слуцкі збройны чын штонебудзь важнае.

З такой просьбай А. Федарэнка звярнуўся і да аўтара гэтых радкоў. Вядома, у мяне не было звестак, якія б не публікаваліся, бо веданне маё гэтай падзеі, як і ў большасці з нас, абмяжоўвацца тым, што з'явілася ў друку. Але Семежава, дзе размяшчаліся галоўныя сілы паўстанцаў, знаходзіцца за кіламетраў дзесяць ад вёскі Навасёлкі, у якой я скончыў сярэднюю школу. Дарэчы, у сувязі з гэтым не магу не сказаць вось пра што. Даводзілася неаднойчы чытаць, як некаторыя выхадцы з гэтых (ці блізкіх да іх) мясцін, далучыўшыся да актыўнай палітычнай дзейнасці, пачынаюць сцвярджаць, што ледзь не школьнікамі выпускалі "падпольныя" насценныя газеты, у якіх расказвалі пра Слуцкае паўстанне. Магчыма, мая рэакцыя ў сувязі з гэтым і прагучыць рэзка, але інакш сказаць не магу: "Мана!" Вучнем я неаднойчы бываў у Семежаве, неаднойчы наведваўся туды і студэнтам, але і словам ніхто не абмовіўся пра згаданыя падзеі. І не таму, што людзі баяліся пра іх гаварыць. Проста з гадамі памяць вывятрылася, падраслі новыя пакаленні. І не трэба сямутаму станавіцца ў позу гэткага "свядомага" патрыёта. А Андрэю Федарэнку я ўсё ж дапамог. Даў яму матэрыялы, што тычыліся жыцця семежаўскіх жабракоў у XIX стагоддзі. Узрадаваўся, што ў аповесці ім знайшлося месца. А гэта згадкі пра тое, што жабракі з Семежава мелі сваю мову, а чагосьці падобнага на Беларусі больш нідзе не было.

Згадаўшы пра семежаўскіх жабракоў, мушу адразу засведчыць, што А. Федарэнка цудоўна перадаў у сваім творы побыт жыхароў гэтай вялікай вёскі. Канечне, паколькі задума была іншая, гэтаму не шмат удзяляецца ўвагі, але і тых асобных штрыхоў, пазначаных таленавітым пяром, дастаткова, каб упэўніцца, што тамашні люд, за рэдкім выключэннем, жыў заможна, лічыўся свабодным, а таму яму было што абараняць. Таму семежаўцы і выступілі супраць бальшавікоў, што бачылі ў іх прысутнасці небяспеку свайму спакойнаму існаванню, не хацелі насілля. Падобны момант важны, хоць, разумею, што такое сцвярджанне рэцэнзента (а падобная думка прасочваецца і ў аповесці) многім не спадабаецца.

Прабачце, але ж колькі апошнім часам гаворыцца аб тым, што праўда павінна быць поўнай, а калі канкрэтней — неабходна прытрымлівацца прынцыпу: праўда, нічога, апроч праўды. Дык "семежаўская праўда" менавіта такая, пра якую гавару я. І такая, якой яна паказана ў аповесці А. Федарэнкі. А ўвогуле, калі чытаеш (і перачытваеш, бо такое жаданне з'яўляецца невыпадкова, хочацца глыбей спасцігнуць сэнс сказанага аўтарам "Нічыіх", лепш зразумець яго пазіцыю) аповесць, не можаш не заўважыць, што А. Федарэнка далёкі ад думкі пісаць у зададзеным накірунку. Правільней, у яго свая пазіцыя, сваё разуменне Слуцкага збройнага чыну. Але і пазіцыя гэтая, і разуменне, як кажуць, не з пальца высмактаны, а сталі вынікам аб'ектыўнага позірку на падзеі.

Калі ж падыходзіць да іх аб'ектыўна, дык няцяжка заўважыць, што за зброю на Случчыне ўзяліся розныя людзі. Сярод іх быў і крышталёва чысты камісар паўстанцаў Жаўрыд, і звычайныя авантурысты, якім заўсёды хочацца палавіць рыбы ў мутнай вадзе, і гэткі ж чысты, як і Жаўрыд, камандзір паўстанцаў Чайка, але не пазбаўлены ідэйных хістанняў, што ўспрымаюцца заканамернымі ў час, калі ўсё рушыцца, ламаецца, пераацэньваецца і цяжка сумленнаму чалавеку прыйсці да нейкага аднаго берага. Не кажучы, што ў аповесці паказана шмат іншых персанажаў, асобныя з якіх з'яўляюцца і эпізадычна, але разам з тым бачацца буйным планам, як, для прыкладу, адзін з камандзіраў Чуб, не пазбаўлены смеласці, рашучасці, але і празмерна катэгарычны ў стаўленні да сваіх праціўнікаў.

Тыя, хто не паспеў пакуль пазнаёміцца з аповесцю, але шмат начуліся пра тагачасныя слуцкія падзеі, гатовы задаць пытанне: а як А. Федарэнка тлумачыць нацыянальныя моманты ў гэтых падзеях? Слуцкі ж збройны чын быў не проста выступленнем супраць бальшавікоў, а выступленнем, што мела ярка пастаўленыя і выражаныя задачы. Ды і паўстанцы сталі першым беларускім войскам, якое выступіла за абарону нацыянальных інтарэсаў, за абарону свабоднай і незалежнай Беларусі. Слуцакі змагаліся за новую, свабодную Беларусь.

Пра ўсё гэта ў аповесці гаворыцца. Але без непатрэбных эмоцый, без жадання магчымае прыпаднесці як рэальнае. А яшчэ праз саму логіку развіцця характараў, у першую чаргу — канкрэтных гістарычных асоб. У сувязі з гэтым галоўная мастакоўская ўдача А. Федарэнкі — вобраз Чайкі, які з'яўляецца адным з цэнтральных герояў твора. Кажучы словамі Максіма Гарэцкага, душа Чайкі дваілася. І гэтае раздваенне асобы паказана надзіва праўдзіва і переканаўча, а таму Чайка паўстае жывым чалавекам са сваімі сумненнямі, пераацэнкай таго, што адбывалася, з жаданнем разабрацца ў клубку палітычных і ваенных падзей, які з кожным днём заблытвае яго ўсё больш і больш. А яшчэ характар Чайкі можна зразумець лепш і глыбей, калі параўнаць яго з характарам Жаўрыда. Што А. Федарэнка і робіць.

Ды і без такога параўнання ў аповесці нельга. І не толькі таму, што Чайка і Жаўрыд займаюць адказныя пасады: камандзір і камісар. Паводзіны іх шмат у чым розняцца, а да ўсяго Чайка і Жаўрыд аднагодкі: "Абодва нарадзіліся на Случчыне, у суседніх вёсках, у адзін месяц і ў адзін год — у ліпені 1889-га. Абодвух назвалі Паўламі. Абодва да дзесяці гадоў "навучаліся" аднолькавай навуцы: пасвілі гусей, свіней і коней, лазілі ў чужыя сады, паклі ў прысаку бульбу, купаліся ў соннай Случы..." Таму лягчэй прасачыць, чаму ж так здарылася, што Чайка, у рэшце рэшт, апынуўся на ростанях. Прымкнуўшы да ўдзельнікаў паўстання, стаўшы іх камандзірам, ён па сутнасці застаўся для іх чужым.

Адна з прычын у тым, што Чайка, смелы і гераічны чалавек, які меў шмат узнагарод, застаўся незапатрабаваным новымі ўладамі. Ён чарговы раз узяўся за зброю не таму, што гэтага хацеў, а таму, што іншага выйсця не заставалася. Паспеўшы нямала паваяваць, паслужыць бальшавікам, па сутнасці застаўся ля разбітага карыта. Чайка не паспеў завесці сям'ю і ў віхурны час нікому не патрэбны. Выйсце знайшоў у тым, каб стаць пад сцяг з Пагоняй.

Важны ў творы і яшчэ адзін момант: менавіта Чайка куды больш ваенны прафесіянал, чым іншыя. Нават, чым Жаўрыд. Здавалася б, каму, як не яму, весці за сабой людзей. Але якраз гэтага Чайка і не можа рабіць. Не можа, бо не хоча больш падманваць ні сябе, ні сваіх падначаленых. Разумее, што такое войска не можа перамагчы. І ў гэтым трагізм Чайкі. І трагізм усяго Слуцкага збройнага чыну. Атрымліваецца, што барацьбіты загадзя асуджаны на паражэнне. Але, як вядома, не змагацца яны проста не маглі. Гэта таксама разумее Чайка. І не толькі разумее: "Калупаючыся ў душы, у гэтай каламутнай мешаніне з насмешкі са сваіх падначаленых і з раздражнення, нечакана для сябе Чайка адкопваў дзесьці на самым донцы яшчэ адно пачуццё, самае моцнае — зайздрасць. Канечне, ён не мог не зайздросціць ім. Іхняй веры, іхняму фанатызму, іхняй любові да свайго... Тое, што яму, недавярку, двурушнаму камандзіру палка, бачылася няўдалым спектаклем, тое для іх несумненна было самай свята, самай важнай у жыцці справай; за ўдзел у гэтым "спектаклі" яны, не марудзячы, гатовыя, былі заплаціць і сваімі жыццямі, гэта значыла, што яны мелі права на ўсё, чаго вырашылі дабівацца: на зямлю, на волю, на сваю армію, на сваю Рэспубліку, на сваю мову, сцяг і герб".

У аповесці "Нічые" — не мужнасць паўстання і паўстанцаў, а боль і трагізм яго. Такая аўтарская пазіцыя, безумоўна, многім не спадабаецца. Сёй-той паспеў А. Федарэнку папракнуць. У тым сэнсе, маўляў, што калі нічога не ведаеш, дык лепш не пісаць. Атрымліваецца наадварот. А. Федарэнка якраз змог пра Слуцкі збройны чын даведацца шмат. І не пабаяўся па-свойму паставіцца да гэтых падзей, даючы ім сваю ацэнку. Канцэпцыя, якой прытрымліваецца А. Федарэнка ў аповесці, мае права на жыццё. Як і іншыя, якія абавязкова з'явяцца пры напісанні новых твораў на згаданую тэму, а што яны з'явяцца, сумнявацца не даводзіцца. Літаратура не мае права абыходзіць увагай тое, што доўгі час замоўчвалася. Як абавязак рабіць так, каб праўда жыццёвая станавілася праўдай мастацкай. І, несумненна, што тыя, хто ў далейшым возьмуцца за пяро, не могуць абысці ўвагай вопыт папярэднікаў. Таго ж В. Быкава, А. Пашкевіча, А. Федарэнкі.

Хацелася б, аднак, каб яны пазбягалі таго аднабаковага падыходу, што назіраўся ў першыя пасляваенныя (ды і пазнейшыя) гады, калі з'явілася нямала твораў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне. А гэта, як вядома, прыводзіла да таго, што фашысты і іх прыслужнікі абавязкова паказваліся нікчэмнымі, недалёкімі людзьмі.

Нешта падобнае мне заўважылася і ў "Нічыіх". Памятаеце, як чырвонаармеец Андрэй Мікіцін вырашыў прылюдна... памачыцца. З кім, як кажуць, не бывае. Але, скажу шчыра, у гэтым эпізодзе нешта насцярожыла. А. Федарэнка ж — не з тых пісьменнікаў, якія падобным чынам жадаюць "падагрэць" інтарэс чытача. Мільганула думка: "Няўжо..." Захацелася хутчэй даведацца, а якога ж гэты Андрэй роду-племені. Шукаць доўга не давялося, адказ знайшоў на наступнай старонцы. Мікіцін нарадзіўся ў Калужскай губерні, а значыць — рускі. А рускія... Чаго-чаго, а гэтага ад А. Федарэнкі не чакаў. Усё можна было б зразумець, калі б характар Андрэя Мікіціна паказваўся б у развіцці і даказвалася, што ён і такі і гэткі, а то...

У цэлым жа аповесць "Нічые" мяне парадавала. Як, упэўнены, і многіх з тых, хто паспеў з гэтым творам пазнаёміцца. Яна яшчэ раз засведчыла, наколькі талент А. Федарэнкі здатны вырашаць складаныя мастакоўскія задачы, як упэўнена пісьменнік ступае па літаратурным цаліку.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

Іван НАВУМЕНКА



## ЗАВАЕЎНІКІ

Ужо каторы дзень не працуе чыгунка. Партызаны ўзарвалі мост на Пцічы, і немцы яго аднаўляюць.

Дзіўная і наравістая гэтая Пціч. Беларускія рэкі цякуць на поўнач,напрыклад, Нёман, паблізу якога пачынаюцца вытокі Пцічы. А яна віхляе, пятляе і ў канечным рахунку трымае кірунак на поўдзень, упадаючы ў Прыпяць.

Сёння вярнулася група немцаў, якая ездзіла на Пціч (ёсць такая станцыя) аднаўляць мост. Гавораць: заўтра пойдуць цягнікі. Тут, на станцыі, сабралася некалькі цягнікоў. У іх ліку два санітарныя.

Немцы жывуць у двухпавярховым, складзеным з чырвонай цэглы чыгуначным доме. Ужо позняя восень, і Саша Пташук, які працуе на станцыі вугальшчыкам, зазірнуў у пакой да знаёмых немцаў. Усе ўчатырох яны сядзяць вакол стала. Пазнімаўшы шэрыя нацельныя сарочкі, насунуўшы на насы акуляры, яны вышукваюць і б'юць вошай. Відаць, прывезлі іх парадкам з-пад Пцічы.

З ахоўай чыгункі ў немцаў бязладдзе. З пачатку лета, калі па рэйках толькі пайшлі цягнікі, ахоўвалі чыгунку славакі. У некаторых мясцінах — мадзьяры. Славакі пачалі звязвацца з партызанамі, уцякаць у лес і, па чутках, іх перакінулі пад Мінск. Як бы пад Мінскам няма партызанаў. Мадзьяраў таксама сталі замяняць.

Цяпер чыгунку ахоўваюць адны немцы. Але што гэта за немцы. Нестраевікі. Кожнаму болей як пяцьдзесят гадоў. Саша з некаторымі знаёмы. Харчу немцам не хапае. Яны выпісваюць з Германіі іголкі, ніткі, пачкі фарбаў, іншую драбязу і ўсё гэта мяняюць у мясцовых жанчын на яйкі, сала, масла.

У гэтым абмене ім памагае Саша. Для гэтага ёсць прычыны. Саша не толькі забяспечвае кацельную дома, дзе жывуць немцы, вугалем, а і дае партызанам звесткі руху цягнікоў і ўвогуле аб паводзінах немцаў.

Немцы высеклі з абодвух бакоў чыгункі лес. На цэлых пяцьдзесят метраў з кожнага боку. Прыстралялі найбольш прыкметныя дрэвы, павесіўшы на іх фанерныя ўказальнікі з рознымі літарамі алфавіта.

Але кожны дзень падрываюцца на партызанскіх мінах цягнікі. Немцы старыя: недабачваюць, недачуваюць. Партызанам яны выгадныя, і тыя іх не чапаюць.

Хоць немцы і старыя, але да жанчын яшчэ цягнуцца. Вядома, не да маладзенькіх дзяўчат, з якімі нават не спрабуюць знайсці агульную мову. Наколькі ведае Саша, у знаёмых немцаў адна каханка — Кацярына Дзуля. Да вайны Каця працавала тут жа на станцыі стрэлачніцай. Цяпер немцы на такія пасады жанчын не бяруць. Але Каця знайшла другі занятак.

Дзуля тоўстая, нязграбная, але даволі рухавая і ўвішная. Найбольш прырода пакрыўдзіла Кацю абліччам: чырвоны, плоскі, як талерка, твар, вялікі мясісты нос, шырокі, з вывернутымі губамі рот: ейны твар, здаецца, не мае ніводнай прывабнай рысы.

Яшчэ прырода ўзнагародзіла Кацю незвычайна шырокім задам. Яе клубы — як млынавыя камяні. Гэта якраз і прыцягвае да яе ўвагу старых немцаў. Яны, здаецца, нават дзівяцца, убачыўшы такую незвычайную персону.

У хуткім часу Дзуля займае пусты яўрэйскі дом. Магчыма, не без дапамогі знаёмых салдатаў. Салдаты кожны вечар валяць у гэты дом. Яны, можа, склалі нават адпаведны графік, бо на ганку дома ніколі не таўчэцца болей як пяць салдатаў.

Дзулі, відаць, падабаецца цяга да яе мужчынскага племя. Тым не меней, спаткаўшы незнаёмага салдата, Дзуля працягвае рэкламаваць свой тавар:

— Пан, гут машынка, — і ляпае сябе па сцёгнах.

Па чыгунцы з вялікай асцярогай цягнуцца нямецкія эшалоны: наперадзе дзве платформы, нагружаныя пяском, хуткасць цягнікоў невялікая. Чым далей, тым болей немцы ходзяць панылыя, прыніжаныя.

Аднойчы знаёмы немец папрасіў Сашу:

— Прынясі карту, пакажы, дзе мы знаходзімся.

Саша прынёс. Агульную карту з тайгой, пустынямі. Далёкім Усходам. Убачыўшы, які маленькі кавалак савецкай зямлі немцы заваявалі, а цяпер, адступаючы, пакідаюць назаўсёды, салдат зусім зніякавеў.

Чырвонаармейская часць наступала па чыгунцы. Нямецкі ўзвод, які ахоўваў мост на рачулцы Ведрычы, кіламетраў за восем ад мястэчка, паспрабаваў супраціўляцца. Быў знішчаны цалкам. Мястачковыя сутычак з арміяй не чакалі. Цісначы да чыгуначнага насыпу, кінуліся на злом галавы ў заходнім напрамку і,здаецца, паспелі праскочыць.

## ЖЫВОТ

На кафедры мовы, на якой ужо другі год займаецца Пятро Ламаносаў, ёсць жвавая, досыць прыгожая аспірантка Жэня Капусціна. Яна, відаць, нацэлілася на кар'еру, бо паступіла ў аспірантуру са здадзеным кандыдацкім мінімумам і ў дадатак уступіла ў партыю.

Нічога гэтага не мае Пятро, акрамя прозвішча, якое амаль усюды выклікае смяшлівае пытанне:

— Ты не родзіч таму, славутаму?

— Ён мой траюрадны дзед, — адказвае Пятро, даючы субяседніку зразумець, што таксама валодае гумарам.

Пятро вахлакаваты, з вялікай мядзведжай галавой і — абсалютна рыжы. Быў Пятро ўжо жанаты. Ніхто не ведае, па якой прычыне ён развёўся. Вострыя языкі за ягонай спіной балбочуць, што жонка ад яго проста збегла, уявіўшы, якія будуць ад такога мужа дзеці.

На здзіўленне кафедры, Пятро ўсё часцей загаворвае з Жэняй Капусцінай, аказвае ёй розныя дробныя паслугі. Жэня таксама не ўхіляецца ад Пятровых заляцанняў. Можа, таму, што Ламаносаў упэўнена грызе навуку. Экзамены здае бліскуча, сёе-тое друкуе.

Загадчык кафедры Журкевіч, чалавек, які выбіўся ў дацэнты са старых школьных настаўнікаў і які ў першую чаргу заўважае ў людзях іх смешныя рысы, паступова змяняе іранічнае стаўленне да Ламаносава на цалкам станоўчае.

І вось Пятро пасля пасяджэння кафедры, якое парадкам зацягнулася, узяўся правесці Жэню дамоў. Тым болей, што яна жыве за горадам у адным з ваенных гарадкоў. Па дарозе ён прапанаваў з'есці па марожанаму, з чым Жэня пагадзілася.

Вясна ў разгары. Над многімі садамі як бы ўспыхвае белае вогнішча квецені. На драўляных ускраінах горада садоў не пералічыць. Жэня маўчыць. Не дае ніякага повада для гаворкі.

— Я думаю напісаць дысертацыю пра ўстойлівыя словазлучэнні, ідыёмы, вы ведаеце многа ідыём, Жэня?

Жэня схамянулася і нічога не адказала.

Ламаносаў спрабуе зачапіцца за другія нечапаныя прагаліны моўнай праблематыкі, але з тым жа поспехам. Жэня рота не раскрывае. Вясёлая, жвавая шчабятуха, яна як бы вады ў рот набрала.

А ён як бы выхваляецца красамоўствам: гаворыць пра лінгвістычныя школы, славутых мовазнаўцаў, іх здзяйсненні.

І тут у Пятра пачынае бурчэць жывот. Відаць, дарма ён з'еў марожанае, да якога ўвогуле абыякавы. Можа, яно было няякаснае, тое марожанае, ці знайшлася яшчэ якая халера. Тым часам жывот пратэстуе, бурчэнне ўзрастае, жывот проста трубіць. І гэтай музыкі не можа не пачуць Жэня.

Пры гэтым бурчэнні — такое, дарэчы, здарылася з Пятром першы раз у жыцці — ён давёў Жэню да яе дамоўкі. Моўчкі ніякавата развіталіся.

Ламаносаў вярнуўся ў інтэрнат з панылым настроем. Такое недарэчнае здарэнне. Пятро быў на вайне, спаў, дзе прыйдзецца, еў, што трапіцца, і ніколі, як цяпер, не падводзіў жывот.

У знаёмага медыка Ламаносаў спытаў, якая магла быць прычына нягодных паводзін яго ўласнага жывата.

— Нервы, — адказаў той. — Усё, брат, ад нерваў. Ты, відаць, быў не ўпэўнены ў сваёй дзяўчыне.

Ламаносаў згадзіўся.

Жэня, прыходзячы на кафедру, паводзіць сябе з Ламаносавым па-ранейшаму. Тым часам яму не надараецца выпадку пабыць з ёй адзін на адзін. У глыбіні істоты Ламаносава расце падазрэнне, што Жэня проста ўхіляецца ад яго кампаніі.

Тым часам педантычны загадчык кафедры Журкевіч абавязвае аспірантаў напісаць рэфераты, у якіх тэарэтычна абгрунтаваць важнасць абранай кожным тэмы. Ламаносаў піша рэферат на сорак старонак.

Рэферат Капусцінай загадчык кафедры перадае на рэцэнзію Ламаносаву.

Як на вожыка ўссадзіў ён Ламаносава гэтым рэфератам. Бо ніводнай спелай думкі, ні грама самастойнасці ў рэфераце Капусцінай Пятро не знаходзіць. Студэнцкія курсавыя і то лепшыя.

Пакрывіць навуковым сумленнем Ламаносаў не можа. Ён піша адмоўную рэцэнзію.

Пасля гэтага Ламаносаў не рабіў спроб зблізіцца з Жэняй. Сваю рэцэнзію ён зачытваць не стаў, проста аддаў Журкевічу.

Жэня, вядома, дазналася, хто напісаў рэцэнзію. Ад яе паступіла пісьмовая заява з просьбай адлічыць з аспірантуры.

І ніхто ніколі не спаткаў Жэню на мовазнаўчых канферэнцыях, не пабачыў яе імя ў друку. Хутчэй за ўсё Ламаносаў сваёй рэцэнзіяй, тэарэтычнымі разважаннямі, на якія быў мастак, адбіў у Жэні жаданне да далейшай вучобы.

Тым часам сам Ламаносаў працягвае лічыць, што шмат нашкодзіў яму ў адносінах з Жэняй яго ўласны жывот.

## ГРЫБНОЕ ШЧАСЦЕ

Нялёгкае жыццё выкладчыка. Калі адна лекцыя, то гэта яшчэ не бяда. Але бываюць дні, калі прыпадае па дзве, нават па тры лекцыі. Паспрабуй, выстай за кафедрай цэлых шэсць гадзін. Ды нешта ж яшчэ больш-менш талковае і гаварыць трэба.

Выкладчыкі універсітэта Пятро Бруй і Лявон Грэк разрыўку знаходзяць у тым, што пасля лекцый, колькі б іх ні было, імкнуць у лес. Вядома, па грыбы. Хоць мала іх у паўдзённы ці перадвячэрні час у лесе застаецца.

Лес вытаптаны, як конскае тырла. Але трохі сыраежак, абабкаў яшчэ можна знайсці.

Пятро Бруй — кандыдат навук, а Лявон Грэк яшчэ толькі рыхтуе дысертацыю. Абодва адзін другога разумеюць, бо яны блізкія па душэўным складзе.

Нахадзіўшыся па вытаптаным лесе, у чаканні электрычкі калегі прымошчваюцца ў прыдатным месцы, бяруць па чарцы (чацвярцінка гарэлкі на двух). Сілы аднаўлены, у нагах прыемная стома, заўтра можна зноў станавіцца за кафедру.

У гэты дзень была толькі адна лекцыя. У дзесяць гадзін Пятро Бруй ужо стаяў на пероне. Вось-вось павінна была падысці электрычка. Лявона Грэка тым часам няма. Замест яго ходзіць па пероне прысадзісты, вайсковы капітан з вялізным кошыкам.

Вось ужо і электрычка падышла. Грэк не паяўляецца. Відаць, нешта здарылася.

Бруй і капітан заходзяць у вагон. Садзяцца на лаўкі насупраць адзін другога.

— Па грыбы? — пытае Бруй.

— Па грыбы.

— Давайце знаёміцца.

— Бруй Пятро Іванавіч, — называе сябе кандыдат навук.

У адказ чуе:

— Бруй Пётр Іванавіч.

У першую хвіліну кандыдату навук здаецца, што вайсковец над ім насміхаецца. Але не, той на яго глядзіць сур'ёзна і трохі здзіўлена.

— Выходзіць, мы поўныя цёзкі, — гаворыць выкладчык.

— Падобна на тое, — пацвярджае вайсковец.

У выкладчыка Бруя поўны цёзка ўжо быў. Ён жыў на процілеглым канцы галоўнай вуліцы іхняга мястэчка. Чымсьці падобны да гэтага капітана. У школе ішоў на клас вышэй за Пятра. Але недзе з пятага ці шостага класа яго шыракаваты твар пачаў бляднець, мізарнець і сталася так, што, не скончыўшы сямігодкі, ён памёр. Ён неяк абыякава адносіўся да сваёй хваробы (відаць, туберкулёз), патроху нават жартаваў, але глыбокі сум свяціўся ў яго шэрых вачах.

Капітан першы раз ехаў у грыбы. Таму ва ўсім падпарадкоўваўся выкладчыку. Злезлі на глухаватым паўстанку. Грыбнікоў, акрамя іх двух, не было.

Бруй павёў сваго часовага спадарожніка ўглыб лесу. Дзень быў сонечны, але не спякотны. Блізкая восень нагадвала аб сабе першымі прыкметамі. Яшчэ вісеў на дрэвах, рэдка падаючы долу, жоўты ліст, у каляінах стаяла празрыстая, нібы крышталь, вада, з глыбіні лесу плыў, бадзёрачы цела, прыемны халадок.

Пятро Бруй кіраваў на пагоркі паблізу глухой лясной вёсачкі. Туды не заўсёды дасягалі гарадскія грыбнікі. Увогуле месца тое вабіла нейкім як бы спрадвечным спакоем, зацятай цішыняй.

У казках гаворыцца пра ноч, калі расцвітае кветка-папараць. Ёсць, відаць, ночы, калі расцвітае грыбное царства. Як вось цяпер: схіл пагорка, нібы дыван кветкамі, засеены грыбамі. Маладымі, пругкімі, з цвёрдымі цёмнымі шапачкамі абабкаў і чырвонагаловымі падасінавікамі. Гэтыя пісталецікі выраслі за апошнюю ноч. Два дні назад выкладчык Бруй быў тут і не бачыў нічога не бачыў. Хіба гэта не цуд: не трэба шукаць грыбоў, крочыць па лесе, садзіся, вымай нож, падразай грыб за грыбам.

Бруй-выкладчык напачатку з іроніяй глядзеў на вялізны кош капітана. Цяпер іронія адляцела. Пяць, нават дзесяць такіх кашоў можна нарэзаць на гэтых пагорках. Заўтра гэтага не будзе.

— Добра ведаеце лес, калі прывялі на такое месца, — гаворыць капітан.

Выкладчык не адказвае. Такое ён сам бачыць першы раз. Радуецца, што грыбное шчасце яго не абмінула. Гэта як у казцы пра кветку-папараць.

Два Пятры Іванавічы дамаўляюцца прыехаць на гэтае месца яшчэ раз. Але не выпадае: то адзін заняты, то другі.

Пятро Іванавіч і Лявон Грэк наведваюць грыбныя курганы праз тыдзень. Але тое, што было, здаецца сном. Звычайны падбярозавік ці сыраежку трэба вытупваць, настойліва вышукваць.





## *На сцэне — "Маладая Беларусь"*

**1 кастрычніка грамадства нашай краіны адзначала адразу два святы — Дзень пажылых людзей і Міжнародны дзень музыкі. Таму было б неяк дзіўна, калі б у гэты дзень на сцэне сталічнай філармоніі не гучала музыка; канцэрт сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь" быў прымеркаваны менавіта да гэтага свята. Гэтая імпрэза адкрывала цыкл выступленняў калектываў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад назвай "Парад аркестраў", прысвечаны 70-годдзю навучальнай установы.**

**На пачатку свайго існавання аркестр (а тады ён яшчэ не меў назвы "Маладая Беларусь") выконваў выключна навучальную місію. Але з 1992 года, калі ён перастаў быць проста сімфанічным аркестрам Беларускай акадэміі музыкі, у працы калектыву назіраецца зарыентаванасць на прафесійную канцэртную дзейнасць. Пра гэта сведчыць перш за ўсё значнае пашырэнне рэпертуару.**

**Як вядома, майстэрства выканаўцаў узрастае (у немалой ступені) за кошт павелічэння колькасці твораў у рэпертуары. Паводле слоў мастацкага кіраўніка і дырыжора аркестра Міхала Казінца, штогод рыхтуецца да выканання 6-8 (!) праграм, складзеных з твораў самых розных аўтараў (як замежных — Моцарта, Бетховена, Берліёза, Брамса, Сен-Санса, Равеля, Мусаргскага, Барадзіна, Пракоф'ева, Шастаковіча і інш., так і беларускіх — Я. Глебава, А. Багатырова, А. Мдзівані, Д. Смольскага і інш.).**

**Супрацоўніцтва "Маладой Беларусі" з сусветнавядомымі салістамі — Ігарам Алоўнікавым (фартэпіяна), Аркадзем Валадосем (барытон), Хуга Леклерам (фартэпіяна) і інш., а таксама замежнымі дырыжорамі — Георгам Майсам і Мары Жан Кеннонам, — факты, якія сведчаць пра відавочны творчы рост аркестра.**

**Сёння аркестр вядзе інтэнсіўнае канцэртнае жыццё. Адбываюцца выступленні не толькі ў нашай краіне (Магілёў, Вілейка, Брэст), але і за яе межамі. І ў гэтым канцэртным сезоне плануюцца паездкі аркестра ў Германію і Францыю.**

**Вяртаемся да канцэрта, прымеркаванага да Дня музыкі. "Маладая Беларусь" вынесла на суд слухачоў творы сусветна вядомых рускіх кампазітараў: варыяцыі на тэму ракако (саліст — Яўген Фешчанка) і Чацвёртую сімфонію П. Чайкоўскага, а таксама Другі канцэрт для фартэпіяна з аркестрам С. Рахманінава (сола — Ігар Алоўнікаў). Згадзіцеся, што выкананне такой праграмы вымагае ад аркестра прафесіяналізму высокай якасці. Гэтыя творы захаплівалі ўвагу многіх выдатных музыкантаў, пра што сведчыць вялікая колькасць іх выканальніцкіх трактовак. Аркестр "Маладая Беларусь" прапанаваў сваё разуменне вядомай музыкі. Усё, што было выканана маладымі музыкантамі, уражвала глыбінёй пранікнення ў задуму аўтараў, у вобразны змест твораў. Уразілі ансамблевыя якасці калектыву і гучанне асобных груп, у прыватнасці, драўляных духавых.**

**Усё, што давялося пачуць у гэты вечар, пераконвае: калектыў не спыняецца на дасягнутым і працягвае паступова ўдасканальваць сваё майстэрства. Зразумела, у мастацтве шлях да дасканаласці амаль што не мае межаў, і маладыя музыканты гэта вельмі добра разумеюць.**

**На думку мастацкага кіраўніка калектыву прафесара Міхала Казінца, сёння аркестр "Маладая Беларусь" з'яўляецца "неад'емнай часткай канцэртнага жыцця Мінска і Беларусі".**

**Радуе таксама і тое, што і іншыя калектывы Акадэміі музыкі — аркестр беларускіх народных інструментаў, аркестр духавых інструментаў, аркестр рускіх народных інструментаў, камерны аркестр "Gradus Parnasum" — рыхтуюцца да выступленняў на сцэне Канцэртнай залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**Ігар ПАРФЯНЮК, студэнт Беларускай акадэміі музыкі**

# Зямля і неба Фердынанда...

## ГІСТОРЫЯ АД ПАЧАТКУ

Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва адзначае сёлета свой юбілей. Прайшло ўжо пяць год, як кола мастакоўаднадумцаў абвесціла пра стварэнне грамадскага аб'яднання.

У яго коле аказаліся не толькі прадстаўнікі сярэдняга пакалення (а яны аб'ектыўна на той момант былі вядучымі мастакоўскімі сіламі рэспублікі), але і значныя асобы старэйшых майстроў. Акрамя графікаў, жывапісцаў, скульптараў, у сяброўстве з акадэміяй былі рэстаўратары і мастацтвазнаўцы. Пазней да БелАВМ далучылася таленавітая моладзь.

Натуральна, былі тыя, што ў склад БелАВМ не ўступілі па ўласных прынцыпах і меркаваннях. Былі тыя, што кпілі і называлі ўсё гэта "міжсабойчыкам", але ў асноўным кола нядобразычліўцаў складалася з пакрыўджаных, каго не запрасілі да суполкі наваспечаныя мэтры. Рэакцыя грамадства была прыязная, ад акадэміі чакалі мастацтва з "высокай літары" і нейкіх дзеянняў, што пацвердзілі б і ўмацавалі яе назоў. Таму захады БелАВМ — стыпендыі таленавітым студэнтам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, падтрымка галерэі "Традыцыя" ў Светлагорску і штогоднія выставы, прысвечаныя дзеячам беларускай культуры, выклікалі прыхільную цікавасць. Тым больш, што кожная выстава акадэмікаў была адметнай, без відочных мастацкіх "правалаў", і адразу рабілася з'яваю ў духоўным жыцці рэспублікі.

Два гады таму акадэмія распачала праводзіць пленэры ў гонар Фердынанда Рушчыца, ушаноўваць яго памяць. А сёлета ў Музеі сучаснага мастацтва адбылася выстава БелАВМ "Зямля і неба Фердынанда", якая склалася з работ абодвух вераснёўскіх выездаў у Валожынскі раён, на радзіму мастака. Як пакепплівалі самі акадэмікі, на новых творах яшчэ і фарба да адкрыцця прасохнуць не паспела...

## ДЗЕ ЗАКАПАНЫ САБАКА

Летась да творчасці і асобы выдатнага беларускага мастака Ф.Рушчыца звярнулася не толькі БелАВМ. Правёў навуковую канферэнцыю, заявіўшы пра яе магчымы працяг і выданне матэрыялаў Нацыянальны мастацкі музей. Адбыўся і пленэр на Валожыншчыне суполкі "Пагоня", таксама прысвечаны Рушчыцу. Гаворка не ідзе аб "першынстве" ідэі, не варта і параўноўваць вынікі пленэраў.

БелАВМ яшчэ да правядзення свайго першага пленэру наладзіла сувязі з нашчадкамі Рушчыца, што жывуць зараз у Польшчы, запрасіла яго сына Эдварда, дачку, унука Фердынанда, дырэктара Нацыянальнага музея ў Варшаве, праўнука Эдварда, членаў сям'і на Беларусь. Нашчадкі Рушчыца надрукавалі ў Польшчы дзённікавыя запісы мастака ў двух тамах, прывезлі некалькі асобнікаў на Беларусь разам з якаснымі рэпрадукцыямі работ мастака.

Вялікую дапамогу аказаў Валожынскі райвыканкам.

Акадэмія мяркуе да пачатку наступнага года надрукаваць альбом, дзе, акрамя твораў Рушчыца, можна будзе пазнаёміцца з навуковымі доследамі яго творчасці беларускімі мастацтвазнаўцамі.

## СЫН АЙЧЫНЫ

Фердынанда Рушчыца не першым згадаў у сваіх навуковых працах доктар мастацтвазнаўства Л.Дробаў. Але знакавасць гэтай фігуры для нашага мастацтва, для яго станаўлення і развіцця яшчэ цалкам не вызначана. Усё жыццё Рушчыца было звязана з роднай зямлёй. На Беларусі, у вёсцы Багданава (Валожынскі раён) ён нарадзіўся, тут ён напісаў свае лепшыя творы. Сюды ён вяртаўся з Пецярбурга, Варшавы, Кракава, Вільні, замежных вандровак. Тут



*На магіле Рушчыца з ксяндзом Чарняўскім*



*В. Альшэўскі "Фрагменты палявання"*



*Л. Шчамялёў "Кросны ход у Багданаве"*



*І. Тоўсцік "Зямля Валожынская"*



*Ф. Янушкевіч "Шлях да касцёла"*

ён піша свае знакамітыя карціны "Зямля", "Эмігранты", "Стары млын"... Вучыўся Ф.Рушчыц у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, дзе яго настаўнікамі былі Шышкін і Куінджы, а сябрамі Рэрых і Чурлёніс. Пасля было выкладанне жывапісу на пасадзе прафесара ў Школе прыгожых мастацтваў у Варшаве. З 1921 да 1932 г., да канчатковага пераезду ў Багданава, ён кіраваў кафедрай жывапісу Віленскага універсітэта, быў старшынёй камісіі па ахове помнікаў даўніны. Але мастак увесь час імкнецца ў Багданава. У родным фальварку "сонца, снягі, мая цёмная, таямнічая вада абуджаюць зняволенае жаданне працаваць". Тут, у Багданаве ён пахаваны. У вёсцы дасюль жывуць старыя, што памятаюць і добрым словам згадваюць яго і "пані Ганну", жонку Рушчыца і маці іх шасцярых дзяцей. І хоць сёння ніхто з нашчадкаў мастака на Беларусі не жыве, ад фальварка засталіся толькі падмурак побач са сценамі былога калгаснага кароўніка, магіла "добрага пана" Рушчыца заўжды дагледжаная мясцовымі жанчынамі, аб гэтым паклапаціліся дзеці і ўнукі мастака.

Менавіта ў Багданаве і Вішневе пісаліся знакамітыя карціны мастака, тут нараджаліся напоўненыя святлом пейзажы "Прадвесне", "Лясны ручай", "Зімовая казка", "Воблака", "Старыя яблыні", "Крэва". Дэкор, маляўнічасць, арыгінальнасць рашэння — усё гэта захапляла мастака. Ён маляваў цёмныя лясныя ручаіны з беллю бяроз і апошнімі плямамі снегу на берагах, бурлівыя веснавыя воды, заснежаныя дрэвы, пахмурныя аблокі... Усе яго пейзажы адначасова простыя і лаканічныя. Кожны твор Рушчыца не проста пазнавальны, ён мае глыбока нацыянальную адметнасць. Ён раскрывае паэзію роднага краю, яго меладычнасць і песеннасць, прыхаваную за пахмурным небам і архітэктурнымі рэштамі даўніны. Настрой і вобразны лад твораў Рушчыца сугучныя нацыянальнаму характару і псіхалогіі народа. Мастака захапляе стары млын, гістарычныя помнікі ("Касцёл у Вішневе", "Крэва").

У дзённіку за 1898 г. Фердынанд Рушчыц пакідае запіс: "Я хачу перш за ўсё быць добрым сынам сваёй Айчыны, для яе працаваць, араць і, калі выпрасе нешта, аддаць ёй у дар усе плады, бо я люблю яе ўсім сэрцам і толькі ёй належу целам і душою".

Уздзеянне яго творчасці на далейшае развіццё беларускага жывапісу яшчэ цалкам не вызначана. Але можна заўважыць, што, акрамя сюжэтных матываў, наступныя пакаленні мастакоў звярталі ўвагу на кампазіцыйную будову, суадносіны аб'ёму і прасторы ў пейзажных работах Рушчыца. Прастора робіцца асновай яго твораў, камернасці альбо манументальнасці, паэтычнай узнёсласці ці спакойнай апісальнасці іх.

На жаль, у Нацыянальным мастацкім музеі захоўваецца толькі адзін твор мастака — "Перад касцёлам". Астатнія знаходзяцца ў калекцыях суседніх дзяржаваў. Тым не менш сваю мастакоўскую прыхільнасць да Беларусі Рушчыц вызначаў сам, дастаткова толькі пачытаць яго дзённікі. Як, дарэчы, і другі выдатны мастак — Вітольд Бяльніцкі-Біруля, які таксама з гонарам пісаў :"я — беларус", хаця большую частку жыцця пражыў у Расіі.

## "ТАК МАЛА ЗРОБЛЕНА..."

Так пісаў у сваім дзённіку Рушчыц... Прайшоўшымі за апошнія два гады мерапрыемствамі закладзены толькі пачатак сапраўднага вяртання выдатнага беларускага мастака "дадому". Прыемна, што ў пленэрах БелАВМ прымаў удзел і польскі бок (пры дзеі Польскага інстытута ў Мінску). Да беларускіх "акадэмікаў" прыехалі прадстаўнікі факультэта жывапісу і прафесар, дэкан гэтага факультэта Варшаўскай акадэміі выяўленчага мастацтва Крыштаф Ваховіяк. Дарэчы, творы польскіх мастакоў, таксама створаныя пад непасрэдным уражаннем надзвычай маляўнічых Рушчыцавых мясцінаў, відочна адрозніваюцца ад беларускіх. Польскія мастакі не адмаўляюцца ад фармальна-канцэптуальнага падыходу, а трактар на гарбатым пагорку ўспрымаецца проста непрыхаванай іроніяй.

У Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва сапраўды сабраліся асобы, кожны з іх — самадастатковы як мастак і даўно склаўся як творца. Пяць год існавання дазваляюць акадэміі падсумоўваць здабыткі і ставіць пытанні. Якой структурай надалей будзе акадэмія і якім шляхам будзе ісці яе дзейнасць? Да гэтага часу акадэмія працавала ў "аўтаномным" рэжыме. Акадэмія не мае сталага памяшкання, друкаваных выданняў, сваёй выставачнай залы ў сталіцы, грашовага фонду ці ўласнага спонсара. Але адна выстава на год — нармальная з'ява для любой актыўнай суполкі. Дзяржава гэту структуру афіцыйна не прызнала за праваздейную, назва акадэмія і званне акадэміка не суадносіцца з афіцыйнымі. І таму адназначна адказаць, якім чынам ладзіць у далейшым дзейнасць акадэміі і яе адносіны з афіцыйнымі установамі, складана і самім акадэмікам.

**Наталля Шаранговіч**

ГАСЦЁЎНЯ

# "Сцэна — свет, лепшы за наш..."

***Ганна Гур'ева — салістка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь — літаральна вырасла за яго кулісамі. Яе бацькі — з гэтага тэатра: Віктар Фёдаравіч Гур'еў — заслужаны артыст Беларусі, Лідзія Пятроўна — салістка оперы...***

— Калі ў тэатры ішоў вялікі спектакль, я бавіла час у грымёрным або ў касцюмерным цэху, — успамінае Ганна. — Разглядала касцюмы, апранала салістаў. А яшчэ я любіла сядзець у доктара, дапамагала ёй мыць інструменты, налівала вадкасці ў мензуркі. Калі падрасла, удзельнічала ў спектаклі "Церем-церемок"... Усе мы — дзеці тэатра — вельмі сябравалі, у адносінах усё было чыста, наіўна, па-сяброўску. І спектаклі, канечне, глядзелі. З татам у нас была цікавая гульня: ён спяваў мелодыі з опер, а я адгадвала — адкуль. Я ведала ўсе арыі, дуэты, хоры.

**— Ці ёсць у вас любімы кампазітар?**

— У залежнасці ад стану душы мне падабаецца музыка розных кампазітараў. Люблю Чайкоўскага, ён мне блізкі ўнутраным зместам, у яго рамансах закладзена вельмі глыбокая філасофская база, палітра пачуццяў у іх вельмі разнапланавая. А ўвогуле, бывае, што мне падабаецца нават эстрада, асабліва раніцай. Таму што перад напружаным працоўным днём патрэбны эмацыянальны зарад. Калі ўключаеш класічную музыку, трэба думаць, развежаць, а раніцай гэта складана.

**— Калі не сакрэт, а якой гадзіне для вас пачынаецца раніца?**

— Гэта залежыць ад працы. Доўга спаць няма калі. Хаця перад вячэрнім спектаклем, напрыклад, трэба паспаць падолей, каб былі сілы. Таму што за час спектакля можна страціць кілаграмы два ці нават болей. Асабліва цяжкі для мяне "Севільскі цырульнік", многа фізічных затрат.

**— Колькі партый у вашым асабістым рэпертуары?**

— Калі гаварыць пра вялікія партыі, дык можна назваць оперы "Севільскі цырульнік", "Шлюбны вэксаль", "Чарадзейная флейта". Вучу партыю Сюзаны з "Вяселля Фігара", Мюзэты з "Багемы", павінна ўвесціся ў "Баль-маскарад" (партыя Аскара), ёсць у мяне і невялікія партыі.

**— Ці помніце вы свой першы "дарослы" выхад на оперную сцэну?**

— У "Царскай нявесце" я павінна была праспяваць: "Боярыня, царевна пробудилась!" (роля Сеннай дзяўчыны). Я не памятала ні дырыжораў, ні залы, ні салістаў, толькі яркае святло сафітаў. Баялася, што пераблытаю словы. А да таго ж там быў складаны ўступ, і я вельмі хвалявалася.

**— Вы скончылі Беларускую кансерваторыю?**

— Не, Адэскую. Там векавыя традыцыі вакальнай школы, там зусім іншая культура выкладання, адрозніваецца пастаноўка голасу. Загадчыца кафедры вакалу Галіна Анатольеўна Паліванава была маім педагогам. А ўвогуле, спачатку я скончыла ў Мінску педагагічны інстытут (музычна-педагагічнае аддзяленне), чатыры гады працавала ў хоры нашага тэатра музкамедыі, за паўтара года скончыла музычнае вучылішча, каб мець права паступіць у кансерваторыю.

**— Што для вас сцэна?**

— Я да яе стаўлюся з трапятаннем і павагай. Сцэна — гэта іншы свет, ён лепшы за наш. Калі запальваецца святло, апранаецца касцюм — ты трапляеш у гэты чароўны свет. Амаль усе мае гераіні трошкі падобныя да мяне. Яны імкнуцца да цудоўнага.

**— Як і вы?**

— Канешне. Хачу зберагчы сваю душу ад бруду.



**— Гэта можна зрабіць у тэатры?**

— Складана. Лепш не ведаць закуліснае жыццё, інакш не захочаш увогуле хадзіць у тэатр. Калі я прыходзіла сюды ў пачатку кар'еры, то ўнутрана была заўсёды ў абароне, таму што асобу могуць зламаць, і ты нічога не зможаш зрабіць як спявак. Сёння ў мяне ўжо ёсць статус, я маю вопыт за плячыма і магу горда сябе трымаць, і ўжо ўмею ад гэтага абстрагавацца.

**— Ці ёсць у вас сябры ў тэатры?**

— Ёсць. Тая моладзь, якая прыйшла разам са мной. Мы трымаемся разам: Марына Аксёнцава, Лена Бундзелева, Эла Рыжановіч, Саша Краснадубскі, Саша Жукаў, Віка Курбацкая, Таня Цівунова...

**— А дапамагае вам старэйшае пакаленне?**

— Канешне. Колькі мне парад дае Віктар Максімавіч Чарнабаеў — гэта крыніца мудрасці, творчасці і таленту! Дапамагаюць таксама Міхаіл Жылюк, Аркадзь Саўчанка. Але яны гэта робяць толькі тады, калі адчуваюць, што табе патрэбна дапамога, калі ўспрымеш іх парады. Тата з мамай стараюцца быць на маіх спектаклях, і потым даюць мне парады — у асноўным, тата. А самы вялікі крытык — гэта мой муж Артур Шаўкалюк.

**— Вы задаволеная сваёй працай?**

— Мая праца — гэта маё жыццё і захапленне. Напэўна, я адна сярод маіх аднакласнікаў маю любімую прафесію і лічу сябе шчаслівым чалавекам. А яшчэ люблю чытаць кнігі: і філасофскія, і псіхалагічныя, і меладрамы. Вельмі дрэнна, калі я не пачытаю хаця б адзін дзень — бывае, проста не паспяваю. Гаспадарка займае амаль увесь час.

**— Калі не сакрэт, ці ёсць у вас прыхільнікі, якія прыходзяць, падносяць кветкі, гавораць кампліменты?**

— На жаль, цяпер мужчыны не ўмеюць гэтага рабіць. Але вось аднойчы ішоў "Севільскі цырульнік", за кулісы прыйшоў малады чалавек. Мне яго адрэкамендавалі як майго пастаяннага прыхільніка. Сам ён з Санкт-Пецярбурга. Нагаварыў мне многа добрых слоў, мне было вельмі прыемна. Кажуць, у тэатры ў мяне ёсць тайныя прыхільнікі, але я не ведаю, хто гэта.

**— Выходзячы на сцэну, вы пераўвасабляецеся ў гераіню...**

— Канешне, на сцэне гэта ўжо не я, я — іншая, і знешне, і ўнутрана. Напрыклад, Фані ў "Шлюбным вэксалі" легкадумная, і мне было даволі складана працаваць над гэтай роллю. Мая новая работа — Мюзэта ў "Багеме" — гэта жанчына, якая кахае беднага мастака, але з-за таго, што ў яго мала грошай, ідзе да багатага старога і "выпампоўвае" з яго грошы. Тут мне даводзіцца шукаць новыя фарбы, новыя адценні. Але мне цікава працаваць над гэтай партыяй. Як і над Сюзанай ("Вяселле Фігара"). У гэтай гераіні столькі шарму, какецтва, розуму і сілы духу! Вельмі цікава ўсё гэта перадаваць голасам: асабліва захапляе дуэт з Графам, дзе Сюзана яго зачароўвае, каб дамагчыся сваёй мэты, — тут столькі фарбаў! А самае важнае — гэта тое, што Сюзана, у выніку, аказваецца вышэй за саму графіню. Плебейка — вышэй за графіню!

**— А вы можаце ў жыцці выкарыстоўваць свой сцэнічны досвед?**

— На жаль, я не ўмею. Не магу спецыяльна пайсці, пакакетнічаць з начальствам і "выбіць" для сябе ролю. Я магу, застаўшыся без ролі, плакаць у падушку, але не пайду прасіць.

**— Некаторыя спевакі скардзяцца, што адчуваюць сябе марыянеткай у руках дырыжора: як ён загадае, так і трэба рабіць. Ці так яно на самай справе?**

— Вядома, трэба, каб адносіны былі роўныя. Мне тата расказваў пра аднаго знанага дырыжора, з якім пазнаёміўся на гастролях у Польшчы: маэстра вельмі клапоціцца пра вакалістаў, дазваляе спяваць на рэпетыцыі напаўголаса, патрымаць, напрыклад, ферматку столькі, колькі трэба. А яшчэ дырыжор павінен так сябе настройваць, што калі саліст выходзіць на сцэну і бачыць маэстра, яго ўсмешку і ўпэўненасць у поспеху спектакля, дык настрой спевака павінен адразу ўзнімацца... Сёння ў тэатры мы вельмі цесна супрацоўнічаем з канцэртмайстрам Ларысай Сямёнаўнай Талкачовай, мы вельмі блізкія адна да адной, амаль усе оперныя партыі я рабіла з ёй. Таксама працую з Таццянай Іванаўнай Івановай, з Георгіем Аляксеевічам Карантам. Колькі з імі спета канцэртаў! А яшчэ ў тэатры з'явіліся маладыя канцэртмайстры, з якімі я таксама супрацоўнічаю.

**Гутарыла Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*На здымку: Ганна ГУР'ЕВА з Уладзімірам ПЯТРОВЫМ у "Севільскім цырульніку".*

## Пісьменнік, рэдактар, інтэлігент...

15 кастрычніка споўнілася 65 гадоў пісьменніку Міколу Гілю.

Вядома, лічба не зусім круглая, але ўсё роўна пашанотная.

Тым больш, што пра гэтага чалавека варта лішні раз сказаць — і таму, што ён таго заслугоўвае, і таму, што ён, асабліва апошнім часам, незаслужана абыдзены ўвагай крытыкі.

А між тым Мікола Гіль мае багаты творчы наробак у літаратуры — і ў жанры мастацкай прозы, і ў жанры крытыкі і публіцыстыкі, і ў жанры



мастацкага перакладу. Першая кніжка апавяданняў "Ранішнія сны" выйшла ў 1973 годзе. Рэцэнзіі, якія з'явіліся на яе, маюць характэрныя назвы — Ю. Канэ назвала свой водгук "З любоўю да роднага", артыкул Г. Шупенькі мае назву "Ідучы ад фактаў жыцця". Пасля былі новыя кніжкі — апавяданняў, аповесцяў, нарысаў, кніг-літаратурныя запісы, пераклады... Проза Міколы Сымонавіча, бездакорная па стылістыцы, глыбокая па псіхалагізме, яна ў нечым перагукваецца з шукшынскай — тое самае любоўнае, з мяккай іроніяй і вялікім спачуваннем, стаўленне да герояў-вяскоўцаў.

Але ў асобе Міколы Гіля мы яшчэ маем і унікальнае спалучэнне пісьменніка — і рэдактара, журналіста, стыліста. Мікола Сымонавіч скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ ў 1959 годзе. На пачатку 60-х працаваў рэдактарам перадач для дзяцей на Мінскай студыі тэлебачання, у рэдакцыях часопісаў "Родная прырода" і "Маладосць".

Але журналісцкі лёс пісьменніка найперш зніталаны са штотыднёвікам "Літаратура і мастацтва". Упершыню Мікола Сымонавіч прыйшоў у "ЛіМ" у 1961 годзе, да 1972 года загадваў тут аддзелам. А ў 1977 годзе вярнуўся, каб застацца. Працаваў адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара, загадчыкам аддзела літаратуры. З 1990 па 1996 займаў пасаду галоўнага рэдактара.

Кожны, каму даводзілася сутыкацца з Міколам Гілём, як з рэдактарам, не можа не захапіцца ягоным тонкім адчуваннем слова, літаратурным густам. Што і казаць — пасада рэдактара часта няўдзячная. Творчыя асобы дакклівыя, праўка мастацкага твора, нават неабходная, успрымаецца часам як рэзанне па жывому. І рэдактар мусіць мець і высокі аўтарытэт, і высокае майстэрства, і высокую далікатнасць у адносінах з аўтарамі і іх творамі. І пры тым прынцыповасць, якая не дазволіць апусціць мастацкую планку свайго выдання, і не дазволіць здрадзіць ідэалам беларушчыны.

Мікола Сымонавіч увасабляе гэтыя якасці.

Многім аўтарам Мікола Сымонавіч, як рэдактар, як настаўнік, дапамог творча вырасці. Многія ўдзячныя яму. Таму што сустрэліся не проста з рэдактарам, а з інтэлігентным, нераўнадушным чалавекам, якому можна давяраць.

Сёння Мікола Сымонавіч працягвае сваю творчую працу. Апавяданні, што з'яўляюцца на старонках перыядычных выданняў, сведчанне таму, што пісьменнік працягвае творчыя пошукі і знаходкі. Публіцыстычныя творы сведчаць пра актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Ад рэдакцыі штотыднёвіка "ЛіМ", ад аўтараў і ад чытачоў зычым Міколу Сымонавічу доўгіх гадоў жыцця і творчага плёну.

ПАЭЗІЯ

Алесь ЛІСІЦКІ



## "Мне трэба пачысціць крыніцу..."

Памяці Паўла ШЫБУТА

*Асыпле восень*
*Лістоту з дрэў...*
*У трыццаць восем*
*Паэт згарэў.*
*Згарэў? Не верце*
*Мане дарма:*
*Яго ад смерці*
*Тады зіма*
*Ў свой сад забрала,*
*Бо чысціні*
*Душа шукала —*
*Бог спрычыніў!*

## Малітва-трызненне

*(У ноч на 26 красавіка)*

*I*

*Дзе ні шукаю спагады,*
*Дзе ні зракаюся зла, —*
*Бачу паўсюдна пагарды*
*Шмат і не чую цяпла.*
*Жыць як патрэбна — не ўмею*
*Проста або не магу?*
*Сам паслугоўваю змею*
*Перад дабром у даўгу?*
*Ценi пярэсцяць дарогу*
*Лёсу часцей і часцей.*
*Каб іх адолеў аблогу,*
*Стаў бы душою чысцей?..*
*Як ні спрабую, а варту*
*Зла не магу абысці.*
*Выпіць з атрутаю кварту*
*Кожнаму трэба ў жыцці.*
*Кроплі атруты ў крыніцы*
*Ёсць і ў маленства рацэ.*
*Ні жураўля, ні сініцы*
*Не патрымаю ў руцэ:*
*Рана яны паляцелі,*
*З выраю іх не вярнуць.*
*Здані навокал і цені.*
*"Мне паміж імі заснуць?..*
*Мне паміж іх не прачнуцца?..*
*Душам людскім не свяціць?.."*
*Ластаўкай першая ўнучка*
*Дзеду насустрач ляціць,*
*Цягне здалёк ручаняты —*
*Стала святлей увачч*
*"Госпадзе, Божа наш святы,*
*Жыць яшчэ гэтак хачу!.."*
*Як жа бываю я рады*
*Тут, каля продкаў жытла!*
*Дай, лёс, Палессю спагады*
*Болей ад той, што была!*

*2*

*Зімна Навокал світае,*
*Ценяў няма анідзе*
*"Дзева Марыя святая,*
*Сын твой куды нас вядзе?.."*
*Я не спяшаюся ў госці*
*І не збіраюся ў рай...*
*Божа, такой прыгажосці*
*Ты ў мяне не адбірай!*
*Колькі душа захлынецца*
*Тут мілажалю слязьмі?*
*Трэба ахвяра, то сэрца*
*Ты ў мяне нават вазьмі...*

*3*

*Дзе не шукаю спагады*
*І не зракаюся зла, —*
*Плешчацца мора пагарды,*
*Змяну віруе імгла...*
*Дымам захутвае свечку...*
*Падае зорка Палынь...*
*Праўду найгоркую сведчу*
*Продкам, нашчадкам*
*Амінь!*

•

*А вёсцы і ўночы не спіцца.*
*Прачнуўся: чуваць галасы.*
*Спрадвеку яна — працаўніца.*
*Яе я спакроўлены сын.*
*Не спешчаны лішняй увагай,*
*Раскошай і доўгім рублём,*
*Гляджу на вяскоўцаў з павагай,*
*На рук іх умельства і плён.*
*Здзіўляе іх мудрасць, цярплівасць,*
*Здзіўляе — і весялосць.*
*Не надта жывуць і шчасліва.*
*Для іх я, бадай, ужо госць.*
*Знаёмыя, чулыя людзі,*
*Суседу сусед — кум ці сват.*
*Зямны абавязак іх будзіць*
*І кліча на досвітку з хат.*
*Сябруюць і з працай, і з песняй,*
*Жывуць — са свайго мазаля.*
*Паклон тваім людзям, Палессе!*
*Ты шчодра радзі ім, зямля!*
*Я буду чаканым іх госцем*
*То ў поўню, а то ў маладзік...*
*Прашу цябе, лёс, на пагосце*
*Між іх на спачын пакладзі!*
*Палеткі наўкол заруняцца,*
*Бор здзівіць мяне цішынёй...*
*О, мне б з землякамі зраўняцца*
*Аднойчы хоць смерцю сваёй!*

•

МАЦІ

*— У святой хаціне*
*Нарадзіўся я*
*А якой гадзіне,*
*Любая мая,*
*Мама, ты не помніш?..*
*— Ці ж забыцца мне?*
*Як ніколі поўню*
*Бачыла ў акне.*
*А было пад ранак,*
*Выпаў ноччу снег.*
*Крыкнуў, як падранак,*
*Ты, сынок, у сне.*
*Я пазней збылася —*
*Восьмы ж ты ў мяне.*
*Доля задалася:*
*Бацька на вайне*
*Твой нідзе не згінуў,*
*Бо пашчасціў лёс...*

*Вёску я пакінуў —*
*Крыўдна ёй да слёз...*
*Пасмаю сівою,*
*Скронямі свячу.*
*З мамаю сваёю*
*Стрэчы — уваччу...*
*У святой хаціне*
*Нарадзіўся я*
*Да яе б дайсці мне*
*Доля ж ты мая!*

## Душа не просіць волі

*Не вырвуся з дому ў сталіцу,*
*Хоць так запрашаюць сябры.*
*Мне трэба пачысціць крыніцу*
*Яшчэ раз у нашым бары.*
*Не вырвуся з дому ў сталіцу,*
*Бо зерня чакае ралля.*
*Зімою кармлю я сініцу,*
*А ўлетку сачу жураўля.*
*Не вырвуся з дому ў сталіцу,*
*Хаця па-сыноўску люблю.*
*Мне б кніжак папоўніць паліцу,*
*Ды іх ці багата куплю?*
*Не вырвуся з дому ў сталіцу —*
*Гасцінцаў на ўсіх не вазьму.*
*Палессе — свой Храм і Святліцу —*
*На дзень хоць давеpу каму?*
*Не вырвуся з дому ў сталіцу*
*Ні сёння, ні заўтра ўжо — не.*
*Світанне сустрэць на званіцу*
*Хто ўзлезе заместа мяне?*
*Не вырвуся з дому ў сталіцу...*
*Туды і раней не спяшаў...*
*Хай трапіў я тут у вязніцу,*
*Ды волі — не просіць душа!*

•

*І год, і паўвека міне —*
*Ніхто не згадае мяне*
*А ёй гэта трэба,*
*Душы, там — дзе Неба?*



# Жыві сёння

СТАРОНКІ З НОВАЙ КНІГІ

Уладзімір ЛІПСКІ



●

*Я іду.*
*І цень ідзе.*
*То ззаду цягнецца,*
*то зазірне збоку,*
*то выскачыць наперад.*
*Мой цень высвечвае —*
*сонца.*
*Па жыцці ідуць са мной поруч:*
*сумленне,*
*жонка,*
*дзеці,*
*сябры,*
*кнігі,*
*мая любоў да Айчыны.*
*Гэты "цень" высвечвае —*
*мая Мама!*

●

*На нашым пляцы ў Шоўкавічах*
*стаіць дуб-волат,*
*пасаджаны дзедам Янкам.*
*Ён бачыў,*
*як дзед ладзіў хату,*
*як яна гарэла ў вайну.*
*Ён — сведка,*
*як бацька мой Сцяпан*
*будаваў тут сваю хату,*
*як выносілі яе гаспадара*
*ў белай дамавіне.*
*Дуб абміналі*
*маланкі,*
*пажары,*
*пілы,*
*сякеры.*
*І хоць па яго карэннях*
*тапталіся людзі,*
*за яго чапляліся плуг і барана,*
*пад яго падрываліся свінні,*
*яго чупрыну калашмацілі*
*злыя вятрыскі, —*
*дуб жыў,*
*жыве,*
*будзе жыць.*
*Зайздрошчу яму —*
*ён адолее і новае стагоддзе.*
*Хвалююся пра адно:*
*каб дуб не стаў бабылём у вёсцы,*
*дзе некалі нарадзіўся і я.*

●

*Мае грахі маленства*
*адпускаў Бацька.*
*Папружкай.*
*Бізуном.*
*Мацюком.*
*Мае грахі юнацтва*
*адпускала Мама.*
*Бязмежнай верай у мяне,*
*сваёй любоўю,*
*цярплівасцю,*
*дараваннем.*
*Мае грахі сталасці*
*адпускалі начальнікі,*
*жонка,*
*сябры,*
*Бог.*
*Цяпер свае грахі*
*адпускаю сабе сам.*
*Гэта цяжкі іспыт.*
*І самы прыемны.*

●

*Жыву з адчуваннем:*
*мы з Уладзімірам Караткевічам —*
*радня.*
*Яго бацька Сямён Цімафеевіч —*
*родам з-пад Рагачова.*
*Мая Мама ў першым замужжы —*
*за Міхаілам Караткевічам,*
*родам з-пад Жлобіна.*
*От бы паразумецца нам,*
*калі мы з Уладзімірам Сямёнавічам*
*жылі на адной вуліцы ў Мінску,*
*калі сустракаліся ў Саюзе пісьменнікаў,*
*калі ён друкаваў свае казкі ў "Вясёлцы"!*
*Спазніўся блізка пазнаёміцца,*
*пасябраваць,*
*падарыць яму свае здогады.*
*Усцешваю сябе,*
*што "Каласы пад сярпом тваім" —*
*мой перачытваемы раман,*
*а "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"*
*не залежваецца на маёй паліцы.*
*Блізка ў сэрца*
*запусціў запавет*
*незабыўнага літаратурнага брата*
*Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча:*
*"Трэба працаваць.*
*Не для сябе,*
*а для маёй роднай краіны,*
*для Беларусі,*
*якой, калі дазволіць лёс,*
*я паслужу,*
*колькі будзе дадзена дзён, —*
*многа або мала,*
*але да канца".*

●

*Вечны агонь на плошчы Перамогі.*
*Ці вечны?*
*Ці хопіць агню ў зямлі,*
*цярпення ў людзей,*
*мудрасці ў правадыроў,*
*каб не згаснуў агонь памяці*
*ў новым веку?*
*Каля плошчы Перамогі —*
*наш Дзіцячы фонд.*
*Мы абараняем правы дзяцей.*
*Няўжо яны не абароняць*
*правы жывых —*
*жыць мірна,*
*правы мёртвых —*
*не парушаць іх вечны сон?*

●

*Нарач — мая любоў.*
*Калі ёсць на свеце цуд,*
*то ён жыве на Нарачы.*
*Калі Бог калі-небудзь адпачывае,*
*то толькі на Нарачы.*
*За возерам, здаецца, спачывае само сонца.*
*Адсюль яно ўзыходзіць над Беларуссю.*
*Які год і я адпачываю тут,*
*у дні заробленага водпуску.*
*Лаўлю акунёў.*
*Збіраю грыбы.*
*Падкармліваю лебедзяў.*
*Мілуюся соснамі.*
*Не надыхаюся гаючым паветрам.*
*І з кожным годам*
*усё глыбей асядаюць у душы*
*загадкі Нарачы:*
*як гэты скарб утварыўся на Беларусі,*
*якія рэліквіі захоўваюцца на дне,*
*як трапляюць сюды вугры,*
*што за акопы-шрамы наўкол возера,*
*калі яе берагі стануць залатымі*
*і ці ёсць у ёй залатая рыбка?*
*Калі б я вылавіў яе,*
*то меў бы адну просьбу:*
*"Зрабі, Царыца,*
*каб Нарач жыла столькі,*
*колькі наканавана жыць*
*беларусам на Зямлі!"*

●

*Наглядзеўся за жыццё крыжоў*
*замшэлых і свежых.*
*А гэтыя два,*
*чорныя і велічныя,*
*у вёсцы Пількаўшчына,*
*на Мядзельшчыне,*
*запомню на ўсе дні жыцця.*
*У падмурку крыжоў*
*кароткі надпіс:*
*"Максім Танк*
*Любоў Скурко*
*1912—1995".*
*Разам убачылі свет,*
*у адзін год пакінулі яго.*
*Я ведаў гэтых сямейнікаў,*
*заўжды зайздросціў іх любові*
*адзін да аднаго,*
*іх чалавечнасці,*
*мудрасці,*
*сціпласці*
*Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко) —*
*народны паэт,*
*акадэмік,*
*Герой Сацыялістычнай Працы,*
*лаўрэат Ленінскай прэміі,*
*ганаровы грамадзянін Мінска*
*Як мы ўсе збяднелі без яго!*
*Ганьба таму, хто гэтага не адчувае.*
*Гора таму, хто гэтага не разумее.*
*Сорам таму, хто гэтага не ведае*
*З мармуровай пліты перад крыжамі*
*я адшукаў засохлыя,*
*прыліплыя,*
*счарнелыя,*
*пракаветныя*
*цурбалкі ад кветак.*
*Паклаў замест іх белыя ружы.*
*А мая ўнучка Маша —*
*букецік палявых красак.*
*Ёй, дашкольніцы,*
*прачытаў словы Паэта,*
*высечаныя на метале:*
*Непакой за цябе, зямля мая,*
*За твой ураджай, спакойны сон,*
*За дрэва кожнае ў гаях,*
*За веснiх песень Пераазвон,*
*Непакой за цябе, зямля мая, —*
*Мой хлеб надзённы*
*Зразумей, Маша, гэты верш.*
*Запомні, унучка,*
*імя вялікага Беларуса —*
*Максіма Танка!*

●

*Абяцаў дзяўчыне Ніне —*
*залатыя горы.*
*Паверыла.*
*Стала жонкай.*
*Што падарыў ёй?*
*Дзіцячыя пялёнкі,*
*трывогі —*
*за дзяцей,*
*за мяне,*
*за ўнукаў.*
*Што набыла са мной?*
*Заснежаную прычоску,*
*маршчынкі пад вачыма,*
*галаўны боль,*
*бяссонніцу*
*Часам хочацца патрымаць яе*
*на сваіх руках,*
*праспяваць ёй калыханку.*
*А яна не верыць і ў гэта...*

●

*Як зрабіць жанчыну прыгожай?*
*Пакахаць яе.*
*Ноччу ўсе дзевы — прыгажуні.*
*Аб іх красе мяркуй пры сонцы,*
*у полі,*
*на кухні,*
*каля дзіцяці.*
*Што зрабіў дваццаты век*
*для жанчын?*
*Ураўнаваў іх з мужчынамі.*
*Разам яны:*
*кладуць цэглу на будоўлях,*
*мосцяць асфальт па вуліцах,*
*кіруюць машынамі,*
*лятаюць у космас,*
*засядаюць у Думах,*
*Разам п'юць,*
*разам ідуць за краты,*
*разам кідаюць дзяцей.*
*Чаго хацелі,*
*аб тое і спатыкнуліся.*
*А Бог задумваў іншае.*
*Адаму загадаў*
*потам здабываць хлеб.*
*Еве вызначыў*
*у муках нараджаць дзяцей,*
*быць Мамай,*
*гаспадыняй,*
*жонкай.*
*Навошта парушылі Божы наказ?*
*Можа, з-за гэтага —*
*бедствы,*
*парокі,*
*выміранне?..*

●

*Старажытны мудрэц павучае:*
*"Што заўсёды ў руху, тое вечнае".*
*Дык што ж вечнае?*
*Зямля,*
*якая рухаецца вакол сонца.*
*Жыццё,*
*якое ажыўляе Зямлю.*
*Прырода,*
*якая дае жыццё ўсяму жывому.*
*Памяць,*
*якая жыве ў слове, помніках, людзях.*
*Душа,*
*якая паўтараецца ў пакаленнях.*
*А я, Чалавек, чаму не вечны?*
*Бо я касманаўт на Зямлі,*
*і жыццё маё рызыкоўнае.*
*Бо я часцінка прыроды,*
*а яна абнаўляецца.*
*Бо мой гадзіннік жыцця*
*ва ўладзе самога Бога.*
*Пасля Чалавека застаюцца —*
*памяць і душа.*
*яны такія,*
*якім быў Чалавек.*
*Дык папросім выбачэння,*
*калі няма чаго пакінуць нашчадкам.*
*Пакаемся ў сваіх заганах —*
*ляноце,*
*бяздушшы,*
*бяспамяцтве.*
*Памолімся,*
*каб за намі ішлі больш разумныя.*

●

*Багацце сасны — зялёныя іголкі.*
*Багацце ракі — чыстая вада.*
*Багацце ружы — духмяныя кветкі.*
*Багацце салаўя — залівістыя песні.*
*Багацце зямлі — Дзеці.*
*Маё багацце — сама зямля,*
*па якой беражліва хаджу,*
*паветрам якой дыхаю,*
*яе красой наталяюся,*
*натхняюся,*
*жыву.*
*І гэта адзіная крыніца,*
*з якой п'ю,*
*ды не магу прагнаць смагу.*
*Чаго жадаю сваім дзецям,*
*дзецям маіх дзяцей.*

●

*Уладзіслаў Галубок —*
*асоба нашай эпохі.*
*Прынята было гаварыць:*
*"Рэвалюцыя семнаццатага года*
*разбудзіла таленты".*
*Разбудзіла яна і Уладзіслава Галубка.*
*Былы грузчык склада,*
*прыказчык магазіна,*
*слесар дэпо*
*стаў слынным чалавекам Беларусі.*
*Уладзіслаў Осіпавіч Галубок —*
*драматург, празаік, паэт,*
*артыст, рэжысёр, мастак.*
*Ён стварыў вандроўны тэатр,*
*адшукаў артыстаў-самародкаў,*
*аб'ехаў з імі ўсе раёны рэспублікі.*
*Ён напісаў для свайго тэатра п'есы:*
*"Апошняе спатканне",*
*"Пісаравы імяніны",*
*"Бязвінная кроў",*
*"Ганка",*
*"Суд"*
*П'есы Галубка цікавяць і сённяшніх рэжысёраў.*
*Ён стаў першым народным артыстам*
*савецкай сацыялістычнай Беларусі.*
*І адной з першых яе ахвяр.*
*Рэпрэсіраваны ў 1937 годзе,*
*як вораг народа.*
*Праз дваццаць гадоў —*
*рэабілітаваны.*
*Улады дзейнічалі па прынцыпе:*
*я цябе парадзіў,*
*я цябе і знішчу.*
*А гэта ж былі ўлады,*
*якія ладзілі самае справядлівае*
*грамадства —*
*камуністычнае.*
*Божа каханы!*
*Ахавай нас ад уладароў-сяброў.*
*Ад ворагаў мы самі ўратуемся.*

●

*Нават анёлы бываюць прадажнымі,*
*іх пацалункі — змяіныя.*
*І хаця анёл Юда пасля злачынства*
*засіліў сябе на асіне,*
*ды людзі нічому ад яго не навучыліся:*
*трываюць між сабой нашчадкаў Юды,*
*а тыя выслужваюць зямным бажкам,*
*ліжуць ім пяткі,*
*закладваюць сумленных,*
*а напаследак прадаюць*
*і самога бажка-апекуна.*
*Юды ліслівыя,*
*патаемныя,*
*зайздросныя,*
*злосныя.*
*Лезуць у сяброўства.*
*Мёдам мажуць —*
*джаламі джыгаюць.*
*Пад'юджваюць,*
*наюджваюць*
*Як трывае іх зямля?*
*Чаму іх не карае Бог?*
*А мы чаму не садзім для іх*
*асіннік?*
*Можа, таму, што самі грэшныя?..*

●

*Душа чалавека — вечная.*
*Дзе жыве цяпер*
*душа майго дзеда Янкі?*
*Ён наладзіў хрэсьбіны*
*дванаццаці сваім дзецям.*
*І ціха памёр.*
*Напэўна, душа дзеда-аднадворца*
*галосіць па няскошанай сенажаці*
*каля састарэлых Шоўкавіч,*
*стогне па зарослым прыгуменні,*
*начуе на неабробленых Капішчах.*
*Відаць, душа набожнай бабулі Праксэды*
*жыве ў жаўруковых спевах,*
*як яе калыханкі*
*дванаццаці дзеткам.*
*Можа, душа майго бацькі Сцяпана —*
*у зазубранай касе,*
*якой штолета выбрываў мурог вакол вёскі,*
*якая цяпер у маім хатнім музеі.*
*А Маміна душа —*
*у палатняным ручніку,*
*які яна выткала сваімі рукамі,*
*а я выціраю ім вільготныя вочы.*
*Дзе,*
*у чым,*
*у кім*
*прадоўжыць свой век мая душа?*



**ЧАСАПІС**

## *Як у кроплі расы*

**Ці заўважалі калі-небудзь, як любяць малыя дзеці выхваляцца адно перад адным, што маюць штосьці лепшае, чым у іншых? І як бы ні імкнуліся бацькі прысараміць выхвалякаў, яны ўсё роўна будуць весці сваю спрэчку. Будуць даказваць са слязамі на вачах, што іх хата самая найлепшая. І думаецца, што пачуццё гонару за роднае, кроўнае — не найгоршы недахоп. Наадварот. Толькі той, хто ўмее ганарыцца (не выхваляцца беспадстаўна, а менавіта ганарыцца) сваім, умее і бараніць яго.**

**Калісьці ў юнацтве, адпаведна ўзросту, я са скептызмам ставілася да ўсялякага роду мемуараў. Толькі праз гады выспела неабходнасць даведвацца пра падзеі мінулых дзён не з афіцыйных крыніц, а з успамінаў людзей-сведкаў і ўдзельнікаў прамінулых падзей. Няхай сабе і праз іх суб'ектыўнае ўспрыманне — тым цікавейшымі і разнастайнейшымі паўстаюць малюнкі былога.**

**Як расінка можа адлюстраваць у сабе навакольны свет, гэтак і лёс чалавечы адлюстроўвае ў сабе лёс цэлага пакалення, краіны, цэлую эпоху.**

**Адыходзяць у нябыт людзі, сведкі, носьбіты найкаштоўнейшага скарбу — народнай памяці. Але застаюцца ўспаміны, якія дапамагаюць новым пакаленням іншымі вачамі глядзець на падзеі мінуўшчыны, глыбей адчуваць матывы тых або іншых учынкаў, паводзінаў людзей.**

**Пра ўсё гэта думаеш, калі гартаеш апошні нумар гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-мастацкага часопіса "Куфэрак Віленшчыны". І ў чарговы раз чуеш галасы добра ці мала вядомых людзей, якія на кожнай старонцы шчыра і шчодра дзеляцца сваімі ўспамінамі. З новай сілай абуджаецца ў сэрцы пачуццё гонару за выдатных людзей, чыімі намаганнямі і светлымі памкненнямі стваралася, абнаўлялася і захоўвалася гістарычная спадчына Віленшчыны.**

**Навукоўцы і вынаходнікі тлумяць галаву, прыдумваючы машыну часу. А машына такая даўно існуе. Гэта мемуарная кніга — найважнейшая вынаходніцтва дакументалістыкі, здольнае мовіць галасамі продкаў, вяртаць нас у мінулыя стагоддзі. "Куфэрак Віленшчыны" — менавіта такое выданне, пра якое марыў у свой час вядомы краязнаўца Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі, чыё імя належыць не толькі Маладзечаншчыне, але ўсёй Беларусі. Натуральна, што з нумара ў нумар сустракаецца Генадзь Аляксандравіч на яго старонках і са сваімі сталымі прыхільнікамі, і з новымі, не вядомымі яму чытачамі і паслядоўнікамі. Сустракаецца праз мемуары, так шчыра, як не меў магчымасці пры жыцці.**

**Шмат якія матэрыялы з ягонай спадчыны не маглі быць надрукаваны ў нашай краіне ў ранейшыя часы. Але трапна заўважана — рукапісы не гараць. Многія з іх "ажылі" на старонках "Куфэрка". Шматлікія аўтары знайшлі прытулак для сваіх публікацый у гэтым часопісе. Гэта і Таццяна Кляшчонак, і Аляксандр Камінскі, і Канстанцін Харашэвіч, а таксама многія іншыя руплівыя і старанныя ахоўнікі беларускай старасветчыны.**

**Цудоўна, што ёсць на зямлі нашай такія нястомныя руплівцы, як маладзечанец Міхась Казлоўскі. Не зважаючы ні на якія перашкоды, шмат гадоў ён ідзе адным абраным шляхам. Гэта яго ўпартасць, што, здаецца, мяжуе з фанатызмам, дае свой плён — выходзіць нумар за нумарам "Куфэрак Віленшчыны", у якім ажывае мінуўшчына, жыве Беларусь.**

**Хоць часопіс і рэгіянальны, ахоплівае невялікія па працягласці тэрыторыю і час, але ў асобах аўтараў і герояў публікацый сканцэнтраваны вялікі інтэлектуальны патэнцыял.**

**Хочацца верыць, што гэты нумар не стане апошнім. Бо хоць у рэдактара "Куфэрка" Міхася Казлоўскага нямала дапісаў, але сродкі на выданне часопіса шукаць усё цяжэй. Няма сярод сённяшніх заможных прадпрымальнікаў мецэнатаў, бо няма, відаць, сярод іх людзей нацыянальна свядомых.**

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**




# Асколкі памяці

*Аляксей КАЎКО*

### АЛАДКІ

Калі ў нас збіраліся бабы талакой церці лён, то заўсёды маці рыхтавала па магчымасці добры абед. Абавязкова варыўся боршч, пякліся аладкі — памачаныя ў смятану і падсалоджаныя цукрам яны былі для нас, малых, асаблівай смакатой. Толькі ж калі да іх даступішся?..

— Пачакайце, дзеткі, няхай госці паабедаюць, тады і вы сядзеце за стол, — угаворвала нас маці.

Чаканне было для малых сапраўднай мукай. Госці елі не спяшаючыся, узбуджаныя чаркай, вялі гамонку, жартавалі. Седзячы на печы, мы з-за коміна цікавалі, калі ж мы адступяцца ад тых аладак. І толькі пасля таго, як цётка Лісавета, уцёршы далонню губы, зацягвала песню "Пасею гурочкі", мы дружна пакідалі чарэнь і стрымгалоў кідаліся да стала. Песня была для нас доўгачаканым сігналам, які апавяшчаў, што госці наеліся.

На той раз ці то маці добра не разлічыла — мала напякла тых аладак, ці апетыт у гасцей не на жарт разгуляўся, але здарылася так, што ніводнай аладкі ў місе не засталося — апошнюю падчапіла вузлаватымі пальцамі цётка Лісавета. Тады малодшы з нас не вытрываў, зарумзаў:

— Усё па-а-е-лі! Каб вас разарвала!..

Бедная наша маці зямнілася з твару, кінулася да малога, зашаптала нешта яму на вуха. Госці зрабілі выгляд, што не заўважылі гэтага. Мы дружна ўзяліся сёрбаць боршч з агульнай місы.

### ДЗЯДЗЬКА НЕ ВЫТРЫМАЎ

Па суседстве з намі жыла цётка Хрысціна са сваім Паўлам. Яны былі бяздзетнымі. Цётка вельмі перажывала і сваю жаночую дабрыню аддавала нам. У нашай сям'і было пяцёра дзяцей. І кожны з удзячнасцю помніць і гасцінцы цёткі Хрысціны, і яе ласкавае слова.

Дзядзька ж Паўла быў чалавек гарачы, але не пазбаўлены пачуцця гумару. Ён нярэдка пацяшаўся і з нас. Прыгадваю позні нядзельны ранак. Бацька наш — заядлы рыбак — толькі што вярнуўся з ракі, на жаль, з пустым вядром (зусім не было клёву!), нават кату нічога не злавіў. І вось заходзіць да нас у хату дзядзька Паўла. Ён, вядома, ужо дазнаўся пра бацькаву няўдалую рыбалку, але робіць выгляд, што нічога не ведае. Ён пераскоквае босымі нагамі праз колькі маснічын, адскоквае то ў адзін, то ў другі бок, быццам баіцца, каб ненарокам не наступіць на рыбіны косці. І толькі прыкмеціўшы злосны позірк таты, які, вядома ж, не любіў гэтых здзекаў са свайго рыбацкага гонару, з шырокай усмешкай на твары садзіцца на лаву.

Трэба сказаць, што і сам дзядзька Паўла гады ў рады хадзіў у рыбу. У яго былі самыя доўгія вуды. Але выседжваць на рэчцы ў яго не хапала цярпення і часцей за ўсё ён вяртаўся дамоў з пустымі рукамі.

У тыя гады вяскоўцы за сваю працу ў калгасе амаль нічога не атрымлівалі — працавалі за соткі. Але раз у год за дзень-два да кастрычніцкага свята ў калгасе рэзалі быка і выдавалі па кавалку мяса кожнай сям'і. Вядома ж, дамагчыся справядлівасці ў гэтай дзяльбе было цяжка: некаму даставаўся лепшы кавалак, некаму — горшы. Памятаю, сядзім на лавачцы каля суседскай хаты, чакаем, калі будуць несці мяса. І вось ідуць мужчыны з той дзяльбы з клуначкамі ў руках. Тата перадаў клуначак маме, яна разгарнула яго, пагледзела: "Вось і добра, будзе з чым разы два капусту зварыць..."

Прыняла з рук дзядзькі Паўла клуначак і цётка Хрысціна, разгарнула і незадаволена заўважыла: "Табе, як заўсёды, костку ўпёрлі!.." Дзядзька Паўла аж затросся ад злосці, выхапіў з цётчыных рук той кавалак мяса і шпурнуў цераз плот у чужы двор. Нечаканаму падарунку вельмі абрадаваўся, выскачыўшы з будкі, Бобік. А цётка Хрысціна залілася слязьмі...

За гэты ўчынак дзядзьку выклікалі ў міліцыю, абвінавачвалі ў варожасці да калгаснага ладу. Каб не заступіўся старшыня калгаса, мог бы дзядзька Паўла па тым часе і на Салаўкі загрымець...

### ГУЗІК

У пасляваенны час усіх, хто займаў хоць нейкую пасаду ў раёне, залічвалі ў актывісты. На іх абапіраўся райком партыі пры правядзенні масавых кампаній. Надыходзіць, напрыклад, пара збожжанарыхтовак ці, скажам, выбары ў Саветы, — тут жа праводзіцца сход актыву. Усіх пасылаюць "на сяло" з наказам забяспечыць паспяховае правядзенне кампаніі. Пры гэтым адных хваляць, ставяць у прыклад, а другіх — крытыкуюць за няўменне "працаваць з народам".

Халімона Халяву — былога партызанскага сувязнога, а пасля вайны адказнага работніка пошты — часцей за ўсё ставілі ў прыклад.

— Вучыцеся ў яго прынцыповасці, — патрабаваў ад нас сакратар райкома. — Гэты чалавек цвёрда трымаецца лініі партыі.

Дык вось, аднойчы мне давялося быць сведкам Халімонавай прынцыповасці. Нас паслалі ў вёску Заляддзе арганізаваць падпіску на чарговую пазыку. Нялёгкай была тая вясна, не ва ўсіх нават хлеба ставала, каб дацягнуць да новага ўраджаю — дзе ўжо ўзяць грошай на тую пазыку. Але задача цвёрдая: ахапіць падпіскай кожную сям'ю! Пачалі з крайняй хаты. А ў ёй — адно багацце — дзеці, як маку: насцярожана зыркаюць з палацяў на няпрошаных гасцей. Гаспадар — худы, з няголеным тварам чалавек — ладзіць цэбрык, нацягвае арэхавы абруч, гаспадыня корпаецца ля печы.

Халява дастае з кішэні паперы, заглядвае ў іх і загадным тонам гаворыць:

— Трэба, гаспадар, на пазыку падпісацца!

— Дык я, таварышы, ахвотна падпісаўся б, але ж у хаце — ні капейкі... Запалі — не трэсне...

— Та-а-ак! Значыць, не хочаш мацаваць абараназдольнасць роднай дзяржавы! Ну што ж? Так і запішам! — гаворыць Халява, строга глядзячы на гаспадара: — А што гэта ў цябе за гузік на камізэльцы? Ад паліцэйскага мундзіра?! Усё ясна. Значыць, з паліцаямі быў звязаны. Таму і не хочаш падтрымліваць савецкую ўладу сваімі зберажэннямі!

— Што вы кажаце? Пабойцеся Бога! — не вытрымала гаспадыня. — Ніколі ён з паліцэйскімі не звязваўся. А гузік гэты дзеці на вуліцы знайшлі, а я, дурная, прышыла, бо другога не было...

— Мяне не правядзеш! Знаю я такіх! Кажу табе, Караньчук, цвёрда: калі да заўтрага не падпішашся на пазыку — будзеш даваць тлумачэнні ў органах! Там з табой размова будзе кароткай!

— Дарэмна вы так, Халімон Сідаравіч, — не стрымаўся я, калі мы выйшлі на вуліцу. — Самі бачыце, што няма ў іх ніякіх зберажэнняў... Ды яшчэ да гузіка прычапіліся...

— Пашкадаваў? — скоса паглядзеў на мяне Халява. — А пра інтарэсы дзяржавы ты падумаў? Тут строгасць патрэбна! Ад мяне ён не адкруціцца, апошняга кабанчыка прадасць, а падпіску аформіць...

### УПАЎНАВАЖАНЫЯ

Старшыня калгаса "Уперад" Сымон Плытнік цярпець не мог упаўнаважаных, якіх прысылалі з райцэнтра.

— Якая ад іх карысць? Блытаюцца толькі пад нагамі, — абураўся ён, — збіраюць розныя звесткі, каб потым у раёне адчытацца, што і яны нешта рабілі.

Аднаго разу ў калгас прыслалі аж двух упаўнаважаных — маладых супрацоўнікаў раённай газеты Вераб'я і Шусціка — для аказання дапамогі ў арганізацыі нарыхтовак кармоў для грамадскага статка.

— А што гэта вы, хлопцы, без кос? Хоць бы адну на дваіх узялі, — пажартаваў Плытнік. А сам думае, як гэта ад іх адчапіцца. — Ну нічога, касу знойдзем і тут, але найперш давайце паабедаем...

За тым абедам старшыня не паскупіўся на гарэлку, і ўпаўнаважаныя добра-такі накляваліся.

— А цяпер — на сенавал, адпачняце, тады можна і за справу брацца, — прапанаваў старшыня і адвёў упаўнаважаных у хлеў, дзе ў закутку ляжала добрая капа сена. Захмялелыя хлопцы паваліліся на духмяны падсціл і задалі храпака.

Прачнуліся яны прыцемкам. Выйшлі на вуліцу.

— Вось гэта далі мы з табой, — гаворыць Верабей, — амаль паўдня ды яшчэ і цэлую ноч праспалі...

Шусціка турбавала іншая думка:

— Не шкодзіла б да старшыні зайсці, галаву палячыць...

У гэты час на вуліцы паказаўся легкавік. Хлопцы пазналі машыну сакратара райкома, выцягнуліся ў струнку, дэманструючы сваю актыўнасць у рабоце: вось, маўляў, яшчэ толькі світаць пачало, а мы ўжо на нагах.

Сакратар выглянуў з машыны.

— Добрай раніцы, Міхаіл Кузьміч! — дружна прывіталі яго ўпаўнаважаныя.

— Ш-ш-то-о?! — вырачыў вочы сакратар. — Ах вы, п'яныя морды! Так налізаліся, што вечар ад раніцы распазнаць не можаце! Вон з раёна!

Упаўнаважаныя скончылі сваю дзейнасць, не пачаўшы.

### НА ПЕРАПРАВЕ

Дняпроўска-Бугскі канал. Нерухома стаіць прычалены да берага паром. Паблізу, амаль над самай вадой, невялічкая хата-старажоўка. На лавачцы ля хаткі сядзіць стары ў зашмальцаваным спяцоўцы, паклаўшы на калені натруджаныя жылістыя рукі. Гэта паромшчык дзед Ермалай. Пакуль на пераправе нікога няма, ён адпачывае, наглядаючы за ўнукам — белагаловым хлапчуком, які вудзіць рыбу.

— Што, Ванька, няма клёву? — пытаецца дзед.

— Будзе, — не траціць надзеі ўнук. — Хай толькі гарачыня спадзе...

А гарачыня і сапраўды даймае ўсё жывое. Але гэта толькі радуе старога. Дзён колькі таму ён абкасіў кусты ля берага, і цяпер трава хутка падсыхае — будзе ладная капа сена.

Неспадзявана з-за лесу, з боку Завышанскага возера, выплыла хмара. Дзед Ермалай з трывогай пагледзеў на неба, падняўся з лавачкі, гукнуў унука:

— Давай, Ванька, складзём сена, бо хутка дождж ліне!..

Калі заставалася толькі завяршыць капу, на супрацьлеглым беразе канала паказалася чорная "Волга". "Пачакайце, людцы, хвіліначку, — гаворыць дзед, нібы спадзяецца, што яго пачуюць тыя, што ў машыне, — сена ж прападзе..."

Але тыя чакаць не хочуць — "Волга" не перастае сігналіць. Паклаўшы ў капу апошняе бярэмя сена, стары трушком падаўся да парома. І толькі адчаліў ад берага, як зашлокалі па вадзе буйныя кроплі дажджу, а потым такі лівень хлынуў, што на старым рубца сухога не засталося...

"Волга" ўз'ехала на паром. Прыадчыніліся дзверцы, і з машыны паказалася круглая, як гарбуз, галава. Ад злосці, а можа, і ад багатай выпіўкі, твар бы крывёў наліты. Голас начальніцкі, грозны:

— Ты што, стары смарчок, спіш так?!

— Сена ратаваў, таварыш начальнік, каб не намокла, — паспрабаваў апраўдацца дзед.

— Пры чым тут сена? Ты на службе знаходзішся, — гаркнуў начальнік і павярнуў галаву-гарбуз да маладзейшага, што адзін раскашаваў на заднім сядзенні:

— Сёння ж пазвані Мухіну, каб выгнаў гэтага лайдака з работы!..

...Машына ўжо схавалася за паваротам, а дзед Ермалай усё стаяў пад дажджом. Цяклі раўчукі па маршчыністым твары... І добра, што не сунімаўся дождж — унук не ўбачыць, што яго дзед не стрымаў слёз ад крыўды...

### ШЧЫМІЦЬ СЭРЦА

У асеннім небе журботна курлычуць жураўлі. Дзед Сымон пакідае зграбаць бульбоўнік, скіроўвае погляд стомленых вачэй увысь:

— У вырай паляцелі...

— Відаць, здалёк крыляюць, — гавару я.

— Здалёк... А калісьці ж яны і ў нашых мясцінах гняздзіліся. Мне самому даводзілася бачыць іх на Белым балоце... А цяпер няма ні балота, ні гэтых прыгожых птушак, — з непрытоеным сумам гаворыць стары. — Мае ўнукі ўжо і калодзежнага жураўля не бачылі...

— Затое на былым балоце, напэўна ж, хлеб расце, а ўнукам не трэба па ваду да калодзежа бегаць — сама ў хату па трубах цячэ, — стараюся я развеяць дзедаў сум.ы

— Яно так, але ж вось шчыміць сэрца...

### ПА СТАНЕ ЗДАРОЎЯ

Мой знаёмы Сцяпан Кірылавіч быў праваслаўным — у царкве яго хрысцілі і вянчалі. А нядаўна, бачу, выходзіць з касцёла.

— Католікам стаў, пане Сцяпане? — пытаюся.

— Ага. У праваслаўнай царкве, браце, на малебне трэба стаяць, а ў касцёле слухаюць пропаведзь, седзячы на лавах. Мне з хворымі нагамі гэта больш падыходзіць.

*г. Іванава*

# Максім Лужанін



Беларуская літаратура, нацыянальная культура нашай краіны панеслі цяжкую, незаменную страту — 13 кастрычніка 2001 года, на 92-м годзе жыцця, памёр старэйшына беларускай літаратуры Максім Лужанін.

Максім Лужанін (Аляксандр Амвросьевіч Каратай) нарадзіўся 02.11.1909 г. у вёсцы Прусы Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Пачынаў вучобу ў мясцовай школе. Скончыў Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум (1928), вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1928—1930). Быў адным з першых прадстаўнікоў новай хвалі беларускага культурнага адраджэння 20-х гадоў мінулага стагоддзя, стаяў ля вытокаў тагачаснага літаратурнага руху, з'яўляўся членам пісьменніцкіх арганізацый "Маладняк" і "Узвышша". Працаваў у рэдакцыі часопіса "Узвышша" (1930—1931), на беларускім радыё (1931—1933). У 1933 г. быў рэпрэсіраваны. З 1935 па 1941 г. працаваў выдавецкім рэдактарам у Маскве. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны быў прызваны ў Чырвоную Армію. Скончыў Падольскае пяхотнае вучылішча, удзельнічаў у баях пад Сталінградам, быў цяжка паранены. Пасля дэмабілізацыі (1944) працаваў у рэдакцыях газеты "Звязда" і часопіса "Вожык", на пасадзе рэферэнта АН БССР. З 1959 г. — член сцэнарнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм", з 1967 па 1971 г. — галоўны рэдактар кінастудыі. У 1968 годзе ўдзельнічаў у рабоце XXIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Двойчы выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Доўгі творчы шлях Максіма Лужаніна — паэта, празаіка, кінадраматурга, дакументаліста, літаратуразнаўцы і мовазнаўцы, перакладчыка і публіцыста — пачаўся ў 1925 г. з верша "Звоніць восень", надрукаванага ў часопісе "Чырвоны сцяг". Першы зборнік вершаў "Крокі", да выдання якога мелі дачыненне Янка Купала і Цішка Гартны, выйшаў у 1928 г. На багатым і надзвычай разнастайным творчым рахунку прызнанага майстра слова — кнігі паэзіі і прозы "Новая ростань", "Шырокае поле вайны", "Святло Радзімы", "Паразмаўляй са мной, зямля", "Наўздагон за падвойнікам" і многія іншыя.

Неаднаразова выдаваліся зборы твораў пісьменніка, выходзілі ў свет яго кнігі для дзяцей, а таксама шматлікія пераклады з рускай і іншых славянскіх літаратур. Адметнае месца ў творчасці Максіма Лужаніна займае кніга "Колас расказвае пра сябе", стварэнне якой стала вынікам яго шматгадовага творчага сяброўства з народным песняром і якая была адзначана Літаратурнай прэміяй БССР (1965).

У творах пісьменніка гучала водгулле чалавечых спраў і клопатаў, адбіваліся сацыяльныя і маральныя турботы часу.

У адносінах да сваёй галоўнай справы ён зыходзіў з народнага погляду на рэчы, з народных духоўных і маральных крытэрыяў сапраўднага мастацтва.

Да апошніх дзён жыцця Максім Лужанін нястомна працаваў на ніве роднай літаратуры і культуры. Яго вершы, паэмы, аповесці, апавяданні, артыкулы, эсэ, мемуары, мастацкія пераклады рэгулярна з'яўляліся на старонках перыядычных выданняў. Яго паэтычныя творы апошніх гадоў былі адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова.

Сваю ўласную творчую працу Максім Лужанін нязменна спалучаў з клопатам пра стан і развіццё беларускай літаратуры, уважліва сачыў за творчым ростам маладзейшых калег па пяры, шчыра радаваўся прыходу ў літаратуру новых талентаў.

Творчая і грамадская дзейнасць пісьменніка адзначана ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, "Знак Пашаны", Дружбы народаў, Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Ён удастойваўся звання "Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР" (1969), "Заслужаны дзеяч культуры Польскай Народнай Рэспублікі" (1975).

Светлае імя Максіма Лужаніна назаўсёды застанецца ў памяці беларускага народа.

**Г. Навіцкі, У. Латыпаў, С. Князеў, У. Дражын, Л. Гуляка, М. Падгайны, В. Іпатава, Н. Гальпяровіч, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, І. Брыль, І. Навуменка, І. Шамякін, Г. Буралкін, У. Гілеп, М. Дрынеўскі, А. Дудараў, Л. Екель, І. Лучанок, Ю. Марухін.**

# А сімвалы не паміраюць...

Памёр Аляксандр Амвросьевіч у сне. Заснуўшы на гэты раз раней, чым звычайна, чым было ўласціва ягонаму здаўна заведзенаму штодзённаму распарадку. Заснуўшы на гэты раз занадта моцна: не зрэагаваў ні на прывітанне: "Добры вечар, Аляксандр Амвросьевіч!", ні на пытанне: "Што баліць, дзядзька Максім? Чым памагчы?". Памёр смерцю, якую ў народзе называюць лёгкай. Гэта калі паміраюць хутка, без доўгіх пакут, без енкаў і стогнаў, без кідання, калі неяк проста пераходзяць са сну звычайнага ў сон вечны.

Яго перадсмяротны вечаровы сон нагадаў мне асенні спачын селяніна — ратая, сейбіта, земляроба, — які рупліва, належным чынам, не "ведаючы ні стомы, ні кволасці", парабіў усе свае вясковыя ды летнія справы і вось дазволіў сабе адпачынак. Узнікала і яшчэ адна асацыяцыя. Ён паміраў як чалавек, як грамадзянін, як творца, які зрабіў усё, каб, кажучы яго ж словамі, спрадвякаваць, давесці да ладу нашу беларускую хату, каб наш народ, "чыя душа — на ране рана", стаў сапраўдным народам. Ён паміраў з усведамленнем:

*Нідзе не дзенуся з Беларусі,*
*Кім пажадае, тым і вярнуся, —*
*Жыло, жыве і жыць застанецца*
*Тут маё сэрца!*

Сімвалічна, што ён пайшоў з жыцця перад традыцыйнымі народнымі Пакровамі.

І тут мне згадваюцца, выстройваюцца ў скразны, доўгі шэраг шмат якія маючыя сімвалічны сэнс факты і адметы жыццёвай і творчай біяграфіі Максіма Лужаніна (Аляксандра Амвросьевіча Каратая).

Сімвалічна, што адным з яго школьных настаўнікаў быў Юрка Лістапад, а потым у знакамітым Мінскім педтэхнікуме яго навучалі Якуб Колас і Язэп Лёсік.

Сімвалічна, што ў той жа вучэльні, якая, дарэчы, насіла імя Усевалада Ігнатоўскага, студэнт Каратай спяваў у харавым гуртку, якім кіраваў дырыжор і кампазітар Уладзімір Тэраўскі, і спяваў натхнёна, на поўны малады голас не штонебудзь, а "ваяцкі марш" таго ж Тэраўскага (яго музыка) "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Праўда, у крыху папраўленым па просьбе кампазітара Міхасём Чаротам варыянце.

Сімвалічна, што праз шмат гадоў, на пачатку 90-ых, Максім Лужанін прыме удзел у абмеркаванні пытання, якім быць беларускаму гімну, згадае твор М. Краўцова і У. Тэраўскага, і нават прапануе свой варыянт тэксту:

*Беларусь! Краса-краіна!*
*Поступ твой чуцён здалёк.*
*Надышла сыноў часіна*
*Здзейсніць бацькаўскі зарок*

Сімвалічна, што да выдання яго першай кнігі "Крокі" мелі дачыненне Янка Купала і Цішка Гартны, а яго непаўторная, унікальная ў сваім родзе кніга "Колас расказвае пра сябе" з'явіцца як плён шматгадовага сяброўскага супрацоўніцтва з народным песняром.

Сімвалічна, што ён быў далучаны на жыццёвых скрыжаваннях і да славутага роду Гарэцкіх: сябраваў з Гаўрылам Іванавічам і яго сынам Радзімам Гаўрылавічам.

Сімвалічна, што ягоны добра знаёмы многім з нас рабочы стол, за якім былі напісаны шматлікія творы паэзіі і прозы, быў зроблены рукамі ўмельца-самаробка.

Сімвалічна, што самымі апошнімі з прачытаных і высока ацэненых ім кніг былі "Сімволіка беларускай народнай культуры" (я падараваў яе дзядзьку Максіму летась у дзень яго нараджэння) і зборнік выбраных вершаў Ларысы Геніюш, складзены і пракаментаваны Міколам Раманоўскім, унукам — яшчэ адзін сімвалічны знак! — Кузьмы Чорнага.

Сімвалічна і тое, што адна з нямногіх родзічаў пісьменніка Таццяна Мікалаеўна Каратай (у замустве Юрчанка) прысвяціла жыццё выкладанню роднай мовы і літаратуры, а яго самымі блізкімі людзьмі напрыканцы жыцця сталі дачка, зяць і ўнучка яго літаратурнага равесніка і сябра Тодара Кляшторнага, забітага, як мы цяпер ведаем, у Курапатах 30 кастрычніка 1937 года.

Сімвалічна, безумоўна, і тое, што прах Аляксандра Амвросьевіча Лужаніна будзе спачываць на могілках вёскі (вёска Паперня, што знаходзіцца ў 14 кіламетрах на поўнач ад Мінска. Тут пахавана жонка Максіма Лужаніна, паэтэса Яўгенія Пфляўмбаум), якую неадноймы разбуралі і спальвалі, але якая ўсё ж выжывала ды ўваскрасала, працягвала жыць, гэтак жа, як адвечна плыла і працягвае плысці рака Вяча — прыток той самай Свіслачы, на якую выходзілі вокны мінскай кватэры пісьменніка...

Суцэльныя, як бачым, сімвалы.

Так, постаць Максіма Лужаніна — сімвалічная, знакавая. І гэта зарука яго неўміручасці. Паміраюць людзі, але не паміраюць людзі, справы і імёны якія робяцца сімваламі.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

# У вянок Максіму ЛУЖАНІНУ

## *Сінічкі*

Памяці Максіма ЛУЖАНІНА

*Дзве сінічкі ў фортку біліся,*
*Не выломвалі ажно.*
*Можа, птушкі памыліліся,*
*Перабблыталі акно?*

*Але не. Вястунак спраўдзіўся*
*На жалобу і бяду.*
*Рахавацца больш і радзіцца*
*К вам я болей не прыйду.*

*Не паедзем мы на Случчыну,*
*Ні ў Юрацішкі, ні ў Беліцу.*
*Родны дол і той засмучаны,*
*І яму наўрад ці верыцца,*

*Што склаў крылы сівы голубе,*
*Краю мілага мудрэц.*
*Аддаваў дабру ўсяго сябе*
*За цярновы свой вянец.*

*Хваля ростані аджалена.*
*Розум, розуму глядзі.*
*Зорка ясная Лужаніна,*
*З небасхілу не ўпадзі.*

*А сінічкі — птушкі дробныя.*
*Прыручайце абаіх.*
*Вы былі ад роду добрыя,*
*Не пускайце ў форткі іх.*

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

## *Балада жыцця*

Памяці Максіма ЛУЖАНІНА

*Жыццё прайшло, як кніга прачытана*
*Жыццё прайшло, нібы святло ўзарвана,*
*І Храм разбураны на ўзгорку тым,*
*Дзе ўсё, як сон, дзе ўсё, як райскі дым*
*Жыццё прайшло, але было жыццё,*
*Нібы на дрэве высахлым лісцё,*
*Было і больш ніколі ўжо не быць*
*Пад гэтым небам, дзе аблокам плыць,*
*Табе і мне, і гэтаму святлу,*
*Падобнаму на вострую стралу,*
*Што, пранізаўшы нашу цемрату,*
*Ляціць далей і плача на ляту*
*Жыццё прайшло, нібыта дзень прайшоў,*
*І паўзлятала варанне з крыжоў,*
*І свечкі захлынуліся святлом,*
*Нібы згарэў стары гасцінны дом*

**Віктар ШНІП**

## *"Галасы пад выраем"*

Памяці Максіма Лужаніна

*На жыццё — свая пагода*
*Восень — годаў курадым.*
*Зноў жалобная нагода,*
*каб сабраца нам, жывым,*
*ля труны, дзе ў супачыне*
*ад існення, ад пяра*
*ДАРАСЛОЎ у боскім чыне*
*Восень. Выраю пара.*
*На адлёт Каб успаміны*
*у нябыт нас не вялі.*
*Дамавіны не ў таміны*
*столькі лёсаў увілі*
*Што ж, пакуль ідуць хаўтуры,*
*а сляза з радкоў імжыць,*
*сірацець літаратуры*
*і к а л і ё й н е с л у ж ы ц ь, —*
*заўтра СЛОВА стане мурам:*
*ні пісаць, ні зваць, ні жыць.*

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## *13 кастрычніка*

*Пайшоў ад нас Максім Лужанін...*
*Пайшоў нягучна, як і жыў.*
*І вестка гэта вострым жалем*
*Ляціць над вечнасцю сцяжын.*

*Ён шанаваў бары, дубровы,*
*Пачціва кланяўся зямлі,*
*І, бы вясковец, да Пакроваў*
*Закончыў клопат свой зямны.*

*З дасвецця льюць аблокі слёзы,*
*Дубы губляюць жалуды,*
*І хіляць голаў вербалозы*
*У ціхім смутку ля вады...*

**Валеры СТРАЛКО**

**Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа глыбока смуткуюць з прычыны смерці старэйшыны беларускай літаратуры, найбліжэйшага сябра Коласавага дому — Максіма ЛУЖАНІНА.**

**Калектыў Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту выказвае глыбокае спачуванне дырэктару Ткацэвічу Георгію Андрэевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.**

**Пісьменнікі Гродна выказваюць глыбокае спачуванне Віктару Сямёнавічу Кудлачову з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці жонкі Валянціны Серафімаўны.**

БЫЛОЕ

# Фота-загадка

Гэтыя "тры волаты" — удзельнікі інструментальнага ансамбля "Арбіта-67". Угледзьцеся: можа, пазнаеце?

Злева направа: Уладзімір Мулявін (сола-гітара), Юрый Марыноўскі (рытм) ды Валерый Фралоў (бас).

Ансамбль "Арбіта-67", год стварэння якога ўвайшоў у яго назву, акампанаваў салістцы Белдзяржфілармоніі Нэлі Багуслаўскай. Апроч гэтай "тройцы", у ім igралі саксафаніст Уладзіслаў Місевіч, трубач Міхаіл Гальдштэйн, барабаншчык Марк Шмелькін ды клавішнік Ізмаіл Капланаў, які ансамблем кіраваў. У кожнага з музыкантаў жыццё склалася па-рознаму. Што да герояў гэтага здымка...

Уладзімір Мулявін усяго праз год арганізуе ўласны гурт, які назаве "Лявоны". Яшчэ праз два гады "Лявоны" ператворацца ў "Песняроў". Што было далей, мы ведаем.

Прафесійны гітарыст Юрый Марыноўскі доўгі час верай і праўдай "служыў" у розных філарманічных эстрадных калектывах: пасля "Арбіты-67" трапіў у ансамбль "Тоніка", які акампанаваў Віктару Вуячычу, потым апынуўся ў кампаніі вядомага артыста Віктара Сінайскага. З 1989 года Юрый Марыноўскі займаецца бізнесам.

Валерыя Фралова, на жаль, ужо няма сярод жывых. Многія, глянуўшы на гэты здымак, шчыра здзіўляюцца: як, заслужаны артыст Беларусі, вядомы габаіст Фралоў — і раптам іграе на гітары?.. Але гэта не фотарозыгрыш. Музыкант у той час сумяшчаў эстраду і акадэмічнае мастацтва. Эстрада, напэўна, была яго хобі. Урэшце, Валерый Фралоў цалкам звязаў сябе з філарманічным мастацтвам: іграў на габоі ў Дзяржаўным сімфанічным аркестры Беларусі, у ансамблі "Кантабіле".

Колькі вады сплыло!..

**Вольга БРЫЛОН**



*Фота 1967 г. з архіва Юрыя МАРЫНОЎСКАГА*



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## "ІР": кастрычнік-снежань

Імпрэзы пад грыфам "ІР" (абрэвіятура Польскага інстытута ў Мінску) спраўна робяць разнастайным наша культурнае жыццё. У планах на заключны квартал 2001 года — таксама нямала прывабнага для знаўцаў ды аматараў гісторыі, літаратуры, мастацтва.

Разам з беларускімі спецыялістамі Польскі інстытут спрычыняецца, напрыклад, да арганізацыі ўжо трэцяй навуковай канферэнцыі "Палітычная культура і юрыдычная адказнасць" (Баранавічы, 1-2 снежня), III Міжнароднай канферэнцыі маладых навукоўцаў "Актуальныя праблемы мовы" (Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка, 30-31 кастрычніка), да падрыхтоўкі матэрыялаў выдання "Анталогія сучаснага беларускага мыслення" (Беларускі калегіум, снежань).

Плануюцца рэгулярныя паказы навінак польскага кіно і фільмаў з яго гісторыі, творчая сустрэча з вядомым акцёрам Даніэлем Альбрыхскім і прагляд стужак з яго ўдзелам (Мінск, лістапад); відэапаказ спектакля "Дзяды" паводле паэмы А. Міцкевіча і лекцыя пра традыцыі ды гісторыю польскіх пастановак гэтага твора (Мінск, 23-26 лістапада).

Цікавыя падзеі чакаюцца і ў музычным жыцці. Добра знаёмая мінчукам флейтыстка, прафесар Альжбета Гаеўска правядзе майстар-класы для студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі ды выступіць з канцэртам (29 кастрычніка — 3 лістапада). Падчас Міжнароднага фестывалю "Беларуская музычная восень" чакаецца прыезд аркестра "Jeunesses Musicales" (27 лістапада). У Міжнародным фестывалі імя І. Салярцінскага возьмуць удзел польскія прафесары Ежы Станкевіч, Збігнеў Буярскі, Анджэй Пікуль (Віцебск, 6-11 снежня). А напярэдадні Калядаў, 18 снежня, у Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы ў Мінску, выступіць са святочнай праграмай наш вядомы хор "Consonans".

**С. Б.**



Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

•

Праблема мабільных тэлефонаў — гэта сёння праблема "шмону". Як пазбегнуць падказак на экзаменах, калі шпаргаляць па тэлефону?

•

Ля дошкі з аб'явамі. "Адміністрацыйная дзейнасць у сферы кіраўніцтва". ...Умомант садралі ўсе тэлефоны. "Патрабуюцца рабочыя фармаваць газоны"... Не кранулі аніводнага талона. Любім пакіраваць, ахламоны!...

•

Не блытай адзінокіх з самотнымі! За адзінокімі ніхто не стаіць, а самотных, мой харошы, як на хустцы гарошын. Дык раней, чым дапытвацца, што да чаго, дазнайся лепей, хто за кім.

•

Не прэтэндую на славу Пастэра ці якога другога свяцілы. Хай маім імем завецца хоць бы спосаб абеззаражвання бацылы. І каб ужо піва, віно і іншыя там напоі апрацоўваліся памойму, само сабою. Во калі загучыць пак мастакоўскі гэтае "Марцін Коўзкі".

•

Амаль па слоўніку: эротыка — сфера інтымных адносін; парнаграфія — спекуляцыя на гэтай сферы (гл. "кіно", "тэлебачанне").

•

На выстаўцы замкоў "Нас не ўзламаць" канкурэнтаў было шмат. Але першынства аддалі таму, хто дастаў чужое пісьмо і прачытаў яго, не дакрануўшыся да скрынкі.

•

"Дэменцыя"... У Расіі хоць нешта, хай захворванне, называюць імем паэта. А ў нас што — паэтаў няма? І дэментных хапае. Хіба што Дзяменцевых няма.

Міхась МІРАНОВІЧ

## Фрашкі

### Што спераду, што ззаду...

*Вось так жыццё*
*Сабе ідзе —*
*З напасцямі*
*Не размінуцца.*
*Наперад*
*Боязна глядзець.*
*Назад жа —*
*Брыдка азірнуцца.*

### Як утрымаць мужа?

*Вы мужыку*
*Падставы не давайце,*
*Каб не глядзеў*
*У бок чужых варот —*
*Яму часцей*
*Абдымкі раскрывайце*
*І трохі меней*
*Адкрывайце рот.*

### Вершы пры лучыне

*Пісалася лепей раней*
*Па прычыне,*
*Якую адкрыю усім,*
*Не зманю:*
*Пры свечках*
*пісалі калісь,*
*Пры лучыне,*
*Таму больш было*
*У іх вершах агню.*

### Бярэ Бог...

*У пяты раз*
*Забраў*
*Бог жонку —*
*Жаніўся шосты раз*
*Ілля,*
*І так тлумачыў*
*Тую гонку:*
*— Што ж, Бог бярэ —*
*Бяру і я.*

### Інтурызм

*Для дабрабыту*
*Маем шанц харошы,*
*Бо ёсць падставы ў нас*
*Для інтурызму —*
*Паказваць можам*
*Мы усім за грошы*
*Руіны*
*нашага сацыялізму.*

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

### Пакуты рыкшы

...Цяжка з хады пераходзіць на бег
І усміхацца так, як японцы.

**Ігар ПРАКАПОВІЧ**

*Каму пілотам вельмі стаць ахвота,*
*Хто бачыць дылерам сябе прывыкшы,*
*Мне ж даспадобы іншая работа:*
*Я першым стаў на Беларусі рыкшам!*

*Адно шкада — гады мае не тыя.*
*Ад бегу часцяком бывае дрэнна.*
*Ўсміхацца мне — каб зубы залатыя! —*
*Не гэтак, як раней было, прыемна.*

*Пакуль трушком бягу і ўсё чакаю:*
*Калі ж другое з'явіцца дыханне?*
*А мо Пегаса лепш захамутаю?*
*Глядзіш — і на Парнас мой воз усцягне!*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Уладзімір МАРУК** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| приёмная рэдакцыі | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі | 284-7985 |
| паэзіі і прозы | 284-7985 |
| музыкі | 284-8153 |
| тэатра, кіно | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва | 284-8462 |
| фотакарэспандэнт | 284-8462 |
| бухгалтэрыя | 284-8462 |
| Тэл./факс | 284-7965 |



*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 18.10.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6093

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12